## УКАЗ

ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 158

## АБ СЦЯГУ ПЕРАМОГІ

Ва ўдзячную памяць аб усенароднай гераічнай барацьбе супраць гітлераўскіх захопнікаў за гонар, свабоду і незалежнасць Радзімы ў гады Вялікай Айчыннай вайны **пастанаўляю:**

1. У дні дзяржаўных святаў Рэспублікі Беларусь, дні воінскай і партызанскай славы, пры правядзенні воінскіх рытуалаў і народных урачыстасцей у гонар ратных подзвігаў народа Беларусі дублікат і сімвал Сцяга Перамогі і Дзяржаўны сцяг СССР выкарыстоўваюцца разам з Дзяржаўным сцягам Рэспублікі Беларусь.

2. Дублікат Сцяга Перамогі, узнятага над рэйхстагам у маі 1945 г., выносіцца 9 мая ў Дзень Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гадоў, 23 лютага — у Дзень абаронцаў Айчыны і 3 ліпеня — у Дзень вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў пры ўскладанні вянкоў да Вечнага агню на плошчы Перамогі прадстаўнікамі дзяржаўнай улады, правядзенні ўрачыстых пасяджэнняў, парадаў войскаў і шэсцяў ветэранаў Савецкай Арміі, партызан і падпольшчыкаў Вялікай Айчыннай вайны на плошчы Незалежнасці ў горадзе-героі Мінску.

3. У іншых выпадках, прадугледжаных пунктам 1 гэтага Указа, выкарыстоўваюцца сімвал Сцяга Перамогі і Дзяржаўны сцяг СССР.

4. Сімвал Сцяга Перамогі ўяўляе сабой палотнішча чырвонага колеру з відарысам пяціканечнай зоркі, серпа і молата.

5. У выпадках, прадугледжаных пунктам 2 гэтага Указа, могуць выносіцца таксама баявыя сцягі падраздзяленняў і часцей савецкіх Узброеных Сіл, пераможнікамі якіх з'яўляюцца падраздзяленні і часці Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, сцягі партызанскіх злучэнняў і брыгад, Чырвоныя сцягі горада-героя Мінска, Брэсцкай крэпасці-героя, ордэна Айчыннай вайны І ступені горада Магілёва, ордэна Чырвонага Сцяга Ленінскага камсамола Беларусі.

6. Гэты Указ уступае ў сілу з дня падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

6 мая 1996 г.
г. Мінск.

## ПАЛІНЕ АНДРЭЕЎНЕ МАШЭРАВАЙ — 80 ГАДОЎ



Ціхі, утульны дом па вуліцы Чырвонаармейскай, 13, які патануў у веснавой зеляніне, вядомы многім мінчанам: тут жыў Пётр Машэраў, чалавек, якога свята памятаюць і ўшаноўваюць беларусы не аднаго пакалення. 5 мая ў доме з самай раніцы не змаўкаў тэлефон. У гэты дзень Паліне Андрэеўне Машэравай споўнілася 80 гадоў.

Па існуючай традыцыі ўсе сямейныя ўрачыстасці Машэравы святкуюць у кругу сям'і. Але на гэты раз прыйшлося крыху адступіць ад правілаў: павіншаваць Паліну Андрэеўну з юбілеем у дом на Чырвонаармейскай прыйшлі прадстаўнікі кіраўніцтва краіны. Ад імя Вярхоўнага Савета Беларусі і яго Прэзідыума кветкі і падарунак юбілярцы ўручыў спікер беларускага парламента Сямён Шарэцкі, а ад імя Прэзідэнта рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі — памочнік кіраўніка дзяржавы Сяргей Посахаў.

Многа гадоў назад лёс звязаў Паліну Андрэеўну з чалавекам, якога цяпер па праву лічаць гордасцю беларускай нацыі. Не адно дзесяцігоддзе муж і жонка прайшлі побач, спазна адчуўшы радасць сямейнага жыцця, падзяляючы пры гэтым гора і радасці ўсяго народа. А былі моманты, калі Паліна Андрэеўна брала на свае жаночыя плечы нават большую частку жыццёвых праблем і клопатаў. Усё гэта не можа забыцца беларусамі. Як сказаў Сямён Шарэцкі, кожны крок, кожная хвіліна яе жыцця — «гэта, па сутнасці, прадаўжэнне ўсяго таго, што зрабіў для Беларусі Пётр Міронавіч Машэраў».

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

## САМАГУБСТВАЎ СТАЛА МЕНШ, АЛЕ НЕНАМНОГА

**Паводле даных аддзела дэмаграфічнай статыстыкі Мінстата, за першыя тры месяцы гэтага года на Беларусі быў адзначаны 641 выпадак суіцыду.**

Сумна, але факт: калі ў студзені добраахвотна развіталася з жыццём вырашылі 211 нашых суайчыннікаў, у лютым 188, то ў сакавіку крывая самагубстваў рэзка пайшла ўверх — 252 выпадкі. Крыху суцяшае хіба што наступнае: у студзені—сакавіку 1995 года колькасць суіцыдаў была яшчэ большай — 693 выпадкі.

**Сяргей ГРЫБ.**

Рыгор КІСЕЛЬ:

## «КОЖНЫ ЖУРНАЛІСТ ПАВІНЕН ПЕРААДОЛЕЦЬ КОМПЛЕКС ПРАВІНЦЫЯЛАЎ»

**Па традыцыі, 7 мая на Беларусі адзначаецца дзень работнікаў тэлебачання і радыёвяшчання. З гэтай нагоды наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь Рыгорам КІСЯЛЁМ.**

**— У свой час у адным з першых інтэрв'ю на новай пасадзе вы казалі, што ваша мара — стварыць вартую канкурэнцыю расійскім радыё- і электронным сродкам масавай інфармацыі на Беларусі. Сёння, амаль праз два гады, наколькі гэта ўдалося ажыццявіць?**

— Пэўныя зрухі ёсць, але стварыць сапраўднай канкурэнцыі расійскім каналам мы пакуль не здолелі. Безумоўна, таму ёсць аб'ектыўныя прычыны (вядома, напрыклад, што ўсе інтэлектуальныя і фінансавыя сілы колішняга Саюза, у тым ліку і беларускія, сёння сканцэнтраваны ў Маскве); але я не хачу апраўдвацца. Многае залежыць ад нас саміх. Ад таго, калі нашы журналісты пераадолеюць комплекс правінцыялаў, калі яны ўсвядомяць, што Беларусь — самастойная, суверэнная дзяржава. Толькі пасля таго можна будзе весці гаворку аб нейкай канкурэнцыі з расійскімі СМІ.

**— Не сакрэт, што сёння нашу тэлерадыёкампанію з усіх бакоў папракаюць у тэндэнцыйнасці і нават у скажэнні інфармацыі. Што вы можаце адказаць на падобныя выпады?**

— Прэзідэнт — гэта галава дзяржавы, адпаведна, мы адлюстроўваем пункт гледжання дзяржавы. Што датычыць размоў аб тым, аб'ектыўнае ці неаб'ектыўнае сёння наша тэлебачанне, ведаеце, зрабіць тэлевізійную карцінку падзеі неаб'ектыўнай вельмі складана.

**— Яшчэ адзін распаўсюджаны папрок: складваецца ўражанне, што апошнім часам з нашых тэлебачання і радыё паступова пачынае знікаць беларуская мова...**

— Гэта нас таксама вельмі непакоіць. Некаторыя журналісты імкнуцца рабіць перадачы па-руску таму, што, маўляў, сфера ўжывання гэтай мовы больш шырокая. На самай справе часта рускай мовай спрабуюць прыкрыць непісьменнасць, дакладней, няведанне мовы беларускай. З гэтым мы змагаліся і будзем змагацца надалей.

**— Бадай, апошняе. У святочныя дні прынята крыху зазіраць «за гарызонт». Што за ім?**

— Я па натуры аптыміст. Пасля любых крызісаў у любой краіне пачынаецца пад'ём. Спадзяюся, так яно будзе і на Беларусі ўвогуле, і на Беларускім тэлебачанні і радыё — у прыватнасці.

**Сяргей ГРЫБ.**

ТРАГЕДЫІ

## ЧАРГОВАМУ МАНЬЯКУ ПАДАБАЮЦЦА ДЗЯЎЧАТЫ ПА ВЫКЛІКУ: КАХАННЕ ДА СМЕРЦІ

**Сёння ўжо з упэўненасцю можна сцвярджаць, што на Беларусі, дакладней у сталіцы рэспублікі, з'явіўся чарговы маньяк. Да такой высновы можна прыйсці, зыходзячы з апошніх падзей, пачатак якім паклаў дзень 7 сакавіка, калі была забіта першая жанчына.**

Ахвярамі дамарослага Джэка-Патрашыцеля становяцца дзяўчаты па выкліку. За апошнія паўтара месяца злачынцу ўдалося расправіцца з трыма жанчынамі: другое забойства адбылося 8 красавіка, апошняе ж — 28 красавіка. Злачынствы былі ўчынены на кватэрах у прастытутак.

Пакуль гэтыя забойствы не аб'ядналы ў адну справу, аднак ёсць падставы меркаваць, што рукі ў крыў запэцкаў адзін чалавек. Зусім верагодна, што гэтай справай зоймецца адзін следчы, які і выйдзе на след забойцы. А пакуль гандаль целам у сталіцы краіны стаў, як бачым, не такой ужо і бяспечнай справай.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ВЕТЭРАНЫ — У СПІСЕ ВАЙСКОВЫХ ЧАСЦЕЙ

**Набліжаецца 51-я гадавіна нашай Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Міністр абароны Рэспублікі Беларусь Л. С. Мальцаў уручыў пасведчанні групе ветэранаў вайны аб іх залічэнні ў спісы асабовага саставу вайсковых часцей.**

**НА ЗДЫМКАХ: пасведчанне атрымлівае генерал-маёр у адстаўцы А. В. РАЗАНАЎ.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## ХОЧАШ КВАТЭРУ? КУПЛЯЙ ЛАТАРЭЙНЫ БІЛЕТ

**Многія мінчане прывыклі ўжо да рэкламных аб'яў «Тваё жыллё», што з'явіліся не так даўно ў тралейбусах, аўтобусах, метро беларускай сталіцы. Іх жа можна ўбачыць у паштовых кіёсках, падземных пераходах, дзе спецыяльныя распаўсюджвальнікі за 35 тысяч рублёў прапануюць стаць уладальнікам латарэйнага білета, на які ў сваю чаргу можа выпасці каштоўны прыз, а калі вельмі пашанцуе — дык і шыкоўны аўтамабіль ці нават кватэра. Гэтую акцыю праводзіць фінансава-будаўнічая кампанія «Цэнтрабуд» сумесна з Мінскім гарвыканкомам.**

Апрача чыста спартыўнага інтарэсу (а раптам пашанцуе), латарэя стане своеасаблівым акумулятарам сродкаў на будаўніцтва жылля для малазабяспечаных людзей, бо палова сродкаў, паступіўшых ад рэалізацыі білетаў, прызначана на вызначаныя мэты.

І вось днямі ў Доме літаратара праходзіў розыгрыш прызоў. Паколькі на гэтую дату было прададзена каля 93 тысяч білетаў (планавалася рэалізаваць у некалькі разоў больш), то і колькасць прызоў аказалася меншай. І ўсё ж былі разыграны два аднапакаёвыя і адна двухпакаёвая кватэры, а таксама шыкоўны «Фольксваген» і дзве «Волгі». Многія ўладальнікі выйгрышных білетаў атрымалі ў якасці прызоў відэамагнітафоны, відэакамеры, відэаплееры, пральныя машыны, музычныя блокі...

— Нашы людзі паспелі ўжо адвыкнуць ад латарэй, — тлумачыць сітуацыю прэзідэнт «Цэнтрабуда» Генадзь Максімаў. — А таму на першым часе не вельмі ахвотна набывалі білеты. Да таго ж, ранейшыя арганізатары латарэй на выйгрышы выдзялялі мізэрныя сродкі (на ўсю вялікую краіну — усяго лічаныя машыны), а таму грамадзяне хутка расчараваліся ў гэтых самых білетах. Мы ж свядома пайшлі на дадатковыя выдаткі, каб пацвердзіць ісціну: іграў — і выйграў. Рэалізацыя білетаў працягваецца. Наступны тур розыгрышу прызоў — 30 верасня. А потым адбудуцца яшчэ два туры.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

## «ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН»

**Вам не выплацілі ў час зарплату? — Званіце ў «Звязду»**

Быў час, калі «дошка Гонару» і іншыя формы маральнага заахвочвання выразна ўплывалі на выніні працы. Людзей узнагароджвалі добрым словам. Сёння час такі, што людзям цяжка атрымаць самімі ж заробленае. Безумоўна, многа на тое — прычын аб'ектыўных. І ўсё ж часам атрымліваецца дзіўная рэч: у адной і той жа галіне адны атрымліваюць зарплату, іншыя — чакаюць свайго кроўнага рубля месяцамі. Значыць, многае залежыць ад чалавечага фактару, ад разваротлівасці. У першую чаргу — ад разваротлівасці кіраўніцкай, адміністрацыі, усяго апарату, усіх службаў кіравання. Беручы пад увагу і гэтую акалічнасць, «Звязда» таксама адкрывае свайго роду «чырвоную дошку» (хутчэй — «чорную», ці «чорнага гонару»). Даючы вам тэлефон 68-28-72, «Звязда» бярэ на сябе клопат агучваць імёны прадпрыемстваў, устаноў, гаспадарак, дзе з людзьмі абыходзяцца найбольш жорстка, падоўгу не выплачваюць зарплату. Званіце нам штодня з 10 да 13 гадзін. Будзем разам шукаць, на якім эканамічным (альбо адміністрацыйным) прыпынку згубіўся цягнік з грашыма, што належаць вам за працу.

## У СВЕЦЕ

### ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

● **ЗЮГАНАЎ АДМОВІЎСЯ АД ІДЭІ ПЕРАНОСУ ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ**

Лідэр расійскіх камуністаў Генадзь Зюганаў адмовіўся ад ідэі пераносу прэзідэнцкіх выбараў у Расіі, паколькі гэта з'яўляецца парушэннем Канстытуцыі. Гэта стала рэакцыяй асноўнага канкурэнта Ельцына на прэзідэнцкіх выбарах на выступленне дарадцы цяперашняга прэзідэнта Расіі з прапановай адкласці правядзенне выбараў. На думку Зюганава, гэта можа выклікаць сур'ёзныя канфлікты ў грамадстве. Зюганаў заявіў у тэлеінтэрв'ю, што закон павінен стаяць над думкай індывідыумаў, нават высокапастаўленых. У адваротным выпадку не будзе ні закона, ні парадку.

● **ЖАНЧЫНАМ ПАДЫХОДЗІЦЬ РОЛЯ... ЛІДЭРА**

Жанчыны-палітыкі, дзеячы бізнесу, навукоўцы сабраліся ў сталіцы Швецыі Стакгольме на спецыяльную канферэнцыю, мэта якой — павышэнне значэння ролі жанчыны ў міжнародным жыцці. Сярод прадстаўніц, што ўдзельнічаюць у гэтым буйным міжнародным форуме, жанчыны-прэзідэнты Ісландыі і Ірландыі, а таксама 6 былых прэм'ер-міністраў. Адна з іх, былы прэм'ер Дамініканскай Рэспублікі Юджына Чарльз, заявіла, што жанчынам лепш падыходзіць роля лідэра, паколькі яны прымаюць больш правільныя рашэнні ў параўнанні з мужчынамі і маюць іншыя прыярытэты. Напрыклад, палепшэнне аховы здароўя замест высокіх дарагіх будынкаў і офісаў.

● **У МАСКВЕ ЗАТРЫМАНЫ АГЕНТ 007**

Агент англійскай разведкі, грамадзянін Расіі, арыштаваны ў Маскве органамі Федэральнай службы бяспекі. Ён быў узяты на месцы злачынства пры правядзенні ім сувязі з разведцэнтрам. Падчас вобыску ў агента знойдзена шпіёнская экіпіроўка. У ходзе следства арыштаваны прызнаў факт зносінаў з разведкай Вялікабрытаніі. Ён даў падрабязныя паказанні аб абставінах сваёй вярбоўкі і супрацоўніцтва з разведкай.

● **«ТАМІЛЬСКІЯ ТЫГРЫ» АКТЫВІЗАВАЛІСЯ**

Як заявілі афіцыйныя прадстаўнікі уладаў Шры-Ланкі, у выніку атакі «тамільскіх тыграў» на патруль загінулі 10 чалавек. Як паведамляе карэспандэнт Бі-бі-сі, пачасціліся атакі «тамільскіх тыграў» пасля таго, як гэтая апазіцыйная групоўка страціла кантроль над адным з асноўных населеных пунктаў — Джафнай.

● **ЧАРГОВАЯ «ВУТКА» ДУДАЕЎЦАЎ**

МУС Расіі абвергла паведамленне галоўнага дудаеўскага штаба аб разгроме ў выніку засады калоны федэральных войскаў у раёне горада Аргун. Раніцай 5 мая з Аргуна ў бок Гудэрмеса выйшла калона ўнутраных войскаў з баявой аховай у саставе 10 аўтамашын. Прыкладна ў 15 км ад Аргуна на калону напалі баевікі і абстралялі яе з мінамётаў. Падраздзяленні ўнутраных войскаў далі адпор баевікам — 4 апалчэнцы загінулі. Аўтакалона не страціла ні адной аўтамашыны і працягнула свой шлях.

*Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і Радыё 101,2 слухаў Сяргей ПРОТАС.*

### ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Французскім уладам у паўднёвых дэпартаментах краіны прыйшлося нямала паламаць галаву над тым, каб і авечкі былі цэлыя і ваўкі сытыя. Справа ў тым, што ў перадгор'ях Альпаў пасля 60-гадовай іх адсутнасці зноў з'явіліся шэрыя драпежнікі. У мінулым годзе яны задралі 473 авечкі, тады як тры гады да гэтага іх ахвярамі сталі ўсяго 36 жывёл. Фермеры запатрабавалі расправы. Аднак на абарону ваўкоў сталі экалагісты і абаронцы дзікай прыроды. Цяпер у рэгіёне, дзе з'явіліся ваўкі, выдзелены зоны, у межах якіх яны лічацца ахоўваемымі прадстаўнікамі фауны.

**Рэйтэр**

*Жыхары японскай сталіцы маюць звычку падсушваць банкноты над храмавым ачагом пасля рытуальнага абмывання грошай у свяшчэннай сінтаісцкай крыніцы непадалёку ад Токіо. Зразумела, няма нічога агульнага з мафіёзным адмываннем грошай. Проста існуе павер'е, што калі акуныць купюру ў гэту крыніцу, дык потым грошы цэлы год не будуць пераводзіцца.*

**Асашыэйтэд Прэс**

Веснавыя масавыя спартыўныя спаборніцтвы ахопліваюць самыя розныя групы насельніцтва. У Баку ад аматараў спорту не застаюцца і нудысты. У амерыканскім горадзе Ан-Арбор яны ў чым маці нарадзіла правялі традыцыйны штогадовы забег. На старт выйшлі каля 600 голых спартсменаў жаночага і мужчынскага полу. Паглядзець на іх сабралася прыкладна 8 тысяч гараджан.

**«Известия».**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на паўднёва-ўсходняй палавіне пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску і Гродне — 15—17, Брэсце, Магілёве і Мінску — 16—18, Гомелі — 17—19 градусаў цяпла.

*Віншуем з днём нараджэння Анатоля Васільевіча Дабравольскага з Мінска.*
*Абходзіць хай твой дом зацёды бяда.*
*На чыстым зорным небасхіле не згасне хай твая звязда.*

Калегі па працы.

## ПЛЯЦЁМСЯ Ў ХВАСЦЕ ЕЎРОПЫ

***Усім добра вядома, што Беларусь імпартуе з Расіі і газ, і нафту. Таксама вядома, што Беларусь валодае і ўласнымі энергарэсурсамі. У якой ступені забяспечвае сябе энерганосьбітамі наша рэспубліка? На колькі гадоў хопіць рэсурсаў?***

**В. Ціхановіч, г. Мінск.**

Беларусь, якая імпартуе з Расіі 95 працэнтаў спажываемай нафты і 98 працэнтаў прыроднага газу, займае адно з апошніх месцаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе па забяспечанасці энергарэсурсамі. У 1990 годзе ўласныя рэсурсы рэспублікі пакрывалі крыху больш за 10 працэнтаў яе патрэбы ў энерганосьбітах. У 1994 годзе іх доля павялічылася да 15 працэнтаў — на жаль, гэта адбылося за кошт агульнага спаду вытворчасці. Пласты, якія распрацоўваюць у Беларусі, перасягнулі пікавы рубеж вытворчасці яшчэ ў сярэдзіне 70-х гадоў. У апошнія гады здабыча нафты даволі стабільная — 2 мільёны тон у год. Пры такім узроўні здабычы запасаў хопіць на 12 гадоў. А яшчэ неразведаных рэсурсаў, па ацэнках спецыялістаў, хопіць на 35 гадоў.

## ДЗЯЎЧАТЫ, ГЭТА НЕ ПРАБЛЕМА!

***Хутка пачнецца лета, купальны сезон. Ды і проста хочацца надзець кароткую спадніцу... Аднак у мяне ўзнікла сур'ёзная праблема — валасы на нагах. Падкажыце, як пазбавіцца ад валаскоў?***

**Алёна С. Віцебская вобл., Святлана Панкова, г. Мінск, Таццяна Ю., г. Магілёў.**

Як сцвярджаюць спецыялісты, спосабаў эпіляцыі (выдалення валасоў) некалькі: дэпіляцыйныя крэмы і аэразолі абыдуцца вам усяго ў 2—5 долараў. Састаў наносіцца на скуру і праз некалькі хвілін здымаецца разам з валаскамі. Аднак ужо праз 3-4 дні з'явяцца новыя, больш цвёрдыя валасы.

Вібраэпіляцыя. Таксама можна праводзіць у хатніх умовах. Кошт залежыць ад цаны фірменнага электраэпілятара — не менш як 60—70 долараў. Карыстацца ім можна некалькі гадоў. Прыбор захоплівае і выдзірае валаскі. Праз 6-7 дзён яны з'яўляюцца зноў.

Біяэпіляцыя робіцца ў касметычных салонах. Тонкі слой «смалы» (разагрэтае парафінападобнае рэчыва) наносіцца на скуру, а пасля таго, як застыне, здымаецца палоскамі. Валаскі выдзіраюцца. Новыя з'явяцца дзесьці праз тыдзень.

Электраэпіляцыя. Працэдура даволі балючая: вельмі тонкі электрод уводзіцца ў скурную валасяную цыбуліну і прапальвае яе. Каб поўнасцю разбурыць цыбуліны, працэдуру трэба паўтарыць некалькі разоў. Гэта паслуга каштуе не вельмі танна, затое вы назаўжды пазбавіцеся ад валасоў.

## НЯДЗЕЛЯ — ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ТЫДНЯ

***Ці праўда, што нядзеля на самай справе не апошні, а першы дзень тыдня? Калі так, чаму ён не рабочы?***

**Н. Казлова, г. Полацк.**

Хутчэй за ўсё, так яно і ёсць. Калі вы нейкім чынам сутыкаліся са Старым запаветам, то павінны былі заўважыць, што там галоўным днём была субота. Згодна з Біблііяй свята суботы ўстаноўлена Богам (Бог стварыў свет за 6 дзён, на сёмы, блаславіўшы і асвяціўшы яго). Дзень уваскрэсення Хрыста быў вызначаны як першы пасля суботы — «во едину от субот». Гэты дзень — дзень уваскрэсення — і стаў галоўным днём сядміцы. Рускія называюць гэты дзень «воскресенье», а мы, беларусы, як і нашы продкі, называем яго па-славянску: нядзеля — гэта значыць нерабочы, святочны дзень. З нядзелі для нашых продкаў і пачыналася сядміца — у адпаведнасці з літургічным распарадкам. Наступны дзень за нядзеляй пачаў называцца панядзелкам, другі — аўторкам і г. д. Такім-чынам, субота аказалася галоўным, завяршальным днём тыдня. Указ жа аб святкаванні нядзельнага дня быў прыняты 20 сакавіка 321 года рымскім імператарам Канстанцінам Вялікім.

## МОЛАДЗЬ ТАКСАМА ЦЯГНЕ НА ПРАЦУ ЗА МЯЖУ

***Ці ёсць у сталіцы фірмы, якія накіроўваюць на працу за мяжу маладых? Наколькі небяспечна даверацца ім?***

**Вікторыя Глаўнік, г. Чашнікі.**

З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся ў Міністэрства працы РБ. Нам адказалі, што ў рэспубліцы існуюць такія фірмы і спіс іх даволі вялікі. Аднак далёка не ўсе маюць ліцэнзію міністэрства на гэты від дзейнасці. Таму вам трэба звярнуцца ва ўпраўленне знешняй працоўнай эміграцыі дзяржаўнай эміграцыйнай службы Міністэрства працы з просьбай прадаставіць інфармацыю. Зрабіць гэта можна па тэлефоне 23-45-14 або пісьмова. Адрас міністэрства: 220004, г. Мінск, прасп. Машэрава, 23, корпус 2. І не хвалюйцеся — вам абавязкова адкажуць.

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ЗАМЕНА НУМАРНОГА ЗНАКА?

***«Паважаная «Звязда». Ужо некалькі разоў на вашых старонках з'яўляўся матэрыял аб маючай адбыцца замене нумарных знакаў. Мяне, як вадзіцеля і аўтааматара, вельмі турбуе гэтая праблема. Хацелася б ведаць, на які час расцягнецца гэтая акцыя і колькі будзе каштаваць замена нумара?***

**Аляксандр Чаклінскі, г. Мінск.**

Ва ўпраўленні ДАІ Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі нам паведамілі, што зараз па дарогах рэспублікі «раскатваюць» аўтамабілі з трыма відамі нумарных знакаў: чорныя знакі на белым фоне, белыя знакі — на чорным і чырвоныя — на белым. Па гэтай прычыне паўтараюцца многія серыі (МИА, МИФ, МИС і іншыя), што прыводзіць да блытаніны, асабліва ў час пошуку аўтамабіля, які знік з месца дарожнага здарэння ці быў украдзены.

Вось па гэтых прычынах і прынята рашэнне аб замене нумароў. Вядома, улічвалася пры гэтым і тое, што ў 1992 годзе Рэспубліка Беларусь, як незалежная дзяржава, увяла ўласныя нумарныя знакі, адрозныя ад тых, што існавалі ў СССР. Сёлета ў першую чаргу падлягаюць замене нумары самага старога ўзору — белыя сімвалы на чорным фоне, а таксама серыі ОЛМ, МИС, Axxxx TX. У 1997 годзе будуць заменены нумарныя знакі з чорнымі сімваламі на белым фоне, якія ўстаноўлены на транспартных сродках індывідуальных уладальнікаў, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў. Аплачваць новыя нумарныя знакі будуць уладальнікі аўтатранспарту. Кошт замены ўстаноўлены ў памеры 300 працэнтаў мінімальнай зарплаты (на сённяшні дзень гэта 300 тысяч). За тэхпашпарт — 130 працэнтаў мінімальнай зарплаты. Пры атрыманні новага нумарнога знака замена тэхнічнага пашпарта не патрабуецца.

## ЯК ГАНДЛЮЕМ?

***Хацелася б даведацца, ці ёсць якія-небудзь даныя на сённяшні дзень па аб'ёму знешняга гандлю нашай рэспублікі ў бягучым годзе?***

**Андрэй Пепяліца, Мінск.**

Як удалося высветліць, Міністэрства статыстыкі і аналізу падвяло вынікі за студзень-люты гэтага года. Так, аб'ём знешняга гандлю краіны за гэты перыяд склаў 1.906,3 мільёна долараў ЗША: экспарт — 8883 мільярды рублёў, імпарт — 13.041 мільярд. Найбольшую долю ў таварнай структуры экспарту склалі мінеральныя прадукты — 15,6 працэнта ад усяго аб'ёму, сродкі транспарту — 13,3 працэнта, машын і абсталявання — 12,4 працэнта, тэкстылю і тэкстыльных вырабаў — 12,2 працэнта.

З ліку краін далёкага замежжа асноўнымі гандлёвымі партнёрамі рэспублікі з'яўляюцца Германія, Польшча, Латвія, Літва, Нідэрланды, Вялікабрытанія, ЗША — больш за палову гандлёвага абароту з замежнымі краінамі. Што ж датычыцца партнёраў з блізкага замежжа, то тут вылучаецца Расія, аб'ём тавараабароту з якой склаў 83 працэнты, і Украіна — 12,1 працэнта.

## ЦІ МАЕ ЛЬГОТЫ ДОНАР КРЫВІ?

***Яшчэ да распаду Савецкага Саюза я была ўзнагароджана знакам «Ганаровы донар БССР». Аднак у той час гэтая заслуга ніяк не ўлічвалася, і дакументы мной былі згублены. Растлумачце, ці магу я аднавіць выдадзеную мне ўзнагароду і на якія льготы ў гэтым выпадку можна разлічваць?***

**Таццяна Бурба, г. Мінск.**

На гэтае пытанне адказвае намеснік галоўнага ўрача па медчастцы Рэспубліканскай станцыі пералівання крыві Эсфір Свірыноўская:

— Да распаду Саюза донары, якія здавалі кроў больш за 40 разоў, узнагароджваліся медалём «Ганаровы донар СССР», а тыя, хто дзяліўся крывёй больш за 25 разоў, прадстаўляліся да ўзнагароджання знакам «Ганаровы донар БССР». Вы маеце рацыю, у той час істотныя льготы прадугледжваліся толькі для «ўсесаюзных» донараў, а ганаровы донар Беларусі падобнымі льготамі не карыстаўся.

Цяпер Законам Рэспублікі Беларусь ад 31 студзеня 1995 года «Аб донарскай крыві і яе кампанентах» прадугледжана, што донары, узнагароджаныя знакам «Ганаровы донар Рэспублікі Беларусь» могуць карыстацца зусім рэальнымі льготамі. Гэта першачарговае атрыманне льготных пуцёвак у санаторыі і дамы адпачынку, першачарговая шпіталізацыя ў лячэбныя ўстановы і прыём у паліклініцы, бясплатнае пратэзаванне зубоў з некаштоўных металаў, 50-працэнтная скідка з кошту лекаў і 10-працэнтная надбаўка да пенсіі.

Цяпер гэтыя льготы распаўсюджваюцца як на ганаровых донараў СССР, так і БССР. Калі вы згубілі дакументы аб донарстве, іх можна аднавіць толькі ў арганізацыях Чырвонага Крыжа паводле іх архіўных даных.

## ВУЛІЦА ІМЯ ГЕРОЯ

***Адна з вуліц беларускай сталіцы названа імем Бельскага. Наколькі я ведаю, гэта быў адзін з кіраўнікоў барацьбы супраць фашыстаў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Раскажыце, калі ласка, пра гэтага чалавека больш падрабязна.***

**Мікалай Конюхаў, г. Мінск.**

Іосіф Аляксандравіч Бельскі і сапраўды быў адным з арганізатараў і кіраўнікоў падпольнай дзейнасці і партызанскага руху на тэрыторыі нашай рэспублікі ў гады вайны.

Нарадзіўся ён у 1903 годзе ў вёсцы Лошыца Першая, якая пазней увайшла ў састаў Мінска. Чатырнаццацігадовым падлеткам працаваў на чыгунцы. У 1929-м уступіў у партыю камуністаў. У 1939 годзе прымаў удзел у вызваленчым паходзе Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь. А ў 1941-м скончыў прамысловую акадэмію ў Маскве. У сакавіку таго ж года быў абраны сакратаром Мінскага абкома партыі.

З ліпеня 1941-га па ліпень 1944 года Іосіф Бельскі з'яўляўся сакратаром Мінскага падпольнага абкома КП(б) Беларусі, адначасова — з мая па чэрвень 1943-га і з лютага па ліпень 1944-га — камандзірам Мінскага партызанскага злучэння. Дарэчы, Іосіф Аляксандравіч прымаў актыўны ўдзел у наладжванні выпуску ў партызанскай зоне на востраве Зыслаў на Любаншчыне газет «Звязда» і «Чырвоная змена». Удзельнічаў, як сведчыць архіў, у стварэнні больш чым 60 падпольных пярвічных партыйных арганізацый на тэрыторыі Палескай і Мінскай абласцей, у шэрагу буйных баявых аперацый партызан. За асабістую мужнасць і адвагу, умелае кіраўніцтва партызанскім рухам у 1944 годзе Іосіфу Бельскаму было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Пасля заканчэння вайны ён працаваў сакратаром Мінскага гаркома партыі, старшынёй Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў. На працягу двух скліканняў быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Памёр Іосіф Аляксандравіч Бельскі ў чэрвені 1966 года і пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

## ПАМЫЛКУ ПРЫРОДЫ МОЖНА ВЫПРАВІЦЬ І Ў БЕЛАРУСІ

***Апошнім часам у газетах шмат пішуць пра розныя сексуальныя меншасці, транссексуалаў і аперацыі па змяненню полу. Ці праводзіліся такія аперацыі ў Беларусі і колькі гэта каштуе?***

**М. В. г. Мінск.**

Па ацэнках спецыялістаў, статыстычна дакладная колькасць транссексуалаў у Беларусі — каля 200 чалавек (суадносіны паміж жанчынамі і мужчынамі — 20:1). Сорак з іх рашыліся заявіць аб сваіх праблемах і звярнуліся ў органы аховы здароўя Рэспублікі Беларусь з просьбай зрабіць аперацыю па змяненню полу. Сярэдні ўзрост гэтых людзей 23—27 гадоў. Пачынаючы з 1992 года 12 чалавек ужо прааперыраваліся на тэрыторыі рэспублікі. Астатнія пакуль праходзяць сексапаталагічную, псіхалагічную, генетычную і шэраг іншых экспертыз. Калі казаць пра кошт, то поўны цыкл аперацый па змяненню полу на Захадзе каштуе не адзін дзесятак тысяч долараў. Беларускія ж пацыенты здаюць у бальнічную касу эквівалент 600—700 долараў. Аднак узровень паслуг нашых мікрахірургаў не ўступае іншаземнаму.

## У КАГО БОЛЬШ ГРОШАЙ НА КРЭДЫТЫ?

***Падкажыце, якія банкі ў гэтым годзе найбольш выдалі крэдытаў прадпрыемствам і насельніцтву?***

**Людміла Валыніна, Гомель.**

У I квартале гэтага года больш за ўсё крэдытаў прадпрыемствам і насельніцтву рэспублікі прадаставілі Белаграпрамбанк — 4,5 трыльёна рублёў, Белпрамбудбанк — 2,9 трыльёна рублёў і Беларусбанк — 1,97 трыльёна рублёў. Дададзім, што аб'ём крэдытных укладанняў банкаў Беларусі павялічыўся за гэты перыяд бягучага года на 16,2 працэнта і склаў 15,6 трыльёна рублёў. У асноўным банкі прадастаўлялі крэдыты прадпрыемствам, у прыватнасці, для ажыццяўлення экспартна-імпартных аперацый (12,9 трыльёна рублёў) і для рэалізацыі інвестыцыйных праектаў (2,7 трыльёна рублёў).

## ЯДЗІМ, КОЛЬКІ ДАЗВАЛЯЕ КАШАЛЁК

**Ці праўда, што сярэднедушавое спажыванне хлебабулачных вырабаў складае зараз на Беларусі 271 грам у суткі на чалавека супраць колішніх (яшчэ савецкіх часоў), рэкамендаваных медыцынскімі нормамі, 420 грамаў.**

**Юрый Іваноў, г. Гродна.**

Як адзначаюць самі медыкі, вызначыць сёння новыя рэкамендацыі амаль немагчыма з-за таго, што ежа пераважнай большасці з нас цалкам не збалансавана. Прычына, вядома, адна — купляюць не тое, што карысна і найбольш патрэбна арганізму, а тое, што менш каштуе. Ці не таму нават самы танны прадукт харчавання — хлеб — апошнім часам «страчвае» пазіцыі, нягледзячы на тое, што рост цэн на яго ўжо працяглы час застаецца самым невялікім — усяго 2—3 працэнты ў месяц (у Мінску, дарэчы, ён яшчэ меншы)?

Так, згодна з данымі Міністэрства хлебапрадуктаў, вытворчасць хлеба за першы квартал бягучага года скарацілася ў цэлым па краіне ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года да 98,9 працэнта, кандытарскіх вырабаў — да 89 працэнтаў, сухароў — да 77,7 працэнта, баранчных вырабаў — да 85,6 працэнта. Калі па апошніх дзвюх пазіцыях назіраецца яўная адсутнасць попыту, дык па булачных вырабах усё выглядае наадварот — у першым квартале гэтага года ў параўнанні з тым жа перыядам 1995-га іх вытворчасць склала 104,2 працэнта. Трэба меркаваць, усё гэта з-за невялікіх памераў прадукцыі, якую зручна набываць, каб не было лішкаў у наш час і без таго небагатага жыцця.

Што тычыцца хлеба, яго кошт застаецца даволі высокім, каб карміць ім, як было некалі, хатнюю жывёлу. Гэтым у асноўным і тлумачыцца скарачэнне аб'ёмаў вытворчасці хлеба, які ідзе зараз выключна па прамому прызначэнню.

## «ЗГУБІЎ» ГРОШЫ — АТРЫМАЙ АБЛІГАЦЫЮ

**Чуў, што дэпутацкай фракцыяй «Грамадзянскае дзеянне» распрацаваны і ўнесены для разгляду праект закона «Аб кампенсацыі грамадзянам Рэспублікі Беларусь страт ад абясцэньвання ўкладаў у Ашчадным банку Рэспублікі Беларусь і аблігацый мэтавай беспрацэнтнай пазыкі 1990 года на набыццё тавараў працяглага карыстання». Ці так гэта?**

**Сяргей Казлоў, г. Лепель.**

Згодна з гэтым праектам, урон ад інфляцыйнага абясцэньвання ўкладаў і аблігацый вызначаецца ў доларавым эквіваленце. А па сутнасці будзе вылічвацца як розніца паміж сумай доларавага эквіваленту ўкладу па стану на пачатак 1991 года і сумамі доларавых эквівалентаў на даты частковага ці поўнага зняцця гэтага ўкладу з рахункаў у Ашчадбанку да першых чыслаў гэтага года з улікам сумы кампенсацый і індэксацый, атрыманых укладчыкам.

Для разліку доларавага эквіваленту распрацоўшчыкі праекта ў мэтах першаступеннай кампенсацыі ўрону фізічным асобам з невялікімі памерамі ўкладаў вырашылі ўстанавіць наступны курс рубля да долара на 1.01.91 г.: пры памеры ўкладу да 5000 рублёў — 3 рублі за 1$, ад 5000 да 10.000 руб. — 10 руб. за 1$, ад 10.000 да 15.000 руб. — 15 руб. за 1$, звыш 15.000 — 20 руб. за 1$.

Што датычыцца аблігацый мэтавай беспрацэнтнай пазыкі 1990 г., дык згодна з праектам яны павінны быць кампенсаваны па іх поўнаму кошту на момант набыцця за вылікам сумы фактычнага пагашэння з прымяненнем доларавага эквіваленту.

Кампенсацыя страт укладчыку прадугледжана шляхам выдачы яму ці яго нашчадкам дзяржаўных аблігацый у доларавым эквіваленце на суму нанесенага яму ўрону. Правядзенне работы па кампенсацыі страт укладчыкаў ускладаецца на Кабінет Міністраў.

*Інеса ДРАБЫШЭЎСКАЯ:*

# «Міністэрства аховы здароўя робіць усё магчымае для выжывання галіны і захавання даступнай дапамогі насельніцтву»

**Ва ўмовах глыбокага сацыяльна-эканамічнага крызісу, калі назіраецца павальнае зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці практычна ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі рэспублікі, ахова здароўя з'яўляецца ці не адзінай, дзе з павелічэннем інтэнсіўнасці і аб'ёму працы (рост захворванняў у 1,5 раза) захавалася стабільнасць абслугоўвання насельніцтва. І гэта пры тым, што бюджэтнае фінансаванне гэтай жыццёва важнай галіны скарацілася ў два разы. Як удалося ахове здароўя выстаяць і працягваць стабільна працаваць у такіх няпростых умовах? У якім стане сёння знаходзіцца айчынная ахова здароўя? Што можна сказаць пра агульны стан здароўя насельніцтва Беларусі? З гэтымі і некаторымі іншымі пытаннямі карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да міністра аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Інесы ДРАБЫШЭЎСКАЙ.**



ЭКАНАМІЧНЫ КРЫЗІС і катастрофа на Чарнобыльскай АЭС стварылі надзвычайныя ўмовы, у якіх захоўваецца тэндэнцыя да пагаршэння дэмаграфічных паказчыкаў і стану здароўя насельніцтва. У 1990—1995 гг. смяротнасць насельніцтва ўзрасла на 17,5 працэнта, агульная колькасць захворванняў — на 22,5 працэнта. Натуральны прырост насельніцтва на працягу апошніх гадоў мае адмоўны паказчык і ў 1995 годзе склаў -3,1 на адну тысячу насельніцтва. Паказчык нараджальнасці знізіўся да 9,8 на тысячу насельніцтва пры росце смяротнасці да 12,9 на тысячу чалавек у 1995 годзе. Рэзка павялічылася распаўсюджанасць сацыяльна небяспечных захворванняў. У 1995 годзе зарэгістравана хворых на сіфіліс амаль у 2,5 раза больш, чым у 1994-м. Колькасць захворванняў на дыфтэрыю ў параўнанні з 1990 годам узрасла ў 10 разоў, актыўны туберкулёз — у 1,5 раза, дызентэрыю — у 3,3 раза. Павялічылася колькасць хворых на сардэчна-сасудзістыя і анкалагічныя захворванні. Аднак асноўныя паказчыкі, якія характарызуюць стан здароўя насельніцтва ў рэспубліцы, застаюцца лепшымі, чым у многіх іншых краінах СНД.

**— Як сведчаць вашы словы, за апошнія гады колькасць захворванняў значна ўзрасла. Чым гэта выклікана?**

— Важнейшымі прычынамі пагаршэння стану здароўя насельніцтва сталі: крызісны стан рэспублікі, які прывёў да сацыяльнай дэзадаптацыі насельніцтва і ўзнікнення стрэсавых сітуацый; змяненне ўзроставай структуры (старэнне ва ўмовах падзення нараджальнасці); адсутнасць дакладнай дзяржаўнай палітыкі, накіраванай на фарміраванне ў насельніцтва здаровага ладу жыцця; экалагічныя праблемы. Асобна трэба выдзеліць фінансавы бок праблемы — рэальныя расходы на ўтрыманне сістэмы аховы здароўя ў параўнанні з 1990 годам зменшыліся амаль у два разы.

**— Відавочна, што скарачэнне выдаткаў на ахову здароўя не магло не адбіцца на ўмовах і аплаце працы яе работнікаў. Якімі сіламі змагаюцца медыкі за наша здароўе?**

— У такіх цяжкіх умовах беларускія медыкі прымаюць усе магчымыя меры па ўдасканаленню лячэння і павышэнню якасці медыцынскай дапамогі. На сённяшні дзень у сістэме Міністэрства аховы здароўя Беларусі працуюць 42.297 урачоў і 110.000 сярэдніх медыцынскіх супрацоўнікаў. Амбулаторна-паліклінічная дапамога аказваецца ў 1528 медыцынскіх установах, 3900 фельчарска-акушэрскіх пунктах і фельчарскіх здраўпунктах. Стацыянарная медыцынская дапамога ажыццяўляецца ў 827 бальніцах з колькасцю ложкаў 120163. Забяспечанасць насельніцтва бальнічнымі ложкамі складае 117,1 на 10 тысяч насельніцтва. Аднак нягледзячы на дастатковую забяспечанасць медыцынскімі кадрамі, развітую сетку амбулаторна-паліклінічных і стацыянарных лячэбна-прафілактычных устаноў — умовы для працы медработнікаў і лячэння хворых застаюцца складанымі.

**— Ні для каго не сакрэт, што пастаяннай праблемай сённяшняй сістэмы аховы здароўя з'яўляецца лекавае забеспячэнне насельніцтва і лячэбна-прафілактычных устаноў. У рэдакцыю «Звязды» неаднаразова паступалі тэлефонныя званкі і лісты са скаргамі на тое, што ў бальніцы хворым трэба прыходзіць са сваімі лекамі, а набыць апошнія можна толькі ў камерцыйных аптэках за даволі вялікія грошы. Якое ж выйсце з такога становішча?**

— Сапраўды, такая праблема існуе, аднак мы не сядзім склаўшы рукі. На працягу 1995 года праведзена вялікая работа па рэарганізацыі аптэчнай службы рэспублікі, сістэмы закупак лекавых сродкаў. У выніку зменшана патрэба датацыі з бюджэту аптэчнай сеткі з 75 млрд. рублёў па плану ў 1995 годзе да 55,2 млрд. рублёў фактычна. Улічваючы нарастаючую запазычанасць лячэбна-прафілактычных устаноў за адпушчаныя ім лекавыя сродкі і абмежаванасць крэдытных рэсурсаў, БелРВА «Фармацыя» і АВА «Фармацыя» з лютага 1995 года перайшлі са згоды фірмаў-пастаўшчыкоў на закупку лекаў з адтэрміноўкай плацяжу і на кансігнацыю ад 30 да 90 дзён. Асноўная праблема фарміравання рынку лекавых сродкаў — адсутнасць у аптэчнай сеткі ўласных зваротных сродкаў, чаму садзейнічае пастаянна ўзрастаючая запазычанасць ЛПУ за адпушчаныя ім медыкаменты ў стацыянары, а таксама па льготных і бясплатных рэцэптах. З мэтай упарадкавання пытанняў цэнаўтварэння на лекавыя сродкі для суб'ектаў гаспадарання ўсіх формаў уласнасці, ажыццяўлення мераў па сацыяльнай абароне насельніцтва, а таксама рацыянальнага выкарыстання бюджэтных сродкаў на мэты аховы здароўя Міністэрствам аховы здароўя сумесна з Дэпартаментам цэн Мінэканомікі, Мінфінам Рэспублікі Беларусь распрацаваны і прадстаўлены на зацвярджэнне Кабінету Міністраў Беларусі праект пастановы «Аб рэгуляванні цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і медыцынскай тэхнікі». Тым не менш, становішча з лекавым забеспячэннем насельніцтва і ўстаноў аховы здароўя застаецца надзвычай складаным, для вырашэння гэтай праблемы неабходны цэлы комплекс дзяржаўных мераў.

**— Зразумела, што становішча цяжкае: грошай не хапае, колькасць захворванняў узрасла... Аднак медыцына не можа, не павінна таптацца на адным месцы. Яна павінна развівацца, удасканальвацца. Інеса Міхайлаўна, што робіцца ў рэфарміраванні і адаптацыі сістэмы аховы здароўя да нашай складанай рэчаіснасці?**

— За кароткі тэрмін намаганнямі Міністэрства аховы здароўя і творчым калектывам навукоўцаў перапрацавана і выкладзена ў новай рэдакцыі Канцэпцыя развіцця аховы здароўя рэспублікі. Улічваецца вопыт Расійскай Федэрацыі па ўкараненню абавязковага медыцынскага страхавання. З улікам вопыту замежных краін з іх шматлікімі сістэмамі аховы здароўя дамінуючай формай медыцынскага абслугоўвання павінна стаць абавязковае сацыяльнае страхаванне пры ўдзеле розных формаў фінансавання (дзяржаўная сістэма аховы здароўя з падатковым фінансаваннем, добраахвотнае (прыватнае) страхаванне, прыватная медыцынская практыка). Асаблівую ўвагу трэба надаць фарміраванню ў насельніцтва здаровага ладу жыцця з як мага больш ранняга ўзросту. У гэтых мэтах абавязкова трэба рэфарміраваць сістэму школьнага і дашкольнага выхавання, увесці новую сістэму фізічнага выхавання дзяцей.

**— Ахова здароўя з'яўляецца такой галіной народнай гаспадаркі, якая павінна спраўна функцыянаваць нават у самых экстрэмальных умовах сацыяльнага і эканамічнага крызісу...**

— Міністэрства аховы здароўя робіць усё магчымае для выжывання галіны, эканоміі рэсурсаў, захавання даступнай дапамогі насельніцтву і прыцягнення ў Рэспубліку сучасных замежных тэхналогій і гуманітарнай дапамогі. Спецыялісты міністэрства прыйшлі да высновы, што вырашыць гэтыя задачы ў вялікай ступені можна за кошт пашырэння міжнародных сувязей з далёкім і блізкім замежжам. Міжнароднае супрацоўніцтва навукова-даследчых і лячэбна-прафілактычных устаноў рэспублікі ажыццяўлялася па праблемах, звязаных з памяншэннем медыцынскіх наступстваў аварыі на ЧАЭС, па актуальных пытаннях практычнай аховы здароўя, па прыярытэтных накірунках развіцця медыцынскай навукі.

У адпаведнасці з падпісаным 6 красавіка 1992 года пагадненнем паміж міністэрствамі аховы здароўя Беларусі, Расіі, Украіны і Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя ў рэспубліцы паспяхова праведзены работы па першаму этапу Міжнароднай праграмы па медыцынскіх наступствах чарнобыльскай аварыі. Праграма ахоплівае важнейшыя медыцынскія аспекты наступстваў катастрофы, якія ўжо праявіліся ці ўзрасла верагоднасць іх праяўлення. Сусветная арганізацыя аховы здароўя прадаставіла неабходнае абсталяванне, дыягнастычныя наборы, спецыяльную замежную медыцынскую літаратуру. Нашы спецыялісты прайшлі стажыроўку і ўдасканаленне за мяжой. Выкананне работ фінансавалася СААЗ з 20 млн. долараў ЗША, якія выдаткаваў урад Японіі, прычым на долю Беларусі прыпала 7 млн. долараў. У выніку адпрацаваны тэхналогіі абследавання пацярпеўшага насельніцтва, ранняй дыягностыкі захворванняў, збору, захавання і аналізу даных аб стане здароўя пацярпеўшых. У цяперашні час вызначаны метады і тэхналогіі далейшай работы па праектах, аднак застаецца нявырашаным пытанне аб фінансаванні працягу праграмы. З гэтай нагоды на 48-й сесіі Сусветнай асамблеі аховы здароўя (май 1995 года, г. Жэнева) і на 45-й сесіі Еўрапейскага рэгіянальнага бюро СААЗ (верасень 1995 года, г. Іерусалім) дэлегацыямі Міністэрства аховы здароўя праведзена мэтанакіраваная работа па прыцягненню ўвагі краін сусветнай супольнасці і міжнародных арганізацый да вырашэння праблем Чарнобыля.

Актыўна развіваюцца і іншыя сувязі з Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя. Такім чынам, для аб'ектыўнай ацэнкі ўплыву наступстваў чарнобыльскай аварыі на рост паталогій шчытападобнай залозы міністэрства распрацавала і пачало ажыццяўляць Міжнародны праект па шчытападобнай залозе. У адпаведнасці з падпісанай у снежні 1994 года дамовай з Еўрапейскім бюро СААЗ па гэтаму праекту цэнтр супрацоўніцтва СААЗ у Мінску будзе ажыццяўляць сваю дзейнасць разам з аналагічнымі цэнтрамі ў Італіі, Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Швейцарыі і Японіі. Пры гэтым цэнтр у Мінску будзе каардынаваць усе даследаванні па шчытападобнай залозе і канцэнтраваць вынікі работ па праекту.

Працягваюцца сумесныя работы з Еўрабюро СААЗ па праблемах мацярынства і дзяцінства, барацьбы з інфекцыйнымі захворваннямі і распрацоўцы нацыянальнай палітыкі ў галіне лекавых сродкаў, сястрынскай справы. Сумесна з СААЗ і ЮНІСЕФ часткова вырашана праблема з забеспячэннем рэспублікі прышчэпачнымі матэрыяламі ў 1994-1995 гадах, аналагічная магчымасць прапрацоўваецца на далейшую перспектыву. У сувязі з тым, што Міжнародны савет дырэктараў праграмы (Інтэграваная праграма прафілактыкі неінфекцыйных захворванняў) станоўча разгледзеў зварот рэспублікі аб далучэнні да праграмы, у маі 1995 года падпісаны план выканання гэтай праграмы з Еўрабюро СААЗ.

У рамках дагавора паміж Міністэрствам аховы здароўя Беларусі і Нацыянальным інстытутам аховы здароўя і абароны навакольнага асяроддзя Нідэрландаў працягвалася дзейнасць на завяршальнай стадыі «Гомельскага праекта». Галоўнай мэтай з'явілася падрыхтоўка задзейнічаных у праекце нашых медыцынскіх устаноў да самастойнага функцыянавання. На рэалізацыю праекта галандскім бокам выдаткавана 5,5 млн. долараў ЗША. У выніку ў Гомелі паспяхова дзейнічае беларуска-галандская кансультацыйна-дыягнастычная паліклініка, якая поўнасцю ўкамплектавана сучасным абсталяваннем. Акрамя гэтага, галандскі бок аказаў істотную дапамогу ў паляпшэнні падрыхтоўкі кадраў у галінах эндакрыналогіі і псіхіятрыі, а таксама дзейнасці адпаведных службаў рэспублікі, іх забяспечанасці неабходным навучальным і медыцынскім абсталяваннем.

У адпаведнасці з мемарандумам аб супрацоўніцтве з Мемарыяльным фондам аховы здароўя Сасакава паспяхова працягваліся сумесныя работы беларускіх і японскіх спецыялістаў з мэтай вывучэння ўплыву малых дозаў радыяцыі на арганізм дзіцяці, і ў першую чаргу на шчытападобную залозу і крыватворную сістэму, а таксама раннюю дыягностыку іх захворванняў. У выніку ажыццяўлення праекта ў Магілёўскай і Гомельскай абласцях абследавана больш як 50 тысяч дзяцей, праект дазволіў ацаніць здароўе і скласці індывідуальныя планы аздараўлення кожнага абследаванага дзіцяці. На ажыццяўленне праекта ў рэспубліцы Фондам Сасакава выдаткавана каля 10 млн. долараў.

У студзені 1995 года адбылася перадача новага дыягнастычнага комплексу ў Дзіцячым хірургічным цэнтры 1-й клінічнай бальніцы Мінска, будаўніцтва і забеспячэнне якога праводзілася па гуманітарнай дапамозе Зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ў рамках супрацоўніцтва. Нямецкі бок на рэалізацыю праекта выдаткаваў каля 10 млн. нямецкіх марак.

У сакавіку 1995 года падпісаны пагадненні аб супрацоўніцтве ў галіне фармацыі і лекаў з Агенцтвам лекаў Францыі, аб супрацоўніцтве ў галіне лекаў — з Нацыянальным сіндыкатам фармацэўтычнай прамысловасці Францыі. Гэтыя пагадненні дазволяць гарманізаваць патрабаванні допуску лекавых сродкаў да медыцынскага выкарыстання ў Беларусі, спросцяць працэдуру рэгістрацыі лекаў, прыцягнуць фармацэўтычныя фірмы Францыі на беларускі рынак.

Працягваецца развіццё «Веймарскай ініцыятывы»: прынцыпова новыя падыходы да вырашэння праблем цукровага дыябету, і перш за ўсё адаптацыі хворых да паўнацэннага жыцця ў грамадстве, папярэджання развіцця ў іх ускладненняў. На еўрапейскім узроўні беларускі вопыт аказання дапамогі хворым на цукровы дыябет і стварэнне ў рэспубліцы сеткі школ цукровага дыябету прызнаны мадэллю для распаўсюджвання ў іншых краінах.

Праведзена работа з прадстаўнікамі ўрада і МЗС Швейцарскай Канфедэрацыі, групамі швейцарскіх экспертаў па прыцягненню фінансавай дапамогі сектару аховы здароўя рэспублікі. Вынікам з'явілася выдаткаванне швейцарскім бокам 6,1 млн. швейцарскіх франкаў на ажыццяўленне праекта па неанаталогіі, які прадугледжвае забеспячэнне неабходным замежным абсталяваннем 33 радзільных дамоў і аддзяленняў ва ўсіх абласцях Беларусі і горадзе Мінску, падрыхтоўку медыцынскага і тэхнічнага персаналу.

Працягнуліся сумесныя работы ў адпаведнасці з пагадненнем з Міністэрствам энергетыкі ЗША па беларуска-амерыканскаму праекту «Навуковы пратакол даследавання рака і іншых захворванняў шчытападобнай залозы ў Беларусі пасля чарнобыльскай аварыі». Амерыканскі бок пачаў пастаўку абсталявання, рэагентаў і расходных матэрыялаў па ўзаемна ўзгодненаму пераліку. Праект разлічаны на 30 гадоў. Паспяхова вяліся даследаванні, ажыццяўлялася лячэнне беларускіх дзяцей у Германіі ў рамках Дагавора з Аб'ядналым камітэтам радыяцыйных даследаванняў ФРГ па праекту «Навукоўцы дапамагаюць дзецям Чарнобыля». На рэалізацыю праекта нямецкім бокам выдаткавана 3,5 млн. нямецкіх марак.

Паміж Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь і Клінічным аб'яднаннем г. Пізы — шпіталя Санта-К'яра 27 кастрычніка 1995 года падпісаны Пратакол аб супрацоўніцтве па дыягностыцы, лячэнню і рэабілітацыі дзяцей, падлеткаў і дарослых хворых на рак і іншыя захворванні шчытападобнай залозы. Тэрмін дзеяння пратакола — 2 гады.

У адпаведнасці з намечаным планам працягваецца будаўніцтва дзіцячага анкагематалагічнага цэнтра ў пасёлку Лясное.

З дапамогай Сусветнай Арганізацыі Аховы Здароўя на аснове сусветнага вопыту распачата работа па стварэнню канцэпцыі палітыкі рэфарміравання сістэмы аховы здароўя, падрыхтоўкі медыцынскіх кадраў, сястрынскай справы, палітыкі і заканадаўства ў галіне лекавых сродкаў. Рэалізуюцца праграмы барацьбы з інфекцыйнымі захворваннямі ВІЧ/СНІД, праграма здароўя маці і дзіцяці, у якую ўваходзяць планаванне сям'і са спецыяльнай задачай змяншэння дзіцячай смяротнасці і паляпшэння падрыхтоўкі неанатолагаў. Распачата перапрацоўка праграм па псіхіятрыі, наркаманіі, барацьбе з ужываннем алкаголю.

У выніку ажыццяўлення міжнародных сувязей, рэалізацыі міжнародных праектаў у практыку аховы здароўя рэспублікі ўкараняюцца сучасныя метады дыягностыкі, лячэння і прафілактыкі розных захворванняў, праводзіцца павышэнне кваліфікацыі медыцынскага персаналу, часткова вырашаецца праблема забеспячэння сучасным дыягнастычным і доследным абсталяваннем, медыкаментамі і вакцынамі. І менавіта гэта дапамагае галіне выстаяць у цяжкіх сацыяльна-эканамічных умовах развіцця нашай рэспублікі.

**Гутарыў Сяргей ПРОТАС.**

# КІРМАШ



**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 16 (35)**








## ПЕКІН І УЛАН-БАТАР ЗА СУПРАЦОЎНІЦТВА З БЕЛАРУССЮ

**Міхаіл Хвастоў, намеснік міністра замежных спраў на сустрэчы з журналістамі расказаў аб выніках візіту беларускай дэлегацыі ў Кітай і Манголію.**

Ён звярнуў увагу прысутных на галоўныя моманты перагавораў у сталіцах гэтых дзяржаў. А сярод субяседнікаў беларускай дэлегацыі ў Кітай былі прэм'ер дзяржсавета Лі Пэн, старшыня КНР Цзян Цзэмін, намеснік прэм'ера, міністр замежных спраў Цянь Цічэнь. Абодва бакі, па словах Хвастова, з задавальненнем канстатавалі адсутнасць палітычных перашкод на шляху да пашырэння супрацоўніцтва і наяўнасць аб'ектыўных умоў для развіцця гандлёва-эканамічных адносінаў.

У ходзе перагавораў кітайскія таварышы пацвердзілі сваю зацікаўленасць у пастаўках БелАЗаў, а таксама прапанавалі разглядаць магчымасць супрацоўніцтва беларускіх прамыслоўцаў з прадпрыемствамі Шанхая і правінцыі Ляонінь, якія згодна з рашэннем урада КНР спецыялізуюцца на вытворчасці цяжкіх грузавікоў. У гэтым плане неблагія перспектывы адкрываюцца перад БелАЗам. Кітай не супраць набываць нашы калійныя ўгнаенні, але пры ўмове, што яны будуць завозіцца з Беларусі ў расфасаваным выглядзе.

Міхаіл Хвастоў адзначыў, што ў Пекіне з задавальненнем успрынята запрашэнне Аляксандра Лукашэнкі ў адрас Старшыні КНР наведаць з афіцыйным візітам Беларусь. У сваю чаргу ў Кітаі гатовы прыняць прэм'ера Беларусі Міхаіла Чыгіра і кіраўніка адміністрацыі Міхаіла Мясніковіча. Іх візіт плануецца на другую палову гэтага года.

Кітайскі бок прапанаваў адкрыць рэгулярныя авіярэйсы паміж Беларуссю і КНР, запрасіў нашу рэспубліку ўдзельнічаць у пекінскім міжнародным кірмашы, які адбудзецца ў наступным годзе.

У Манголіі таксама было пацверджана жаданне развіваць і паглыбляць супрацоўніцтва з Беларуссю. Там ёсць цікавасць да нашых аўтамабіляў, трактароў, шэрага тавараў штодзённага попыту.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# СТАРЫЯ «ХРУШЧОЎКІ»: НЕ ЗНОСІЦЬ, А РЭКАНСТРУЯВАЦЬ

**Узведзеныя больш за трыццаць гадоў назад буйнапанельныя дамы першых масавых серый, так званыя «хрушчоўкі», не адпавядаюць патрабаванням сённяшняга дня. Наспела неабходнасць іх рэканструкцыі. Пэўны вопыт у праектаванні капітальнага рамонту і рэканструкцыі жылых дамоў мае інстытут «Белжылпраект» Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі РБ. Размову на гэту тэму з дырэктарам інстытута І. Крышэнікам і яго намеснікам В. Макарэвічам вядзе журналіст Р. Падневіч.**

І.К. — Вось ужо больш за 20 гадоў наш інстытут займаецца праблемамі капітальнага рамонту і рэканструкцыі жылых дамоў і грамадскіх будынкаў. Нашымі спецыялістамі набыты пэўны вопыт, распрацавана шмат варыянтаў рэканструкцыі дамоў незалежна ад іх прызначэння. Калі за праектаванне капітальнага рамонту і рэканструкцыі бяруцца людзі, не надта кампетэнтныя ў такіх пытаннях, напрыклад, з малых прадпрыемстваў, якія маюць нават ліцэнзіі на праектныя работы або персанальныя майстэрні, то нам нярэдка даводзіцца перарабляць гэтыя праекты, выпраўляць памылкі. Мы можам аказаць поўны комплекс паслуг па гэтай праблеме для любога заказчыка на любы яго густ.

**— І які набор праектаў рэканструкцыі жылых дамоў можа прапанаваць ваш інстытут?**

І.К. — Мы практычна штомесяц выдаём каля 30 праектаў, намі распрацавана каля дзесяці варыянтаў рэканструкцыі панельных дамоў. Па адным з такіх праектаў нядаўна праведзена рэканструкцыя жылога дома па вуліцы Асіпенкі ў Мінску. Ажыццёўлена яна калектывам арэнднага прадпрыемства «Мінскпрамбуд».

**— Вядома, колькі нязручнасцей прыносіць жыхарам звычайны рамонт кватэры, не гаворачы ўжо пра капітальны, а тым больш пра рэканструкцыю жылля. Ці прадугледжваецца праектам адсяленне жыхароў пры рэканструкцыі жылога дома?**

В.М. — Так, праектам рэканструкцыі жылога дома № 21 па вуліцы Асіпенкі ў Мінску, якая там ажыццёўлена і выклікала поўную мадэрнізацыю, перапланіроўку пакояў, надбудову мансарды і г.д., было прадугледжана высяленне жыхароў. Але ў далейшым мы прыйшлі да цвёрдага пераканання, што пры рэканструкцыі пяціпавярховых «хрушчовак» жыхароў адсяляць неабавязкова, калі праводзіць яе на аснове бязрыгельных каркасаў — тэхналогіі, распрацаванай інстытутам.

**— Які эканамічны эфект ад рэканструкцыі жылых дамоў першых масавых серый, акрамя таго, што значна паляпшаецца камфортнасць жылля?**

В.М. — Пабудаваныя больш за 30 гадоў назад «хрушчоўкі» цяпер устарэлі. Мы лічым, што за кошт рэканструкцыі пяціпавярховых жылых дамоў можна атрымаць дадаткова звыш 10 мільёнаў квадратных метраў жылой плошчы — як шляхам надбудовы аднаго—двух паверхаў або мансарды, так і прыбудовы звонку дадатковых аб'ёмаў. А па кожным з дамоў можна атрымаць дадаткова каля 1500 кв. метраў агульнай плошчы.

Калі гаварыць пра матэрыяльныя затраты на рэканструкцыю жылых дамоў, то трэба ўлічваць тое, што дамы знаходзяцца на добраўпарадкаванай тэрыторыі, пад іх не трэба рабіць падмуркі, пракладваць інжынерныя сеткі і г.д. А выкарыстанне сучасных прагрэсіўных будаўнічых тэхналогій дазволіць яшчэ больш панізіць фінансавыя затраты.

**— Ад некаторых людзей можна пачуць такое меркаванне: «хрушчоўкі», маўляў, аджылі ўжо сваё, іх трэба зламаць, знесці, а на тым месцы пабудаваць новыя жылыя дамы, якія будуць найбольш адпавядаць патрабаванням сённяшняга дня.**

В.М. — Такія спробы былі. У Маскве двойчы рабілі гэта. Першы раз гадоў 15 назад, апошні — зусім нядаўна. У цэнтральнай частцы горада правялі поўны дэмантаж такіх жылых дамоў, і аказалася, што дэмантаж абыходзіцца ў 3 разы даражэй, чым мантаж новых.

Акрамя таго, не трэба забываць, што жылыя дамы, пра якія ідзе размова, — гэта высокакапітальныя збудаванні, сцены ў іх, элементы перакрыццяў, перагародкі — жалезабетонныя, яны яшчэ вельмі моцныя і, правёўшы мерапрыемствы, пра якія ішла гаворка вышэй, можна падоўжыць тэрмін іх службы, а ўсяго іх нарматыўны тэрмін эксплуатацыі павінен складаць не менш як за 100 гадоў.

Многія жылыя дамы, асабліва серый 335 і 464, лёгка паддаюцца мадэрнізацыі. Жылы дом 335-й серыі можна давесці па якасці жылля да сучасных патрабаванняў.

І.К. — Я хачу дадаць, што цяпер у Мінску налічваецца больш як за 800 панельных жылых дамоў, якія патрабуюць рэканструкцыі, акрамя таго, яе патрабуюць нямала цагляных і блочных дамоў. Мы выпрацавалі розныя падыходы да вырашэння гэтай праблемы. У адрозненне ад маскоўскіх архітэктараў-праекціроўшчыкаў, мы лічым, што неэканомна зносіць такія жылыя дамы. Галоўная праблема, з якой сутыкнуліся масквічы,— пры разборцы дамоў трэба праводзіць іх утылізацыю, а гэта значыць, што трэба рабіць дадаткова адпаведныя палігоны. Разборка дамоў, як правіла, утрая больш працаёмкая ў параўнанні з тымі затратамі, што патрабуюцца пры зборцы аналагічных новых дамоў.

Разборка першых панельных дамоў у маскоўскіх Чаромушках дала адмоўны вынік, таму ўрад Масквы адмовіўся ад такой практыкі і прыняў пастанову: панельныя жылыя дамы першых масавых серый у мікраёнах Кузьмінкі і Новыя Чаромушкі не зносіць, а рэканструяваць. Улічваючы вопыт нашых суседзяў, мы ўсебакова падыходзім да гэтай праблемы. Як адзначалася ўжо, спецыяльна для мадэрнізацыі буйнапанельных дамоў распрацавалі бязрыгельны каркас у зборным маналітным выкананні, што дае магчымасць прыбудоўваць жыллё звонку і весці рэканструкцыю дома, не высяляючы з яго жыхароў. Пры гэтым можна абыходзіцца без вялікіх вежавых кранаў, дастаткова будзе аўтамабільных. Разглядаючы праблемы рэканструкцыі жылых дамоў, наш калектыў вызначае для работы не толькі асобныя дамы, але і кварталы ці мікраёны ў цэлым з улікам усіх характэрных асаблівасцей іх забудовы. У Мінску прынята рашэнне, у адпаведнасці з якім жыхары першых паверхаў могуць адсяляцца, а на вызваленых плошчах можна размяшчаць розныя бытавыя ўстановы, майстэрні, невялікія магазіны, розныя офісы і іншыя прадпрыемствы культурна-бытавога прызначэння, якія павінны дапаўняць камфорт, ствараць неабходныя выгоды жыхарам квартала, мікраёна. Нам добра вядома, якую занепакоенасць праяўляюць жыхары жылых дамоў, калі справа даходзіць да іх рэканструкцыі. Іх цікавіць пытанне, ці давядзецца высяляцца са сваіх дамоў на час рамонтных работ і ці вернуцца яны назад пасля іх завяршэння. Вось чаму, як правіла, мы прапаноўваем не высяляць жыхароў, нават калі размова ідзе не толькі аб адным доме, а аб цэлым квартале. Напрыклад, праектам рэканструкцыі квартала «Залатая горка» ў Мінску адсяленне яго жыхароў не плануецца.

Рэканструкцыя цэлых кварталаў і мікраёнаў дае магчымасць праводзіць гэту работу больш маштабна. Па нашых падліках, пры рэканструкцыі дамоў у любым мікраёне прырост жылля можа скласці 25—30 працэнтаў, пры гэтым яно атрымліваецца значна таннейшым, чым новае, а эканомія грашовых сродкаў за кошт таго, што не трэба пракладваць новыя камунікацыі і нанава асвойваць тэрыторыю, можа дасягнуць амаль 40 працэнтаў. Такім чынам, мы можам упэўнена заявіць: «Рэканструкцыі жылых дамоў — быць!», бо яна сёння адпавядае як эканамічным патрабаванням, так і жыллёвай сітуацыі не толькі ў сталіцы, але і ў іншых гарадах Беларусі.

**— А калі знойдуцца спонсары, якія пажадаюць пайсці на такую справу, то што больш канкрэтнае, акрамя, скажам, маральнага задавальнення, яны будуць мець?**

І.К. — Мы завяршылі распрацоўку праекта рэканструкцыі сталічнага квартала «Залатая горка», выносім яго на разгляд і зацвярджэнне горадабудаўнічага савета Галоўархітэктуры Мінска. У адпаведнасці з рашэннем Мінгарвыканкома, 10 працэнтаў надбудаванага і прыбудаванага жылля застаецца гораду, астатняя дадатковая жылплошча пераходзіць інвестару або іншай арганізацыі, якая ўклала свае грошы ў капітальны рамонт або рэканструкцыю жылых дамоў.

Мы заўсёды гатовы запрасіць да сябе ў інстытут інвестараў, таксама запрашаем старшынь жыллёва-будаўнічых кааператываў, акажам ім практычную дапамогу ў арганізацыі і правядзенні капітальнага рамонту і мадэрнізацыі кааператыўнага жылля, якое цяпер патрабуе гэтага і якім ніхто практычна па-сапраўднаму не займаецца.



# АДКРЫТАЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ СТРАХАВОЕ ТАВАРЫСТВА «БАГАЧ»: НАДЗЕЙНАСЦЬ, ГАРАНТЫЯ ПОСПЕХУ, УПЭЎНЕНАСЦЬ У ЗАЎТРАШНІМ ДНІ.

***Пётр БАБАРЫКА**, генеральны дырэктар адкрытага акцыянернага страхавога таварыства «БАГАЧ»:*

## «Будзьце разам з намі — і ў вашым доме заўсёды будуць багацце, радасць і шчасце»

**На рынку паслуг рэспублікі страхавы бізнес сёння займае даволі значнае месца.**

**І гэта не дзіўна, калі ведаць, што з пераходам нашага грамадства да рынbackчных адносінаў з'яўляецца мноства гаспадарчых суб'ектаў самых разнастайных формаў уласнасці. У іх, як правіла, узнікаюць патрэбы ў страхавой абароне, у прыватнасці, сваіх супрацоўнікаў, маёмасці рухомай і нерухомай; камерцыйнай рызыкі, а таксама ад беспрацоўя, няшчасных выпадкаў, хваробы.**



**Таму ў Беларусі за адносна кароткі тэрмін побач з дзяржаўнай кампаніяй — Белдзяржстрахам — вырасла шмат прыватных, камерцыйных страхавых агенцтваў, фірмаў, якія спрабуюць наладзіць сваю дзейнасць і паставіць яе на паток. Праўда, не ўсе яны выклікаюць давер у кліентаў. Людзі навучаны горкім вопытам укладання грошай у сумніўныя канторы тыпу МММ. Аднак у тых работнікаў страхавога бізнесу, якія займаюцца гэтай справай сур'ёзна, несумненна, будуць пастаянныя страхаўшчыкі, а значыць, іх кампанія ці фірма будзе квітнець.**

**Яркім прыкладам таго, як трэба весці страхавую палітыку ў Беларусі, з'яўляецца адкрытае акцыянернае страхавое таварыства «БАГАЧ». Фірма, нягледзячы на сваю маладосць — усяго паўтара года — паспела заваяваць добрую рэпутацыю на страхавым рынку Беларусі і займае вядучыя пазіцыі сярод аналагічных недзяржаўных страхавых кампаній.**

**Аб тым, што ўяўляе зараз сабою ААСТ «БАГАЧ», пра клопаты сённяшняга і заўтрашняга дня і пра шмат што іншае — наша размова з генеральным дырэктарам Пятром БАБАРЫКАМ.**

*Страхавыя прадпрыемствы забяспечваюць значную ўстойлівасць становішча асобных людзей; размяркоўваючы паміж многімі людзьмі тыя страты, якія разарылі б асобнага чалавека, яны змяншаюць іх для свайго таварыства.*

**Адам СМІТ. «Даследаванні аб прыродзе і прычынах багацця народаў».**

❑

**— Пётр Андрэевіч, пагадзіцеся, што нават назва вашай фірмы неяк прыцягвае кліентаў. Я так разумею, што яна вызначае першапачаткова сэнс работы страхавой кампаніі — зрабіць багатым не толькі сябе, але і іншых. Наогул, адкуль ідуць карані назвы?**

— Сапраўды, вы маеце рацыю. Першапачатковы сэнс нашай дзейнасці заключаны ў назве таварыства. А карані яго закапаны не вельмі глыбока. У беларускім народным земляробчым календары існавала свята, якое адзначалася пасля заканчэння ўборкі ўраджаю. Беларусы называлі яго «Багач».

Згодна з народнымі павер'ямі, правядзенне свята з адпаведнымі яму рытуаламі павінна забяспечыць дому багацце і шчасце. І свята, трэба сказаць, мела грамадскі характар.

Так што патэнцыяльным кліентам можна сказаць: будзьце разам з «БАГАЧОМ» — і ў вашым доме заўсёды будуць багацце, радасць і шчасце.

**— Жыццё паказвае, што ва ўсіх добрых справах, пачынаннях прысутнічае стрымліваючы фактар. У чым ён заключаецца ў страхавым бізнесе?**

— Думаю, што на сёння стрымліваючы фактар у страхавой справе — гэта падарваны давер насельніцтва да дзяржаўнай сістэмы страхавання мінулых гадоў. У людзей яшчэ няма ўпэўненасці, што страхаванне — гэта надзейная абарона, забеспячэнне бяспекі кожнага чалавека, членаў яго сям'і, маёмасці, бізнесу, захавання здароўя.

**— Пётр Андрэевіч, мяркую, сёння нікому не трэба тлумачыць, што пачаць нейкую справу зусім не проста. Патрэбны вопыт, сувязі, пачатковы капітал. Ці былі яны ў «БАГАЧА»?**

— Так, пачаць справу сапраўды нялёгка. Але ж, каб справа ўсё ж была, трэба яе пачаць. Гэта жыццёвая аксіёма. На мой погляд, трэба перш за ўсё верыць у свае сілы, у тых людзей, з якімі бярэшся рабіць гэтую новую справу. А кожны чалавек — гэта і вопыт, і сувязі, і веды. Грошы ў дадзеным выпадку не так ужо і важныя. Галоўнае — ідэя. І ўпартая праца па яе ажыццяўленню. Ёсць ідэя, ёсць грошы — гэта і з'яўляецца нашым капіталам.

**— Як вы лічыце, ці ёсць у «БАГАЧА» нейкія свае адметнасці, нейкая іскрынка, якіх няма ў іншых страхавых фірмаў Беларусі?**

— Ведаеце, неяк мы асабліва не імкнёмся, каб вельмі ўжо адрозніваццa ад калег-канкурэнтаў. Скажу толькі, што сярод відаў паслуг, якія мы пераважна аказваем, — гэта страхаванне пенсій і страхаванне жыцця. У нас у гэтым раздзеле застрахавана звыш 5 тысяч чалавек. Мы імкнёмся зацікавіць кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, абараніць у першую чаргу чалавека з невялікім і сярэднім дастаткам, даць яму гарантыю на непрадбачаны выпадак.

Мы хочам, каб нас лічылі патрэбнымі і неабходнымі, і быць надзейным партнёрам для кожнага.

**— Пагадзіцеся, што страхавая кампанія — не банк, у якога звычайна хапае кліентаў. Як вам удаецца іх знаходзіць?**

— Вядома, пошук кліентаў — вельмі няпростая задача. Тут трэба яго зацікавіць высокім узроўнем страхавых паслуг, забяспечыць гарманічнае спалучэнне інтарэсаў кліента і страхавой кампаніі і запэўніць страхавальніка, што кампанія «БАГАЧ» з'яўляецца яго нязменным партнёрам, які зможа забяспечыць яму страхавую абарону.

**— Ці забяспечвае ваша акцыянернае таварыства поўны спектр страхавых паслуг і якія яны?**

— Сёння мы аказваем сваім кліентам 19 відаў страхавых паслуг. Тут і страхаванне маёмасці, прадпрыемстваў, пабудоў, якія належаць грамадзянам; жыцця, пенсій, хатняй маёмасці, маёмасці прадпрыемстваў і шэраг іншых паслуг. Але, як паказвае сусветны вопыт, звычайна страхавыя кампаніі спецыялізуюцца на 5—7 відах страхавых паслуг. Гэтай тэндэнцыі будзем прытрымлівацца і мы. Канцэнтрацыя намаганняў на пэўным відзе страхавых паслуг, іх падрабязная прапрацоўка павінны прынесці вынікі, адпаведныя прыкладзеным намаганням.

**— Вы маглі б ахарактарызаваць механізм страхавання, напрыклад, жылога дома, і механізм выплаты выстрахоўкі?**

— Калі ласка. Схематычна механізм страхавання жылога дома можна прадставіць у наступным выглядзе:

- падача заявы (пісьмова ці вусна);
- агляд аб'екта, азнаямленне з дакументамі, якія пацвярджаюць права ўласнасці на аб'ект страхавання, тэхнічнай дакументацыі і г. д.;
- вызначэнне памеру страхавой сумы;
- заключэнне дагавора;
- уплата страхавога ўзносу.

А механізм выплаты страхавой кампенсацыі выглядае так:

- паведаміць страхавальніку на працягу сутак аб здарэнні;
- вызначыць памер урону. Для гэтага трэба захоўваць пабудовы ў тым выглядзе, у якім яны засталіся ў выніку страхавога выпадку, да прыбыцця прадстаўніка страхаўшчыка і прадставіць яму копіі дакументаў, якія маюцца ў кампетэнтных органаў, экспертаў і людзей, якія маюць адносіны да страхавога выпадку;
- выплата страхавой кампенсацыі.

Страхавая кампенсацыя выплачваецца ў тэрмін не пазней трох дзён з моманту атрымання ўсіх неабходных дакументаў, прадугледжаных правіламі страхавання.

**— Пётр Андрэевіч, сёння час такі, што на рынку страхавых паслуг можна чакаць самых розных «сюрпрызаў». Калі дапусціць, што застрахаваны дом згарэў па віне гаспадароў, якія наўмысна падпалілі дом, а напярэдадні спакойна вынеслі ўсе каштоўныя рэчы, то хто ў дадзеным выпадку робіць заключэнне наконт здарэння, што адбылося: расследаванне праводзіць міліцыя ці ў вас ёсць свая следчая служба?**

— Вядома, такіх кліентаў нам не хацелася б мець. Праўда, здараецца ўсялякае. Аднак на любы выпадак у нас ёсць дагавор страхавання, які накладвае пэўныя абавязацельствы на абодва бакі: як на страхоўшчыка, так і на страхавальніка. Апошні, які з'яўляецца нашым кліентам, у прыватнасці, пры наступленні страхавога выпадку абавязаны неадкладна прыняць меры да выратавання маёмасці, прадухілення яго далейшага пашкоджання і ўстаранення прычын, якія маглі б прывесці да павелічэння ўрону, неадкладна заявіць аб выпадку пажару (калі гаворка ідзе пра пажар) у адпаведныя кампетэнтныя органы, прад'явіць страхаўшчыку пашкоджаную маёмасць ці рэшткі знішчанай маёмасці.

Расследаванне здарэння, якое адбылося, у дадзеным выпадку пажару, праводзяць пажарная служба і міліцыя. Памер урону вызначаецца страхаўшчыкам на падставе складзенага ім акта з улікам дакументаў, атрыманых ад пажарнай службы і міліцыі.

На сёння мы маем уласную службу па расследаванню такіх выпадкаў. Аднак у любым разе нам трэба працаваць сумесна.

**— Якімі якасцямі, па-вашаму, павінен валодаць патэнцыяльны работнік страхавога агенцтва ці кампаніі і якімі крытэрыямі вы кіруецеся пры падборы кадраў?**

— Перш за ўсё высокім узроўнем прафесіянальных ведаў, сумленнасцю і прыстойнасцю, настойлівасцю і энергічнасцю, шырынёй поглядаў. Яшчэ нестандартным падыходам да вырашэння любых, нават на першы погляд простых і нязначных пытанняў.

Рынак патрабуе энергічных прафесіяналаў, і яны ў нас ёсць.

**— Значыць, банальнага пытання наконт таго, ад чаго залежыць поспех дзейнасці вашага калектыву, вам можна і не задаваць?**

— А я магу на яго адказаць. Перафразуючы вядомае выказванне, атрымліваецца, што веды — тая сіла, якая пераадольвае любыя перашкоды. Веды вызначаюць узровень прафесіяналізму.

Высокі прафесіяналізм працуючых у нас людзей, калектыву аднадумцаў, які ў нас створаны, дазваляе дабівацца поспехаў нашаму грамадству.

**— Пётр Андрэевіч, як вы толькі што адзначылі, поспех фірмы залежыць ад яе работнікаў-прафесіяналаў. Але і ім, відаць, няпроста знайсці кліента. У наш час многія не страхуюцца, памятаючы аб магчымай інфляцыі ўкладаў, іх дэвальвацыі, абясцэньванні. Ці прадугледжваецца ў гэтым выпадку схема выплаты кампенсацыі ўзносаў кліентаў?**

— Безумоўна. Пастаянны клопат грамадства — абараняць інтарэсы нашых кліентаў. У меру нашых фінансавых магчымасцей мы заўсёды іх абаранялі. Па траўмах і другіх страхавых выпадках выплаты індэксуюцца да долара ЗША па курсу Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь на дзень выплаты.

Практыку абароны інтарэсаў страхавальнікаў мы будзем працягваць пастаянна, зыходзячы з узроўню інфляцыі і ўзроўню прыбыткаў, атрымліваемых ад інвестыцыйнай дзейнасці.

**— Сёння ў любой сферы дзейнасці існуе канкурэнцыя. Ці дапускаеце вы, што ў Беларусі можа з'явіцца добры дзесятак магутных страхавых кампаній, сярод якіх будзе адбывацца барацьба за кліента?**

— Я ўпэўнены, што ў Беларусі могуць з'явіцца дастаткова магутныя страхавыя кампаніі, і яны з'явяцца, калі будзе пераадолены той зачаткавы стан рынкавых адносінаў, які існуе цяпер, і з'явіцца магутны слой уласнікаў — так званы сярэдні клас. Усё гэта будзе садзейнічаць і развіццю страхавога бізнесу.

А баяцца канкурэнцыі не варта. Гэта натуральны стан рынку. Трэба проста канкурыраваць, прапаноўваць больш выгадныя ўмовы.

**— Як вы ацэньваеце пачатак сваёй работы з вышыні паўтарагадовага стажу ў галіне страхавой дзейнасці?**

— Ведаеце, да сваёй работы ўвесь час трэба падыходзіць крытычна, бо чалавек, як вядома, усё жыццё вучыцца. Тым не менш, я лічу, што за паўтара года работы ААСТ «БАГАЧ» мае пэўныя поспехі ў галіне страхавой дзейнасці. У штомесячных рэйтынгах Дзяржстрахнагляду «БАГАЧ» пастаянна ўваходзіць у пяцёрку лепшых сярод больш чым 80 беларускіх страхавых фірмаў.

З асноўных паказчыкаў дзейнасці ААСТ «БАГАЧ» за 1995 год можна вызначыць наступныя:

заключана дагавораў — 3645; паступіла страхавых узносаў — 23,9 млрд. руб.

Даходы ААСТ «БАГАЧ» за мінулы год склалі 40,2 млрд. рублёў. Балансавы прыбытак — 6,3 млрд. рублёў. Узровень рэнтабельнасці — 15,7 працэнта.

Як бачна, поспехі несумненна ёсць. Але мы не зачароўваемся дасягнутымі вынікамі. Выхад на ўзровень, супастаўны з еўрапейскім, — такую трэба ставіць задачу і імкнуцца да яе вырашэння.

**— Дарэчы, на Захадзе, як і ва ўсім цывілізаваным свеце, страхавая справа ўжо даўно пастаўлена на паток, і вельмі многія кампаніі паспяхова працуюць. Ці можна параўноўваць, хоць у нейкай меры, узровень страхавога бізнесу тут і там?**

— Скажу, што параўноўваць можна і трэба. Хаця б для таго, каб зразумець, які велізарны аб'ём работы ў галіне страхавання нам яшчэ трэба зрабіць.

Ва ўсім цывілізаваным свеце, асабліва ў краінах з развітой эканомікай, рыначнымі адносінамі, страхаванне дазваляе стварыць добры сацыяльны клімат у грамадстве.

Гэта значыць, што праблемы, якія ўзнікаюць у грамадстве, людзі здымаюць шляхам страхавання жыцця, пенсій і г. д. праз сістэму абавязковага сацыяльнага страхавання.

І калі са страхавальнікам адбываецца няшчасны выпадак ці звальненне з работы, у яго, у пераважнай большасці выпадкаў не ўзнікае ніякіх матэрыяльных цяжкасцей. Атрымліваецца, што сістэма сацыяльнай абароны дазваляе ўсе матэрыяльныя затраты, звязаныя з непрадбачанымі абставінамі, перакласці на плечы страхавых кампаній.

Такім чынам, урады гэтых дзяржаў, кіраўніцтва, прэзідэнты абаронены ад такой праблемы, як матэрыяльная дапамога пацярпеўшым грамадзянам з бюджэту ці з іншых фінансавых крыніц.

**— Пётр Андрэевіч, што вы можаце сказаць аб дзяржаўнай палітыцы ў Беларусі ў адносінах да страхавання?**

— Мяркую, што такая важная справа ў кіраўніцтва рэспублікі не застаецца без увагі.

У мінулым годзе пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь створаны савет па страхаванню, у які ўвайшлі міністр фінансаў са сваім намеснікам, кіраўніцтва Дзяржстрахнагляду, а таксама прадстаўнікі страхавых кампаній, Белдзяржстраха і ААСТ «БАГАЧ». Акрамя таго, у створаным Савеце цесна працуюць людзі з Міністэрства эканомікі, Міністэрства юстыцыі, Вышэйшага гаспадарчага суда, Кабінета Міністраў.

**— У любой рабоце не абысціся без звычайных творчых і чалавечых кантактаў. Ці ёсць яны ў «БАГАЧА» сярод фірмаў Беларусі, краін СНД? Наогул, ці існуе ў рэспубліцы арганізацыя, якая аб'ядноўвае страхавы бізнес?**

— З вядучымі страхавымі кампаніямі Рэспублікі Беларусь, якія ўваходзяць у першую дзесятку па рэйтынгу Дзяржстрахнагляду, мы заключылі дагаворы аб сумеснай дзейнасці і уніфікацыі правілаў страхавання з улікам вопыту вядучых страхавых кампаній Еўропы.

Зараз устанаўліваем кантакты, праводзім перагаворы з замежнымі страхавымі кампаніямі аб сумеснай дзейнасці, прадстаўленні нашых інтарэсаў у Лацінскай Амерыцы, Паўднёва-Усходняй Азіі, Афрыцы. Са студзеня 1996 года дзейнічае дагавор аб супрацоўніцтве са страхавым акцыянерным таварыствам «Альте Ляйпцыгер» (Германія) па страхаванню грамадскай адказнасці ўладальнікаў транспартных сродкаў па «зялёнай карце».

Дарэчы, нядаўна беларуская дэлегацыя ў саставе кіраўнікоў Дзяржстрахнагляду, Белдзяржстраха, Беліндзяржстраха, нашай страхавой кампаніі прымала ўдзел у рабоце форуму СНД, які праходзіў у Маскве. Там былі абмеркаваны пытанні уніфікацыі падатковага заканадаўства і прыняты зварот да Вярхоўных Саветаў, Дзярждумы і ўрадаў краін — удзельніц форуму аб садзейнічанні і аказанні дапамогі ў гэтым пытанні.

Маскоўская сустрэча мела даволі вялікія маштабы. Надзённыя пытанні страхавой справы абмяркоўвалі прадстаўнікі буйнейшых страхавых кампаній краін былога Саюза, а таксама ЗША, Англіі, Францыі, Германіі, Швейцарыі.

Па заканчэнні форуму адбылася міжнародная навукова-практычная канферэнцыя на тэму «Страхаванне — як стратэгічны сектар эканомікі». Яна прайшла ў Фінансавай акадэміі пры ўрадзе Расіі.

На наш погляд, такія сустрэчы даволі карысныя. Яны дазваляюць нам далучыцца да перадавога вопыту па далейшаму развіццю рынку страхавых паслуг, дамовіцца аб узаемавыгаднай рабоце паміж усімі страхаўшчыкамі і, самае галоўнае, ёсць магчымасць атрымаць многія тэхналогіі «ноу-хау» па страхавой дзейнасці заходніх краін.

У нас ёсць прапановы аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы нашых кадраў, якія валодаюць англійскай, нямецкай, французскай мовамі адпаведна ў Англіі, Германіі, Францыі, ЗША.

Мы, вядома, павінны скарыстаць гэтую магчымасць паездкі, каб нашы работнікі непасрэдна на стажыроўках за мяжой атрымалі доступ да тэхналогій заходніх краін.

**— Пётр Андрэевіч, пагадзіцеся, што наша размова будзе няпоўнай, калі чытач не даведаецца, дзе страхуюцца супрацоўнікі «БАГАЧА», іх родныя, сябры?**

— Не збіраюся нічога ўтойваць. Большасць супрацоўнікаў страхавога таварыства «БАГАЧ», іх родныя і блізкія страхуюцца ў нас. Хоць нейкіх умоў наконт месца страхавання, страхавой арганізацыі мы не ставім. Але пачуццё карпаратыўнай салідарнасці ў большай ці меншай ступені ўжо развіваецца ў многіх нашых супрацоўнікаў, што ўплывае на выбар іх і выбар іх родных. Сябры, калі яны сапраўды нашы сябры, таксама страхуюцца ў нас.

З больш шырокім укараненнем у свядомасці людзей неабходнасці страхавання гэты працэс будзе пашырацца і ўмацоўвацца.

Усё стрымліваецца пакуль тым, што страхаванне, як адзін з бакоў жыцця, яшчэ не стала нормай для многіх нашых людзей. Але я не сумняваюся, што пройдзе час — і людзі выдатна гэта ўсвядомяць, і першачарговай справай кожнага будзе страхаванне.

**НАШ АДРАС:** ***220104, г. Мінск, вул. Лынькова, д. 19, корп. 1, тэл.: (8-0172) 50-84-76, 50-84-77, 50-84-78.***

**Матэрыялы рэкламна-інфармацыйнай старонкі падрыхтаваў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

Віктар КАРАМАЗАЎ

# І крыж, і поўня

*З дзённіка*

АЛЕ ЧАМУ Я ТАК СКАЗАЎ: Бірулю мы мала ведаем, Бірулю мы не хочам ведаць, Бірулю мы ці будзем калі-небудзь ведаць?

Хто тыя **мы**, што не хочуць ведаць? І ці ўсе мы — гэта **мы**?

За восем гадоў вандровак па Бірулевых сцежках я сустрэў шмат людзей, якія Бірулю шчыра любяць, чуюць, як адзін сказаў, дыхам. Найбольш іх у Беларусі, сярод люду простага, неказённага, сярод мастакоў, леснікоў, паляўнічых — людзей прыроды, правінцыяльныя пейзажысты — яго духоўныя дзеці. Бірулю яны ведаюць пераважна па выпадковых рэпрадукцыях у старых часопісах, рэдка — па альбомах, хочуць яго бачыць болей, хочуць чытаць яго і пра яго, але вельмі мала каму трапляюць у рукі ці якая кніжачка, ці які альбомчык. І пісаў жа наш духоўнік шмат, ні дня без мазка, як Алёша, ні дня без радка, у адной Беларусі каля 500 яго жывапісных работ, сотні карцін і эцюдаў па музеях, галерэях, прыватных зборах ад Калінінграда да Уладзівастока, ад Мурманска і Архангельска — да Тбілісі і Астрахані. Пісаў і прозу, і вершы. А лісты дачцэ Любе і сябрам — хіба не мастацтва? Самы блізкі яго сябра Жукоўскі адгукнуўся яму аднойчы з Варшавы: «Твой ліст — вялікі лірычны і рамантычны твор! Па глыбіні пачуцця і назіральнасці ён вышэй за Тургенева. Я ўсім даю яго чытаць як узор глыбока змястоўнай душы. Панна Яніна ў захапленні ад ліста, прасіла даць пачытаць маме. Граф М., муж мае каханкі, чытаў і сказаў, мяне сустрэўшы, што некалькі дзён быў пад уражаннем ад ліста! Захаваю яго як рэліквію прыгажосці душы паэта-мастака!»

Дык што і хто не пускае ўсяго Бірулю да ўсіх нас?

ЁН СКАЗАЎ: «Не адбірайце ў чалавека радасць...»

Калі ў гэтых словах і наш папрок камусьці, то — каму? У дачыненні да радасці, якую нам дае Біруля, — каму?

ДА БІРУЛІ я выбраўся ў жніўні 1988 года. Тады — не надоўга. У Магілёў, Бялынічы, Крынкі. А ў маі 1989-га — надоўга. Запрог сваю зялёную «Ніву», якую Міхась Стральцоў назваў «свячкаю казлу і каню», укінуў у яе гумовыя боты, палатку, спальнік, лодку, бок «ІЖ-12», дыктафон, фотакамеру «Кіеў», тузін пляшак «Белавежскай», усялякі будзённы рыштунак і, зрабіўшы выгляд, што аніякае катаракты ў мяне ні ў адным воку няма, пагнаў кентаўра на Бірулёвы сцёжкі-дарожкі. Праз чатыры гады ўжо была не толькі напісана, але і выдадзена кніга пра Бірулю «Крыж на зямлі і поўня ў небе», па кнізе — зняты мастацкі поўнаметражны фільм. Рэжысёр Валеры Басаў сказаў: прэм'еру фільма наладзім у тваім Крычаве. А я падумаў: чаму б і не наладзіць? Жыву ў Крычаве, тут мая хата, тут кнігу, вярнуўшыся з падарожжаў, пісаў, тут мастакі жывуць, сябры, пішуць пейзажыкі, часам і пад любімага імі Бірулю, тут ёсць мастацкая школа для дзяцей, растуць будучыя жывапісцы — пакажам на вялікім экране фільм пра Бірулю, падорым кнігі пра Бірулю, на сустрэчу прыеду я, аўтар кнігі і фільма, прыедуць рэжысёр, артысты, што ў фільме здымаліся, можа, кампазітар і аператар. Пазваніў загадчыку раённага аддзела культуры Міхееву — гэтакае свята прапанаваў. Той згадзіўся. Я, праўда, не зразумеў — з радасцю ці без радасці? Праз два тыдні звоніць: сустрэчу трэба перанесці на пазнейшы час — нявыкрутка. Ну, перанеслі. А праз месяц зноў ад яго званок: трэба зноў перанесці — нявыкрутка. І трэці раз — нявыкрутка. Кажу: вы яго, той час, каб вам быў выкрутны, самі прызначце, і як прызначыце — скажыце. Вось... да гэтага часу маўчыць — два гады. Што гэта ўсё значыць? А тое, што тут Біруля непатрэбны. І кнігі, фільм, слова пра Бірулю тут непатрэбны. І рэжысёр, пісьменнік, артысты, мастакі, кампазітар таксама тут непатрэбны.

Але каму непатрэбны? Вучням мастацкай школы? Іх настаўнікам і бацькам, якія дзяцей выхоўваюць мастацтвам? Усёй мясцовай інтэлігенцыі і моладзі?

Тым часам у Крычаве — пажар. Ноччу гарэў шматпавярховы дом, у якім жывуць рабочыя завода гумава-тэхнічных вырабаў. З пажару вынеслі мужчын, жанчын, дзяцей — мёртвых. А яшчэ жывых, моцна абпаленых, адвезлі ў бальніцу. І гэта нікога не здзіўляе: гарым з усіх бакоў — звычайнае.

Здзіўляе тут тое, што ў Крычаве пройдзе міжнародны пленэр — кажуць: навошта нам Біруля?

Хто гэтак кажа? Ды і той самы, што з гармонікам кіруе: сыпце рускага, дзэўкі-хлопцы!

А дзеўкі-хлопцы загаварылі па-беларуску. Гармонік абурана рохнуў, сціх:

— Хто тут нацыналіст?..

Вядзецца следства: чаму адбыўся пажар і хто вінаваты? А пажар ад бруду. Ад жыцця ў павальным п'янстве, крадзяжах, галечы, мардабоі. Ад моўнага абвалу, на якім расплыўся стылізаваны пад інтэграцыю ды рэфармацыю — пад іх імітацыю — рускі мат.

Дык і навошта ўжо тут Біруля?

Тут — міхееўшчына: загі, прэды, намы, мэры — з'яднаная ў хлусні антыкультура.

АЛЕ... МІХЕЕЎШЧЫНА — правінцыя? А там — вышэй?

А там — міністэрства культуры.

Прыйшоў я да галоўнага спеца па жывапісе — кажу: восем гадоў жыву з Бірулем у думках, кнігу напісаў, фільм паставіў, пра пленэрчык яшчэ тры гады назад вёў размову з міністрам культуры, на Магілёўшчыне, адкуль Біруля родам, ідэю пленэра сеяў, і вось — ён блізкі, чым магу служыць? Той на мяне глядзіць — у вачах цікавасць: ёсць кніга? ёсць фільм? не чыталі, не бачылі, не ведалі — усё пра Бірулю? Ды вас да нас сам Бог паслаў! Вось у нам. міністра арганізацыйна камітэт па пленэру збіраецца — паклічам.

Скажаце слова? Чакайце — пазвонім.

Чакаю. Час бяжыць. Званю, нам. міністра — не адказвае. Званю другі дзень, трэці, пяты — то няма, то заняты. Зайшоў да сябра на ўрадавы тэлефон - вяртушку: званю. Адразу чую: вас слухаю. Кажу, хто я і з чым. Чую: вы нам патрэбны. Дамовіліся — пазваню праз тыдзень.

Званю праз тыдзень — сакратарка адказвае: заняты, у яго аргкамітэт па Бірулі. Цудоўна — мне гэта і трэба! Пайшла — вярнулася: не можа вас прыняць, званіце ў чатыры. Званю ў чатыры: няма — паехаў. Аж матам краянуў. Добра, што ў сваёй кватэры, далонню заткнуўшы тэлефонную трубку. Кажу ў трубку: вось мой тэлефон, перадайце, ён — чалавек дзяржаўны, заняты, я — гультай, будзе патрэбна — хай мне звоніць. Мінула паўтара месяца — званка няма. Пленэр ужо зусім блізка — званка не будзе. Усё — як там, у раёне. Адна сістэма: унізе і ўверсе. Адна культура — міхееўшчына.

Зрэшты, Бог з імі, з сістэмаю і яе апекунамі. Мне б толькі растлумачыць ім, знаўцам Бірулі, як вымаўляць па-нашаму, па-беларуску, прозвішча свайго класіка. Каб хоць яны, арганізатары пленэра, не ламалі яго перад простанароддзем і замежнымі гасцямі на маскоўскі лад. Я ж памятаю, як першы раз сказаў пра Бірулю па радыё. Званок адразу: «говорит научный сотрудник, специалист по Белыницкому-Бируле, хочу вам высказать свои замечания». «О, кажу, вельмі цікава — што не так?» «А вы неправильно произносите фамилию художника: нужно в слове «Белыницкий» ударение ставить на первое «и», а в слове «Бируля» — на «я», у вас же — на «ы» и на «у». Я спытаў, якія яшчэ вучоныя заўвагі? Больш заўваг не было. Тады патлумачыў, што кажу па-беларуску, што прозвішча ў Вітольда Каятанавіча — абодва слоўкі — беларускае, і сам ён беларус, што вымаўляць нам гэтае прозвішча на «і» ды на «я» можна толькі без памяці, забыўшы, хто ты родам, што гэта не па-вучонаму, а па-маскоўскаму,

Была ў мяне і яшчэ адна смешная сітуацыя з гэтым прозвішчам. Прыехаў я першы раз на Друць каля тых Крынак, пытаюся, дзе стаяў дом Бірулі, даючы прозвішчу маскоўскі націск, а людзі глядзяць мне ў вочы і плячыма паціскаюць. Я паўтарыў пытанне, і ўжо не па-маскоўску, як першы раз, а па-нашаму, па-беларуску, націснуў на «у» — Біруля. Тады мужчына, пастух, ляснуў па халяве бота пугаўём і засмяяўся — ад сціпласці не з мяне, а з сябе: «Во, цяпер я вас зразумеў. Дык Бірулі дом стаяў тут, дзе я стаю з каровамі». Мы тады яшчэ і з Бялыніцкага пасмяяліся: няма ў нас і такога слова, ёсць — Бялынічы, і адсюль — Бялыніцкі.

Вось я і хвалююся: як нашы міністры і спяцы будуць называць Бірулю на пленэры — пакуль што ўсе лепяць па-маскоўску. А ў апошні час іншай мовы чакаць проста не выпадае.

І ўспомніць там, на пленэры, нельга, што сваю аўтабіяграфію Біруля пачынаў словамі: «Я беларус...»

Вось якія страсці на нашай міхееўшчыне!

Гарым? З усіх бакоў гарым.

Дажыліся!

ШТО ЯШЧЭ ТАМ, за вялікім сталом аргкамітэта, я хацеў сказаць? А што Бірулю нам трэба ведаць не толькі па-Рэпіну, як жывапісца «праўды, прастаты і свабоды», а шырэй — як з'яву культуры, якая павінна служыць процівагай міхееўшчыне. І таму на пленэры патрэбны Бірулевы чытанні. Калі іх не запалітызаваць, калі прыйсці на іх з Бірулем, ягонай багатай спадчынай, а не з агітпропаўскімі кандуітамі, старымі і сённяшнімі, то і мы ўсе паразумнеем, і культура наша падлечыцца. Тэматыку такіх чытанняў даў сам мастак.

*Біруля і матывы Бацькаўшчыны ў жыцці і творчасці.*

*Біруля і прырода. На паляванні і з палітрай у прыродзе.*

*Біруля і рэалістычныя традыцыі беларускага жывапісу. Яго дачыненні да імпрэсіянізму і сучаснага пейзажа.*

*Бірулева жывапіснае майстэрства. Ідавочнае і загадкавае.*

*Бірулева слова: эсэ, лісты, апавяданні, вершы. Слова і колер. Тэкст, кантэкст і падтэкст.*

*Біруля сярод сяброў і землякоў. Культура ўзаемаадносінаў.*

*Біруля і музыка.*

*Біруля і тэатр.*

*Біруля і ўлада. Творчасць і свабода.*

Апошнюю тэму трэба паставіць першай, адчуваючы небяспеку, якая збіраецца над першым Бірулевым пленэрам. Каб з першага дня не паслізнуцца на той самай міхееўшчыне.

БІРУЛЯ — У ШКЛОВЕ?..

Гэтакі маршрут пленэра быў вызначаны адразу: Магілёў, Шклоў, Бабруйск, Мсціслаў, Крычаў. А дзе ж Бялынічы? Дзе Крынкі?

Я трымаў у руцэ аркуш паперы з акрэсленым маршрутам і глядзеў на Уродніча, ён — глядзеў на мяне. Так, я быў здзіўлены. Пленэр быў задуманы ў гонар Бірулі, на яго радзіме, але чаму ў абход яго родных Крынак, яго Бялыніч?

Мне падалося, што Бялынічы выпхнуў з радка Шклоў — радзіма прэзідэнта выпхнула радзіму Бірулі.

Уродніч спахапіўся, калі я сказаў пра гэта:

— Ах, так, памылка адбылася. Паправімся.

А ў мяне засталося пытанне: памылка ці задумка? Што гэта будзе: пленэр Бялыніцкага-Бірулі ці пленэр для нашага прэзідэнта?

МАСТАК І ЎЛАДА — пытанне вечнае. Як вечны паядынак Бога з Д'яблам. І што на гэтую тэму сказаў Біруля? Сваёй творчасцю і сваім жыццём? Якія задаваў сабе і не толькі сабе пытанні і якія знаходзіў на іх адказы?

Калі пра жыццё Бірулі да 1917 года, то можна сказаць пэўна: стасункаў з уладай не меў, паразумення не шукаў. Разглядаючы і перачытваючы яго творчую спадчыну, нельга не заўважыць і не здзівіцца, як кола яго жыцця круцілася адно ў полі духоўных рарытэтаў, дзе былі жывапіс, прырода, сябры па духу, музыка, паэзія, тэатр, сям'я, і не выкочвалася на поле ўлады, палітыкі, танных каштоўнасцей. Апошняе поле, што яно ёсць, не заўважаў. Там была іншая планета, а ў яго — свая.

Ну, а новы час — пасля 1917 года? Ён як паставіўся да Бірулі і як Біруля паставіўся да яго? Новая ўлада сябе не заўважаць дазволіла?

Вось тут кола жыцця і зарыпела, і залескатала, як у цудоўным Бірулевым апавяданні «Кіслячыха»: спіцы з кола пасыпаліся, і воз абсунуўся ў гразь.

У Маскве ў Бірулі быў вялікі, на два паверхі, дом, вядомы ўсім сталічным мастакам, і ў тым уласным доме ўлада загнала сям'ю Бірулі ў тры самыя малыя пакойчыкі, дзе не было цэнтральнага ацяплення, амаль не было святла, акрамя электрычнага, не было нават свайго туалета і ванны. Бяда навісла і над «Чайкай» — яна падлягала рэквізіцыі. Ёсць ліст Бірулі да старшыні валаснога выканаўчага камітэта С. П. Смірнова, напісаны недзе ў 1922—1925 гадах. У ім — тыя настроі Бірулі, далёкія ад мастацтва:

**«Для людзей Удомльска-Радскай воласці не сакрэт, што Багагай злодзей, правакатар, нягоднік. Хаваючыся за званне члена РКП, ён беспакарана робіць злачынствы. Ён мяне кругом абакраў, пакраў нават вадасцёкавыя трубы, сячэ і прадае лес. Знаходзячыся ў партыі, тэрарызуе сялян. Разам з братам Мікалаем ён выкраў у сігаўскага млынара дзяржаўны хлеб, падрабляе квітанцыі. Хрысціць дзяцей і за гэта вымагае паркаль. Яго выступленне на валасной партканферэнцыі — гэта паклёп на прадстаўнікоў савецкай улады, на нашых наркомаў, якія былі гасцямі «Чайкі», тут адпачывалі і палявалі...»**

Такое пачалося жыццё. Акадэмік жывапісу, высокі мастацкі аўтарытэт, Біруля павінен быў бараніцца і бараніць людзей ад вясковага злодзея з партыйным білетам, які паклёпнічаў на яго і на яго гасцей. І хто — госці? Біруля сказаў — наркомы. На дачы бывалі Фрунзе, Луначарскі, Варашылаў, Рудзутак. Ёсць фотаздымкі: дачка Люба з Рудзутакам, Фрунзе і Луначарскі на тэрасе дачы Бірулі. Дык што, вядомыя ў краіне людзі, наркомы і не наркомы, не маглі абараніць Бірулю ад нейкага Багагая? Але Біруля па дапамогу да іх не звяртаўся: не дазвалялі маральныя прынцыпы. Далей у тым самым лісце ён сказаў: **«Маё сумленне чыстае. Я беспартыйны, але кожнаму чалавеку быў сябрам у жыцці. Я дапамагаў усім, хто трапляў у бяду. Даваў чалавеку ўсё, што мог даць, што яму было трэба. Я аддаў людзям нават свае хлявы і стрэльбы. Былі выпадкі, калі здымаў з сябе вопратку, каб апрануць голага. Я ніколі ні ў кога не прасіў дапамогі, хабару ніколі не браў, ад людзей не хаваўся і подкупам сябе не забрудзіў. Гэтага не можа ўявіць Багагай».**

Каб ўратаваць дачу, Біруля адкрыў у ёй школу для вясковых дзяцей: вучыў і жывапісу, і рамёствах, у тым ліку разьбе па дрэву, слясарнай і кавальскай справе. Настаўнікаў і майстроў трымаў на свае сродкі, траціўся на абсталяванне, фарбы, паперу, пэндзлі. А ў Маскве людскай кватэры не набыў ужо да смерці. Цяжка хворы, ён піша ліст Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Хрушчову, каб кватэру, у якой пражыў за савецкай уладай, без туалета, святла і месца пад мальберт, яму памянялі на кватэру больш зручную для старога, аслеплага на адно вока мастака, каб ён яшчэ змог напісаць штосьці перад смерцю. Але ўлада і на гэты раз аказалася да яго глухой. Адказу на ліст не атрымаў.

Бірулі выпала стаць стваральнікам савецкага мемарыяльнага жывапісу. Ён пісаў пейзажы, у якіх жылі Талстой, Пушкін, Чайкоўскі, Ленін. І калі кожны мастак быў абавязаны, калі хацеў жыць, выконваць заказы партыі і ўрада, Біруля не мог не апынуцца на радзіме Сталіна. Каўказ яму быў знаёмы. Яшчэ вучнем Вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства ён тут гасцяваў у брата, пісаў, і за карціну «Ваколіцы Пяцігорска» атрымаў Боткінскую прэмію. Сам Траццякоў купіў карціну і вывесіў у сваёй галерэі побач з карцінаю Левітана. То было ў 1896 годзе. Але на гэты раз Каўказ не даў Бірулі ні творчай радасці, ні матэрыяльнай узнагароды. Затое пасыпаліся непрыемнасці. Пасля паездкі на радзіму Сталіна колькі разоў Біруля вылучаўся на Сталінскую прэмію, і кожны раз нечая рука выкрэслівала яго са спісаў кандыдатаў. Ён ведаў, чыя гэта была рука. Больш магутнай за яе ў краіне не было.

Сябра Жукоўскі ўжо быў у Варшаве. Ён эмігрыраваў туды ў 1923 годзе, убачыўшы над галавой чорныя хмары. Пралеткультаўская крытыка ўжо намацала яго балючае месца: апяванне барскіх куточкаў, маёнткаў і варожых рэвалюцыі інтэр'ераў. У пачатку дваццатых гадоў ён, як у разведку, з'ездзіў у Вятку, там пажыў, папрацаваў, агледзеўся і зразумеў, што там не яго жытло. І з'ехаў у Польшчу.

Біруля застаўся. Брат ужо быў у Варшаве. Вітольду Каятанавічу туды дарога таксама была адкрытая. Але застаўся. Спадзяваўся, што выжыве: барскіх куточкаў, як Жукоўскі, не апяваў, пейзажы пісаў звычайныя, мужыцкія. Але тыя чорныя хмары сабраліся і над ім. Адразу пасля вайны яго ў Маскве знайшоў першы сакратар ЦК КПБ Панамарэнка і запрасіў да сябе ў госці ў Мінск. Біруля прыехаў увесну 1947 года, пасяліўся на Белай дачы Панамарэнкі і жыў пад яго апекаю, пісаў у ваколіцах вясновыя пейзажы. Хто дакажа, што гэта не была спроба Панамарэнкі, аўтарытэтнага ў вачах Сталіна, выратаваць Бірулю ад той самай Вяткі ці якой-небудзь Вішары?

З Варшавы Жукоўскі пісаў Бірулі:

**«Чым жывуць мастакі? Чуў, што ўрадавымі заказамі ў жанры агітацыі? Не магу сабе ўявіць агітацыю сродкамі пейзажу!? Растлумач гэта мне абавязкова».**

Яны былі не проста блізкія сябры, але і аднадумцы ў творчасці. І тое, што не мог уявіць тэмпераментна-іранічны Жукоўскі, не мог зразумець і разв珍жлівы Біруля.

Прадаць сваю душу д'яблу Вітольда Каятанавіча не мог прымусіць нават і самы крывавы кесар.

АЛЕ ЧАМУ пра ўсё гэта думаецца цяпер, калі пачынаецца Бірулеў пленэр на Магілёўшчыне?..

(Заканчэнне. Пачатак у нумары за 4 мая.)

## ЮБІЛЕЙ — ГЭТА ШМАТ МУЗЫКІ

**Нядаўна кафедра народнай творчасці Беларускага універсітэта культуры адзначыла сваё 20-годдзе.**

У зале Акадэміі музыкі з гэтай нагоды адбыўся святочны канцэрт, які падрыхтавалі мастацкія калектывы кафедры.

Студэнты і выкладчыкі сапраўды паказалі, на што яны здольныя. Увесь вечар у зале гучала рознапланавая музыка, якую маладыя артысты выконвалі з прафесіяналізмам. Акардэонны ансамбль «Туці» выканаў урыўкі з сюіты Ю. Пешкава «Рэтра», аркестр беларускіх народных інструментаў уключыў у праграму чароўную музыку Г. Ярмоленкі «На Купалле», п'есу «Маладзіца», неўміручы «Падыспань». Беларуская інструментальная капэла «Спадчына» пазнаёміла з творамі музычнага мастацтва XVIII стагоддзя — «Серэнадай» Мацея Радзівіла і «Паланезам» О. Радзівіла. Ансамбль «Баламуты» працягвае традыцыі беларускіх сярэдневяковых скамарохаў: спалучаючы ў сваіх выступленнях размоўны жанр, танец і ігру на народных інструментах, яны прыносяць гледачам сапраўднае задавальненне.

За 20 гадоў свайго існавання кафедра народнай творчасці выпусціла ў свет мастацтва шмат людзей, чые імёны вядомы ў Беларусі і далёка за яе межамі. Ул. Гром — кіраўнік сусветна вядомага калектыву «Крупіцкія музыкі», В. Рамановіч — музычны кіраўнік ансамбля «Валачобнікі», З. Філонава — кіраўнік цымбальнага ансамбля «Пралескі», лаўрэат рэспубліканскага конкурсу В. Мотус.

Святочны канцэрт — першае за дваццацігоддзе існавання выступленне студэнтаў кафедры ў зале Акадэміі музыкі. Але зусім не апошняе: яны даказалі гэта стараннасцю і ўменнем.

**Марыя МІЦУЛЬ.**

## ГАЛА-СПЕКТАКЛЬ ПЕРАНОСІЦЦА НА ЛІСТАПАД

**Гала-спектакль у рамках акцыі «Прыгажосць выратуе свет. У дапамогу дзецям Чарнобыля», аб правядзенні якога «Звязда» неаднаразова паведамляла, міжнароднай дабрачыннай асацыяцыяй «Прыгажосць выратуе свет» са згоды Федэрацыі высокай моды Францыі перанесены з 4 мая на лістапад 1996 года.**

Прычына затрымкі ў тым, што сёння асацыяцыя не атрымала неабходнай фінансавай падтрымкі з боку дзяржавы, а спонсарскі ўклад аказаўся недастатковым для пакрыцця ўсіх выдаткаў беларускага боку, звязаных з правядзеннем такой акцыі. Паўплывала на перанос даты правядзення мерапрыемства і напружанасць у грамадстве, якая ўзнікла напярэдадні і ў момант правядзення дзён жалобы, прымеркаваных да 10-годдзя катастрофы на ЧАЭС. Між тым асацыяцыя ў рамках акцыі правяла шэраг дабрачынных мерапрыемстваў, сярод якіх прэзентацыя міжнародным агенцтвам «СІГМА» ў Парыжы і Мінску серыі фотарэпартажаў звяздоўца Анатоля Клешчука, якія адлюстроўваюць наступствы чарнобыльскай катастрофы, для далейшай іх публікацыі ў вядучых часопісах свету.

**Сяргей ПРОТАС.**

## ПАД ДАХАМ ДОМА СВАЙГО

**«Славянскі базар», як вядома, узяла пад сваё крыло Адміністрацыя Прэзідэнта. Падобна, не застаюцца без увагі і яшчэ два міжнародныя фестывалі, радзімай якіх стаў Магілёў, — «Залаты шлягер» і «Магутны Божа». Над першым шэфствуе аблвыканком, над другім — гарадская мэрыя.**

Пакуль сяляне рыхтуюцца да сяўбы, горад заняты тым, каб дастойна прыняць славутых гасцей. Мяркуецца, што ў «Залатым шлягеры» прымуць сёлета ўдзел не толькі зоркі эстрады краін былога СССР, але і далёкага замежжа. Расшырае сваю праграму і «Магутны Божа». Журы фестываляў узначаляць Муслім Магамаеў і Віктар Роўда.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ПАДАТКАХ НА ДАХОДЫ І ПРЫБЫТАК ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, АБ'ЯДНАННЯЎ, АРГАНІЗАЦЫЙ»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе**:

А. Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 22 снежня 1991 года «Аб падатках на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., №4, арт. 77, №12, арт. 206; 1993 г., №3, арт. 27; 1994 г., №3, арт. 24, №11, арт. 151; 1995 г., №6, арт. 57) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. Артыкул 1 выкласці ў новай рэдакцыі:

«Артыкул 1. Плацельшчыкі падаткаў

Плацельшчыкамі падаткаў на даходы і прыбытак з'яўляюцца юрыдычныя асобы (уключаючы прадпрыемствы з замежнымі інвестыцыямі і замежныя юрыдычныя асобы), удзельнікі дагавора аб сумеснай дзейнасці, якім даручана вядзенне агульных спраў па гэтай дзейнасці або якія атрымалі выручку ад гэтай дзейнасці да яе размеркавання*.

Плацельшчыкам падаткаў на даходы і прыбытак юрыдычных асоб, маёмасць якіх належыць поўнасцю на праве ўласнасці адной асобе, можа выступаць па ініцыятыве ўласніка або ўпаўнаважанага ім органа любая з дадзеных асоб у парадку, які вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Удзельнікі дагавора аб сумеснай дзейнасці, якім даручана вядзенне разлікаў з бюджэтам і пазабюджэтнымі фондамі ў сувязі з ажыццяўленнем сумеснай дзейнасці, абавязаны прайсці спецыяльную рэгістрацыю ў дзяржаўнай падатковай інспекцыі па месцы знаходжання такога ўдзельніка і прадстаўляць у дзяржаўную падатковую інспекцыю асобны разлік па падатку на прыбытак, які атрымліваюць удзельнікі дагавора аб сумеснай дзейнасці.

Ільготы, прадугледжаныя гэтым Законам, пры вылічэнні падатку на прыбытак па сумеснай дзейнасці не прадастаўляюцца».

2. У артыкуле 2:

пункт 1 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«1. Аб'ектам абкладання падаткам на даходы з'яўляюцца дывідэнды і прыроўненыя да іх даходы.

Дывідэндам для мэт падаткаабкладання прызнаецца частка прыбытку прадпрыемства, гаспадарчага таварыства або гаспадарчага аб'яднання, якая выплачваецца адпаведна ўласніку (уласнікам) дадзенага прадпрыемства ці ўдзельнікам гаспадарчага таварыства або гаспадарчага аб'яднання ў сувязі з правам уласнасці на маёмасць прадпрыемства ці ўдзелам у гаспадарчым таварыстве або гаспадарчым аб'яднанні, за выключэннем:

1) выплат акцыянеру (пайшчыку) у грашовай або натуральнай форме і памеры, які не перавышае яго ўзносу (укладу) у статутны фонд прадпрыемства пры яго ліквідацыі;

2) выплат акцыянерам (пайшчыкам) прадпрыемства ў выглядзе акцый (паёў) гэтага ж прадпрыемства, а таксама ў выглядзе павелічэння намінальнага кошту акцый (паёў), калі такія выплаты не змяняюць працэнтную долю ўдзелу ў статутным фондзе ні аднаго з акцыянераў (пайшчыкаў).

Да дывідэндаў для мэт падаткаабкладання прыроўніваюцца даходы ад пагадненняў (даўгавых абавязацельстваў), якія прадугледжваюць удзел у прыбытках.

Акцыянерам (пайшчыкам) для мэт падаткаабкладання прызнаецца прадпрыемства, якое валодае ў любой форме правам на частку прыбытку (даходу) ці ўвесь прыбытак (даход), атрыманы прадпрыемствам, і на частку маёмасці (ці ўсю маёмасць) прадпрыемства пры яго ліквідацыі ці правам удзельнічаць у размеркаванні прыбытку»;

у пункце 2:

у частцы першай пасля слова «прадукцыі» дапоўніць словам «тавараў», выключыць слова «матэрыяльных» і пасля слова «фонды» дапоўніць словамі «таварна-матэрыяльныя каштоўнасці, нематэрыяльныя актывы, каштоўныя паперы»;

дапоўніць пункт пасля часткі першай часткамі наступнага зместу:

«Бязвыплатная перадача асноўных фондаў і іншых каштоўнасцей (у тым ліку таварна-матэрыяльных каштоўнасцей, нематэрыяльных актываў, каштоўных папер) у межах аднаго ўласніка па яго рашэнню або ўпаўнаважанага ім органа ў аб'ём рэалізацыі не ўключаецца.

Пры вызначэнні прыбытку ад рэалізацыі тавараў прымаюцца выдаткі, якія прыпадаюць на фактычна рэалізаваныя тавары»;

часткі другую і трэцюю лічыць адпаведна часткамі чацвёртай і пятай;

у частцы чацвёртай словы «і яе рэалізацыяй» замяніць словамі «уключаючы бязвыплатна атрыманыя грашовыя сродкі і іншыя каштоўнасці (у тым ліку асноўныя фонды, таварна-матэрыяльныя каштоўнасці, нематэрыяльныя актывы, каштоўныя паперы), акрамя перадачы гэтых каштоўнасцей у межах аднаго ўласніка»;

частку пятую выкласці ў новай рэдакцыі:

«У склад даходаў ад пазарэалізацыйных аперацый для мэт падаткаабкладання не ўключаюцца:

1) сродкі, якія паступаюць са створаных у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь фондаў і з бюджэту Рэспублікі Беларусь і выкарыстаны па мэтаваму прызначэнню. Сумы сродкаў, якія паступілі з пазабюджэтных і цэнтралізаваных фондаў і выкарыстоўваюцца не па мэтаваму прызначэнню, бяруцца ў бюджэт са спагнаннем санкцый у двайным памеры;

2) у бюджэтных арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў, створаных у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам:

а) уступныя, паявыя і членскія ўзносы ў памерах, прадугледжаных статутамі;

б) ахвяраванні юрыдычных і фізічных асоб Рэспублікі Беларусь і іншых дзяржаў, якія паступілі ў іх уласнасць і выкарыстаны па мэтаваму прызначэнню. Ахвяраванні, выкарыстаныя не па мэтаваму прызначэнню, падлягаюць падаткаабкладанню ў агульным парадку;

в) даходы (працэнты) ад захоўвання грашовых сродкаў, указаных у падпунктах «а» і «б», на разліковых, бягучых і іншых рахунках ва ўстановах банкаў;

3) узносы ў статутны фонд, якія робяцца заснавальнікамі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам;

4) сродкі, атрыманыя суб'ектамі гаспадарання ў парадку долевага ўдзелу ў будаўніцтве жылля, ва ўтрыманні аб'ектаў невытворчай сферы і выкарыстаныя па мэтаваму прызначэнню;

5) даходы, атрыманыя ўдзельнікамі сумеснай дзейнасці»;

дапоўніць пункт часткамі наступнага зместу:

«Пры бязвыплатнай перадачы асноўных фондаў і іншых каштоўнасцей (у тым ліку таварна-матэрыяльных каштоўнасцей, нематэрыяльных актываў, каштоўных папер) момантам рэалізацыі з'яўляецца факт іх перадачы.

Пры тавараабменных (бартэрных) аперацыях момантам рэалізацыі з'яўляецца факт атрымання або перадачы прадукцыі (работ, паслуг). Атрыманы пры гэтым тавар прыходуецца па ўліковай вартасці адгружанага па тавараабменных аперацыях тавару».

3. У артыкуле 3:

частку першую пасля слоў «асноўных фондаў» дапоўніць словамі «нематэрыяльных актываў»;

у пункце 1:

абзац пяты выкласці ў новай рэдакцыі:

« — адлічэнні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва»;

абзац сёмы выкласці ў новай рэдакцыі:

« — плацяжы па страхаванню маёмасці, грузаў і рызыкі непагашэння крэдытаў, а таксама асобных катэгорый работнікаў па пераліку, які зацвярджаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь, пералічаныя страхавым арганізацыям, зарэгістраваным у Рэспубліцы Беларусь; сумы, пералічаныя замежным перастрахоўшчыкам, — толькі ў выпадку немагчымасці заключэння дагавораў перастрахавання са страхавымі арганізацыямі Рэспублікі Беларусь на падставе заключэння Дзяржаўнага страхавога нагляду пры Міністэрстве фінансаў Рэспублікі Беларусь»;

у абзацы восьмым словы «кароткатэрміновыя» і «банкаў» выключыць;

дапоўніць пункт абзацам і часткай наступнага зместу:

« — знос нематэрыяльных актываў.

У страхавых арганізацыях на сабекошт страхавых паслуг адносяцца адлічэнні ў страхавыя рэзервы толькі ад сум паступіўшых страхавых узносаў»;

у пункце 3 часткі першую і другую выкласці ў новай рэдакцыі:

«У склад расходаў на аплату працы ўключаюцца выплаты па заработнай плаце, вылічаныя зыходзячы са здзельных расцэнак, тарыфных ставак і службовых акладаў, якія ўстанаўліваюцца ў залежнасці ад вынікаў працы, яе колькасці і якасці, стымулюючых і кампенсуючых выплат, уключаючы кампенсацыі па аплаце працы ў сувязі з павышэннем і індэксацыяй цэн, сістэм прэміравання рабочых, кіраўнікоў, спецыялістаў і іншых служачых за вытворчыя вынікі, іншых умоў аплаты працы ў адпаведнасці з формамі і сістэмамі аплаты працы, якія прымяняюцца на прадпрыемствах.

У сабекошт прадукцыі (работ, паслуг) не ўключаюцца наступныя выплаты ў грашовай і натуральнай форме: матэрыяльная дапамога, надбаўкі да пенсій, аднаразовыя дапамогі ветэранам працы, якія выходзяць на пенсію, даплаты да дзяржаўных пенсій, патанненне кошту харчавання дзяцей, якія знаходзяцца ў дзіцячых санаторыях, яслях, аздараўленчых лагерах прадпрыемстваў, дывідэнды і працэнты, якія выплачваюцца па акцыях і ўкладах у маёмасць прадпрыемства, аплата жылля, іншыя выплаты, якія носяць характар сацыяльных ільгот, што дадаткова прадастаўляюцца па рашэнню працоўнага калектыву звыш ільгот, прадугледжаных заканадаўствам».

4. У артыкуле 4:

пункт 1 выкласці ў новай рэдакцыі:

«1. Дывідэнды і прыроўненыя да іх даходы, налічаныя прадпрыемствам, абкладаюцца па стаўцы 15 працэнтаў. Падатак бярэцца ў крыніцы даходу»;

пункты 2 і 6 выключыць;

пункт 8 дапоўніць часткай наступнага зместу:

«Пры ажыццяўленні відаў дзейнасці, якія вызначаюцца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь, прадпрыемствам могуць устанаўлівацца фіксаваныя сумы падатку на прыбытак. Фіксаваныя сумы падатку на прыбытак па такіх відах дзейнасці ўстанаўліваюцца абласнымі і Мінскім гарадскім Саветамі дэпутатаў ці па іх даручэнню адпаведнымі выканаўчымі і распарадчымі органамі».

5. У артыкуле 5:

у пункце 2:

падпункт «б» выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«б) прыбытак, фактычна выкарыстаны на правядзенне прыродаахоўных і супрацьпажарных мерапрыемстваў, навукова-даследчых, вопытна-канструктарскіх і вопытна-тэхналагічных работ»;

у падпункце «в»:

абзацы першы і другі выкласці ў новай рэдакцыі:

«в) сумы прыбытку, накіраваныя на фінансаванне капітальных укладанняў вытворчага і невытворчага прызначэння (у тым ліку жыллёвага будаўніцтва), а таксама на пагашэнне крэдытаў банкаў, атрыманых і выкарыстаных на гэтыя мэты.

Пад капітальнымі ўкладаннямі вытворчага і невытворчага прызначэння, якія ўлічваюцца пры прадастаўленні ўказанай ільготы, разумеецца капітальнае будаўніцтва ў форме новага будаўніцтва, рэканструкцыі, расшырэння і тэхнічнага пераўзбраення дзеючых прадпрыемстваў, а таксама набыццё будынкаў, збудаванняў, абсталявання, транспартных сродкаў і іншых асобных аб'ектаў асноўных фондаў.

Ільгота па прыбытку, які накіроўваецца на фінансаванне капітальных укладанняў, прадастаўляецца прадпрыемствам, што ажыццяўляюць развіццё ўласнай вытворчай і невытворчай базы, у сумах фактычна зробленых затрат у справаздачным перыядзе.

Указаная льгота прадастаўляецца таксама прадпрыемствам па прыбытку, накіраванаму на капітальныя ўкладанні вытворчага і невытворчага прызначэння ў парадку долевага ўдзелу, — у сумах затрат, пацверджаных забудоўшчыкам»;

абзацы трэці, чацвёрты, пяты, шосты і сёмы лічыць адпаведна абзацамі пятым, шостым, сёмым, восьмым і дзевятым;

абзац пяты выкласці ў новай рэдакцыі:

«Пры рэалізацыі, ліквідацыі, здачы ў арэнду (іншае карыстанне за плату) асноўных фондаў і аб'ектаў, не завершаных будаўніцтвам на працягу двух гадоў з моманту іх набыцця або збудавання, па якіх былі прадастаўлены льготы па падатку на прыбытак, прыбытак, што абкладаецца падаткам, падлягае павелічэнню на балансавую вартасць гэтых асноўных фондаў з улікам іх штогадовай пераацэнкі з выкарыстаннем каэфіцыентаў пераліку, што публікуюцца Міністэрствам статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, і каэфіцыентаў інфляцыі, якія вызначаюцца Міністэрствам статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь на працягу бягучага года, і на зробленыя затраты па аб'ектах, не завершаных будаўніцтвам, з улікам іх індэксацыі»;

абзацы шосты і сёмы выключыць;

абзацы восьмы і дзевяты лічыць адпаведна абзацамі шостым і сёмым;

абзац сёмы выкласці ў новай рэдакцыі:

«Па прыярытэтных напрамках, якія вызначаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, сума льгатуемага прыбытку, што накіроўваецца на фінансаванне капітальных укладанняў вытворчага і невытворчага прызначэння, а таксама на пагашэнне крэдытаў банкаў, атрыманых і выкарыстаных на гэтыя мэты, не абмяжоўваецца»;

у падпункце «г» словы «піянерскіх лагераў» замяніць словамі «дзіцячых аздараўленчых устаноў»;

падпункт «д» выкласці ў новай рэдакцыі:

«д) прыбытак гасразліковых лячэбна-вытворчых майстэрняў псіханеўралагічных бальніц, псіхіятрычных бальніц і дыспансераў, процітуберкулёзных устаноў, атрыманы ад дзейнасці, прадугледжанай статутамі (палажэннямі) гэтых майстэрняў»;

у падпункце «е» словы «медыцынскай тэхнікі, запасных частак да яе, медыцынскіх інструментаў і расходных матэрыялаў на неспецыялізаваных прадпрыемствах» выключыць;

у падпункце «з» пасля слоў «таварна-матэрыяльныя каштоўнасці» дапоўніць словамі «(работы, паслугі)»;

падпункт «і» выключыць;

падпункт «к» выкласці ў новай рэдакцыі:

«к) суму сродкаў, выкарыстаных на развіццё камунальна-бытавой сферы для ўтрымання спецкантынгенту, сацыяльнай сферы асабовага складу пенітэнцыярнай сістэмы Рэспублікі Беларусь і спецкантынгенту, базы вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі для спецкантынгенту і асабовага складу, а таксама на развіццё вучэбна-вытворчай базы папраўча-працоўных устаноў»;

падпункты «л», «н» і «о» выключыць;

падпункты «п» і «р» выкласці ў новай рэдакцыі:

«п) суму прыбытку, атрыманага ад рэалізацыі другаснай сыравіны, якая нарыхтавана, падверглася пярвічнай апрацоўцы, акрамя металаў, каштоўных і паўкаштоўных камянёў;

р) сумы ў межах 10 працэнтаў балансавага прыбытку, накіраваныя на прадастаўленне пазык для набыцця або будаўніцтва жылля работнікам, якія знаходзяцца ў штаце і маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў»;

дапоўніць пункт падпунктамі «т» і «у» наступнага зместу:

«т) сумы прыбытку дзяржаўных архіваў ад аказання платных архіўных паслуг;

у) прыбытак вытворчых майстэрняў, вопытна-эксперыментальных заводаў, падсобных гаспадарак і іншых прадпрыемстваў навучальных устаноў, атрыманы ад практычнага навучання студэнтаў і навучэнцаў»;

пункты 3 і 4 выключыць;

у пункце 8:

пасля часткі першай дапоўніць часткамі наступнага зместу:

«Пералік прадукцыі (работ, паслуг), парадак яе аднясення да ўласных вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь або ўпаўнаважаным ім органам.

Права на атрыманне льготы можа быць рэалізавана прадпрыемствам пры прадстаўленні адпаведнага дакумента аб прыналежнасці прадукцыі (работ, паслуг) да прадукцыі (работ, паслуг) уласнай вытворчасці»;

часткі другую, трэцюю, чацвёртую, пятую, шостую і сёмую лічыць адпаведна часткамі чацвёртай, пятай, шостай, сёмай, восьмай і дзевятай;

частку пятую пасля першага сказа дапоўніць сказам наступнага зместу: «Падатак на прыбытак за другі год дзейнасці выплачваецца з прымяненнем фінансавых санкцый, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь»;

пункт $9^1$ выключыць;

частку першую пункта $9^3$ выключыць;

пункт 10 дапоўніць часткай наступнага зместу:

«Ільготны парадак падаткаабкладання прыбытку, прадугледжаны гэтым пунктам, не распаўсюджваецца на прыбытак, атрыманы ад гандлёвай, гандлёва-закупачнай і пасрэдніцкай дзейнасці»;

пункт 13 выкласці ў новай рэдакцыі:

«13. Прыбытак прадпрыемстваў, навукова-вытворчых аб'яднанняў і іншых арганізацый аграпрамысловага комплексу, атрыманы ад вытворча-тэхнічнага, транспартнага і навуковага абслугоўвання; матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, рамонту і вытворчасці тэхнікі і абсталявання, абслугоўвання арашальных і асушальных сістэм, атрыманы ад аказання гэтых паслуг прадпрыемствам і арганізацыям аграпрамысловага комплексу, абкладаецца падаткам па стаўцы 10 працэнтаў.

Прыбытак, атрыманы ад вытворчасці прадуктаў дзіцячага харчавання, падаткам не абкладаецца»;

дапоўніць артыкул пунктамі 15 і 16 наступнага зместу:

«15. Вызваляюцца ад падаткаабкладання даходы (прыбытак), атрыманыя па аперацыях з дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі, акрамя даходаў (прыбытку) ад іх рэалізацыі па цэнах, якія перавышаюць намінальны кошт, павялічаны на суму працэнтнай стаўкі, устаноўленую пры іх выпуску.

Дзяржаўныя каштоўныя паперы — каштоўныя паперы, эмітуемыя Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь або па яго даручэнню Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь, у якасці дзяржаўных даўгавых абавязацельстваў.

Да аперацый з дзяржаўнымі каштоўнымі паперамі адносяцца аперацыі па куплі-продажу дзяржаўных каштоўных папер (за выключэннем брокерскіх і іншых пасрэдніцкіх паслуг), а таксама аперацыі, звязаныя з іх пагашэннем эмітэнтам у форме, устаноўленай заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

16. Вызваляецца ад выплаты падатку на перыяд двух гадоў з пачатку вытворчасці прыбытак фармацэўтычных прадпрыемстваў, атрыманы ад рэалізацыі спажыўцам рэспублікі жыццёва неабходных лекавых прэпаратаў (па пераліку, зацверджанаму Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь)».

6. Артыкул 7 выкласці ў новай рэдакцыі:

«Артыкул 7. Плацельшчыкі падатку

1. Плацельшчыкамі падатку на прыбытак з'яўляюцца замежныя юрыдычныя асобы, якія ажыццяўляюць гаспадарчую дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь праз пастаяннае прадстаўніцтва, размешчанае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

2. Пад замежнымі юрыдычнымі асобамі разумеюцца арганізацыі, якія ў адпаведнасці з заканадаўствам дзяржавы, што рэгулюе праваздольнасць дадзеных арганізацый, разглядаюцца для мэт падаткаабкладання як юрыдычныя асобы.

Даходы арганізацый, якія ў адпаведнасці з заканадаўствам дзяржавы, што рэгулюе статус дадзеных арганізацый, разглядаюцца для мэт падаткаабкладання як даходы фізічных асоб, падлягаюць падаткаабкладанню ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян».

3. Пад пастаянным прадстаўніцтвам замежнай юрыдычнай асобы, размешчаным на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, для мэт падаткаабкладання разумеецца:

а) адасобленае структурнае падраздзяленне (установа), праз якое ажыццяўляецца гаспадарчая дзейнасць замежнай юрыдычнай асобы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Пры гэтым пад установай разумеецца:

месца вытворчасці прадукцыі або тавараў;

месца выканання работ, аказання паслуг.

Не лічыцца пастаянным прадстаўніцтвам (установай) замежнай юрыдычнай асобы месца, якое выкарыстоўваецца выключна для адной або некалькіх мэт, указаных ніжэй:

захоўванне, дэманстрацыя або пастаўка ўласнай прадукцыі (тавараў);

закупка прадукцыі (тавараў) для замежнай юрыдычнай асобы;

збор або распаўсюджванне інфармацыі для замежнай юрыдычнай асобы або ажыццяўлення іншых відаў дзейнасці, калі пры гэтым яе дзейнасць у цэлым носіць падрыхтоўчы або дапаможны характар;

б) юрыдычная або фізічная асоба Рэспублікі Беларусь, якая ажыццяўляе дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь па вытворчасці прадукцыі, выкананню работ, аказанню паслуг у адпаведнасці з умовамі дагавора даручэння, камісіі або аналагічных дагавораў у інтарэсах і на карысць замежнай юрыдычнай асобы.

Не лічыцца пастаянным прадстаўніцтвам замежнай юрыдычнай асобы юрыдычная або фізічная асоба Рэспублікі Беларусь, якая ажыццяўляе дзейнасць на падставе дагавора даручэння, камісіі або іншага аналагічнага дагавора ў адпаведнасці з даручэннем замежнай юрыдычнай асобы ў выпадку, калі гэта дзейнасць з'яўляецца звычайнай гаспадарчай дзейнасцю дадзенай асобы, якая ажыццяўляецца ёю ў адносінах да некалькіх замежных юрыдычных асоб.

Адсутнасць дазволу, які выдаецца ўпаўнаважаным дзяржаўным органам на адкрыццё пастаяннага прадстаўніцтва замежнай юрыдычнай асобы, якая ажыццяўляе дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь праз пастаяннае прадстаўніцтва, разглядаецца як утойванне даходу, які падлягае падаткаабкладанню».

7. У пункце 1 артыкула 8:

пасля першай часткі дапоўніць часткай наступнага зместу:

«Падаткаабкладанню падлягае прыбытак замежнай юрыдычнай асобы, які ўтвараецца з крыніц у Рэспубліцы Беларусь за кошт выручкі ад рэалізацыі прадукцыі (тавараў, работ, паслуг), даходаў ад пазарэалізацыйных аперацый, зменшаных на суму расходаў па гэтых аперацыях, за вылікам затрат, якія прыпадаюць на рэалізаваную прадукцыю (тавары, работы, паслугі), і расходаў, непасрэдна звязаных з ажыццяўленнем дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь праз пастаяннае прадстаўніцтва, уключаючы расходы па кіраўніцтву, агульнаадміністрацыйныя расходы як у Рэспубліцы Беларусь, так і за мяжой»;

частку другую лічыць часткай трэцяй.

8. Пункт 6 артыкула 9 выкласці ў новай рэдакцыі:

«6. Юрыдычныя і фізічныя асобы Рэспублікі Беларусь пры заключэнні дагавораў з замежнымі юрыдычнымі асобамі не маюць права ўключаць у дагаворы агаворкі, якія змяняюць плацельшчыка падатку ў параўнанні з палажэннямі гэтага Закона».

9. У артыкуле 10:

назву артыкула выкласці ў новай рэдакцыі:

«Артыкул 10. Падатак на даходы замежных юрыдычных асоб, якія не ажыццяўляюць дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь праз пастаяннае прадстаўніцтва»;

пункт 1 выкласці ў новай рэдакцыі:

«1. Замежныя юрыдычныя асобы, якія не ажыццяўляюць дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь праз пастаяннае прадстаўніцтва, атрымліваюць даход з крыніц, што знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і з'яўляюцца рэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь, выплачваюць падатак па:

дывідэндах (якія вызначаюцца ў парадку, прадугледжаным артыкулам 2 гэтага Закона) — па стаўцы 15 працэнтаў;

(Заканчэнне на 9-й стар.)

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ ПАДАТКАХ НА ДАХОДЫ І ПРЫБЫТАК ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, АБ'ЯДНАННЯЎ, АРГАНІЗАЦЫЙ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.)**

раялці — па стаўцы 15 працэнтаў.

Паняцце «раялці» ўключае плацяжы любога віду, атрыманыя ў якасці ўзнагароджання за выкарыстанне або прадастаўленне права выкарыстання аўтарскіх правоў на творы літаратуры, мастацтва, навукі, уключаючы кінафільмы, плёнкі, якія выкарыстоўваюцца для радыёвяшчання, тэлебачання, спадарожнікавую або кабельную перадачу для трансляцыі, любога патэнта, таварнага знака, знака абслугоўвання, чарцяжа або мадэлі, схемы, формулы або працэсу, узнагароджання за выкарыстанне або прадастаўленне права карыстання маёмасцю або за інфармацыю адносна прамысловага, камерцыйнага або навуковага вопыту (у тым ліку ноу-хау);

ліцэнзіях — па стаўцы 15 працэнтаў;

іншых даходах — па стаўцы 15 працэнтаў. Пералік даходаў замежных юрыдычных асоб, якія падлягаюць падаткаабкладанню ў якасці «іншых даходаў», вызначаецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

даходах ад даўгавых абавязацельстваў (патрабаванняў) любога віду, у прыватнасці аблігацый (за выключэннем дзяржаўных), вэксаляў, пазык (укладаў, дэпазітаў, крэдытаў, карыстання часова свабоднымі сродкамі на рахунках у банках Рэспублікі Беларусь), — па стаўцы 10 працэнтаў;

плаце за фрахт у сувязі з ажыццяўленнем міжнародных перавозак — па стаўцы 6 працэнтаў»;

у пункце 4:

выключыць словы «у валюце пераводу» і «пры кожным пералічэнні плацяжу» і дапоўніць сказамі наступнага зместу: «У выпадку выплаты даходу не ў грашовым выглядзе падатак выплачваецца ад грашовага эквіваленту даходаў. Падатак утрымліваецца пры налічэнні плацяжу»;

дапоўніць пункт часткай наступнага зместу:

«Замежныя юрыдычныя асобы, якія адкрылі рахункі ў банках Рэспублікі Беларусь, не пазней 15 красавіка года, які ідзе за справаздачным, прадстаўляюць у дзяржаўную падатковую інспекцыю дэкларацыю аб даходах па зацверджанай форме, завераную аўдытарам. Закрыццё рахунку праводзіцца пасля прад'яўлення ў дзяржаўную падатковую інспекцыю канчатковай дэкларацыі аб атрыманых даходах».

Б. Устанавіць асаблівасці падаткаабкладання на 1996 год:

1. Прадпрыемствы папраўча-працоўных установ і лячэбна-працоўных прафілакторыяў сістэмы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь вызваляюцца ад выплаты падатку на прыбытак.

2. Прыбытак прадпрыемстваў, атрыманы ад прыросту рэалізацыі прадукцыі ўласнай вытворчасці на экспарт, абкладаецца падаткам па стаўках, зніжаных на 50 працэнтаў.

3. Прыбытак прадпрыемстваў, атрыманы ад рэалізацыі вырабленай імі прадукцыі пушной зверагадоўлі, падаткам на прыбытак не абкладаецца.

4. Не абкладаецца падаткам прыбытак ад выдавецкай дзейнасці па выпуску вучэбнай і метадычнай літаратуры для агульнаадукацыйных школ, ПТВ, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установ, дапушчанай у якасці такой літаратуры Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь.

В. Гэты Закон увесці ў дзеянне з 1 красавіка 1996 года.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

19 красавіка 1996 г., г.Мінск.
№237-XIII

# ПАСТАНОВЫ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Палажэнне аб Ганаровай грамаце Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і зацвярджэнні формы ўзнагароднага ліста

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

I. Унесці ў Палажэнне аб Ганаровай грамаце Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, зацверджанае Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 2 жніўня 1994 года (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 22, арт. 443), наступныя змяненні і дапаўненні:

1. Пункты 4 і 5 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«4. Узнагароджанне Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праводзіцца па прадстаўленню міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў, ведамстваў, рэспубліканскіх органаў грамадскіх аб'яднанняў, творчых саюзаў, абласных і Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў, іх выканаўчых камітэтаў.

5. Кожны працоўны калектыў мае права самастойна ўзбудзіць хадайніцтва аб узнагароджанні. Хадайніцтвы працоўных калектываў папярэдне ўзгадняюцца з мясцовымі прадстаўнічымі або выканаўчымі органамі дзяржаўнай улады і ўносяцца ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праз адзін з органаў, пералічаных у пункце 4 гэтага Палажэння».

2. Дапоўніць Палажэнне пасля пункта 5 новымі пунктамі наступнага зместу;

«6. Прадстаўленне да ўзнагароджання асоб, якія не з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, але пражываюць на тэрыторыі рэспублікі, праводзіцца на агульных падставах, а да ўзнагароджання замежных грамадзян, якія пражываюць у іншых краінах, — па ўзгадненню з Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

7. На кожную асобу, якая прадстаўляецца да ўзнагароджання, складаецца ўзнагародны ліст па ўстаноўленай форме, на кожнае прадпрыемства, аб'яднанне, арганізацыю, установу — хадайніцтва з абгрунтаваннем прапановы аб узнагароджанні.

Узнагародны ліст падпісваецца кіраўніком прадпрыемства, аб'яднання, арганізацыі, установы.

Узнагародны ліст на кіраўніка прадпрыемства, аб'яднання, арганізацыі, установы падпісваецца кіраўніком вышэйстаячага органа.

Узнагародны ліст змацоўваецца пячаткай тых прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый, установ, кіраўнікамі якіх ён падпісаны.

Хадайніцтва аб узнагароджанні прадпрыемства, аб'яднання, арганізацыі, установы падпісваецца кіраўніком вышэйстаячага органа і змацоўваецца адпаведнай пячаткай.

8. Разгляду пытанняў узнагароджання ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь папярэднічае абавязковае абмеркаванне іх у адпаведных пастаянных камісіях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

3. Пункт 6 Палажэння лічыць пунктам 9, адначасова замяніўшы слова «ўказы» словам «пастановы».

4. Дапоўніць Палажэнне новым пунктам наступнага зместу:

«10. Узнагароджаныя Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь могуць зноў прадстаўляцца да ўзнагароджання за новыя заслугі».

5. Пункт 7 Палажэння лічыць пунктам 11 і дапоўніць яго часткамі другой і трэцяй наступнага зместу:

«Ганаровую грамату Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь уручаюць:

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

намеснікі Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

старшыні, намеснікі старшынь і сакратары пастаянных камісій, старшыні падкамісій Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь;

кіраўнікі рэспубліканскіх органаў грамадскіх аб'яднанняў і творчых саюзаў;

старшыні абласных і Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў.

Аб праведзеным уручэнні Ганаровай граматы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь складаецца пратакол. Пратакол уручэння Ганаровай граматы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь падпісваецца асобай, якая яе ўручыла, і змацоўваецца пячаткай».

II. Зацвердзіць форму ўзнагароднага ліста для прадстаўлення да ўзнагароджання Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

16 красавіка 1996 г., г. Мінск.
№ 193-XIII.

## АБ ВЫЗВАЛЕННІ АНЦІПЕНКІ А. П. АД ПАСАДЫ НАЧАЛЬНІКА САКРАТАРЫЯТА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Вызваліць **Анціпенку** Аляксандра Пятровіча ад пасады начальніка Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у сувязі з выхадам у адстаўку ў адпаведнасці з артыкулам 22 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце».

2. У тэрмін да 30 красавіка 1996 года правесці перадачу спраў і матэрыяльных каштоўнасцей.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

19 красавіка 1996 г., г. Мінск
№ 208-XIII

## АБ НАЧАЛЬНІКУ САКРАТАРЫЯТА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць **Сідаровіча** Іосіфа Міхайлавіча начальнікам Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

19 красавіка 1996 г., г. Мінск.
№ 209-XIII

## АБ УЗНАГАРОДЖАННІ ШКУРКО У. М. ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую працу ў галіне аховы здароўя ўзнагародзіць галоўнага ўрача Светлагорскага тэрытарыяльна-медыцынскага аб'яднання **Шкурко** Уладзіміра Мікалаевіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

16 красавіка 1996 г.
г. Мінск
№ 196-XIII.

## АБ УЗНАГАРОДЖАННІ САКАЛОВА Я. Я. ГАНАРОВАЙ ГРАМАТАЙ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За актыўны ўдзел у рабоце Беларускай арганізацыі ветэранаў вайны, працы, Узброеных Сіл і праваахоўных органаў і ў сувязі з 70-годдзем з дня нараджэння ўзнагародзіць **Сакалова** Яфрэма Яўсеевіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

16 красавіка 1996 г., г. Мінск
№ 197-XIII.

# ПАМЯТАЙЦЕ, ДЫФТЭРЫЯ ШАНЦАЎ НЕ ПАКІДАЕ!

**Медыцынская неадукаванасць нашага насельніцтва з'яўляецца зусім не асабістай справай кожнага, бо неразуменне некаторых момантаў можа прывесці да катастрофы. Далёка не кожны, напрыклад, зможа растлумачыць, чым небяспечная дыфтэрыя, а ў большасці людзей гэта захворванне наогул асацыіруецца (верагодна, па гучанню) з дызентэрыяй. І ўжо дакладна мала хто прыпомніць, ці ёсць у яго неабходная прышчэпка супраць яго.**

А між тым, гэта інфекцыйнае захворванне набывае сур'ёзны размах.

Калі ў 1993 г. у Рэспубліцы Беларусь было зарэгістравана 120 выпадкаў дыфтэрыі, у 1994-м — 230, то ў 1995-м — ужо 322 выпадкі. У 1994 г. у краіне памерла ад дыфтэрыі 8, у 1995 г. — 14 чалавек.

За перыяд з 1992 па 1995 год у г. Мінску перахварэла на дыфтэрыю 215 чалавек, з іх памерлі 2 чалавекі (абодва не мелі прышчэпак). У 1995 г. у г. Мінску было зарэгістравана 68 выпадкаў дыфтэрыі, з іх 85 працэнтаў сярод дарослых.

Дыфтэрыя — гэта цяжкае заразнае захворванне, якое перадаецца паветрана-капельным шляхам.

Узбуджальнікам захворвання з'яўляецца дыфтэрыйная палачка, якая, трапляючы ў арганізм чалавека, размнажаецца на слізістай абалонцы зева, носа, гартані, скуры і выдзяляе моцны таксін. Дыфтэрыя спачатку нярэдка дыягнастуецца як ангіна. Запаленне слізістых абалонак верхніх дыхальных шляхоў распаўсюджваецца, узнікае ацёк зева, міндалін. У цяжкіх выпадках хвароба працякае вельмі хутка, тэмпература павышаецца да 41 градуса ў першыя два дні хваробы. Развіваецца ацёк падскурнай клятчаткі шыі. Дыфтэрыя часта прыводзіць да смяротнага зыходу. Усмоктванне таксіну, які выпрацоўваецца дыфтэрыйнай палачкай у кроў, ідзе вельмі інтэнсіўна. У цяжкіх выпадках гэта вядзе да ўскладненняў з боку сэрца, нырак, нервовай сістэмы, якія паражаюцца таксінам дыфтэрыйнай палачкі. Смерць, як правіла, настае ад уздзеяння дыфтэрыйнага таксіну на мышцу сэрца аж да поўнай яе блакады.

Асноўная прафілактыка — гэта прышчэпкі супраць дыфтэрыі. Яны высокаэфектыўныя, што даказана зніжэннем захворвання на дыфтэрыю ў сотні разоў у 70-я гады, у параўнанні з 50-мі гадамі, калі яны яшчэ не праводзіліся.

Прышчэпкі робяць дзецям з 3-месячнага ўзросту: 3 ін'екцыі праз 45 дзён, затым ідзе рэвакцынацыя праз 1—1,5 года, у 6, 11, 16 гадоў. Пачынаючы з 16 гадоў прышчэпкі робяць кожныя 10 гадоў без абмежавання ўзросту.

Прышчэпкі даросламу насельніцтву ў нашай рэспубліцы пачалі рабіць з 1986 года. За гэтыя 10 гадоў не ўсё насельніцтва прышчэплівалася, толькі 78,2 працэнта дарослых маюць прышчэпкі, а гэта пагражае ўзнікненнем успышак захворвання.

Стойкі імунітэт ствараецца толькі тады, калі чалавек атрымаў вакцынацыю і рэвакцынацыю. Большасць дарослага насельніцтва РБ атрымала толькі аднаразовую вакцынацыю, што не можа стварыць добрага імунітэту.

**Таму, у мэтах ліквідацыі захворвання на дыфтэрыю, з 13 па 23 мая у Рэспубліцы Беларусь пройдзе кампанія па масавай прафілактыцы дыфтэрыі сярод дарослага насельніцтва (загад Міністэрства аховы здароўя № 57 ад 05.04.96 г.).**

У Мінску плануецца зрабіць прышчэпкі 700 тыс. чалавек. Вакцына ў рэспубліку паступіць ад Міжнароднага Чырвонага Крыжа. Вырабіла яе вядомая французская фірма «Пастэр Мер'е». Прышчэпкі будуць праводзіцца ў паліклініках, па месцы работы і пражывання. Паліклінікі будуць працаваць у дзве змены, будзе таксама праводзіцца імунізацыя дарослых на часовых прышчэпачных пунктах, у тым ліку на даму.

Сілком прымусіць чалавека зрабіць прышчэпку, зразумела, немагчыма. Але хочацца верыць, што разважны сэнс усё-такі возьме верх: вельмі вялікая рызыка. Калі бяда абрушыцца, расплачвацца за ўласную недальнабачнасць у гэтым выпадку магчыма не толькі ўласным здароўем, але і жыццём...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 153

## Аб унясенні змянення ў Часовае палажэнне аб парадку назначэння на пасады і вызвалення ад пасад старшынь абласнога, раённага, гарадскога выканаўчых камітэтаў, а таксама службовых асоб, якія ўваходзяць у састаў указаных выканаўчых камітэтаў

1. У пункт 8 Часовага палажэння аб парадку назначэння на пасады і вызвалення ад пасад старшынь абласнога, раённага, гарадскога выканаўчых камітэтаў, а таксама службовых асоб, якія ўваходзяць у састаў указаных выканаўчых камітэтаў, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 28 лістапада 1994 г. № 222 (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 13, арт.309) апошні сказ выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Узгадненне гэтай кандыдатуры ажыццяўляецца ў парадку, які ўстанаўліваецца Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

29 красавіка 1996 г., г. Мінск.

# СУСВЕТНЫ БАНК ГАТОЎ І Ў ДАЛЕЙШЫМ АКАЗВАЦЬ ДАПАМОГУ БЕЛАРУСІ

**Падрыхтоўцы пагаднення аб фінансавай падтрымцы Сусветным банкам эканамічных рэформаў у Беларусі была прысвечана чарговая кансультатыўная сустрэча кіраўніка нашай дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі з выканаўчым дырэктарам Сусветнага банка Вальтэрам Рылам.**

Сусветны банк ужо выдзеліў рэспубліцы пазыкі на агульную суму каля 200 мільёнаў долараў ЗША. У бягучым годзе банк выдзеліў Беларусі крэдыт у 37 мільёнаў для развіцця прыватных формаў уласнасці, але, на жаль, яны цяпер «замарожаны», бо ў рэспубліцы, на думку прадстаўнікоў Сусветнага банка, не ў дастатковай ступені вядзецца акцыяніраванне і прыватызацыя. У такім жа стане знаходзіцца і крэдыт у 150 мільёнаў долараў, які Сусветны банк гатоў быў прадаставіць яшчэ ў мінулым годзе.

— Беларусь часта крытыкуюць на Захадзе за марудлівасць у правядзенні рэформаў. Я гэтага не прымаю, — сказаў Прэзідэнт. — Рэфарміраванне эканомікі рэспублік былога СССР не павінна ісці «стрымгалоў». Прыклад гэтаму суседняя Расія, дзе была праведзена абвальная прыватызацыя, а сёння паўстае пытанне аб змене ўлады і аб рэпрыватызацыі. Мы, вядома ж, не хочам, каб такое адбылося і ў Беларусі.

За апошнія два гады нашай рэспублікай, паводле слоў Прэзідэнта, зроблены канкрэтныя крокі ў плане рэфарміравання і ўдасканалення эканомікі. Лібералізаваны знешні гандаль. Ужо ніхто не скажа, што ўрадам стрымліваюцца працэсы цэнаўтварэння і акцыяніравання прадпрыемстваў. Усе гэтыя факты, на думку Аляксандра Лукашэнкі, павінны садзейнічаць прыцягненню ў эканоміку рэспублікі замежнага капіталу.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

# ПРЭЗІДЭНТ СУСТРЭЎСЯ З РАСІЙСКІМІ ЖУРНАЛІСТАМІ

Ролі прэсы ў станаўленні маладой суверэннай дзяржавы была прысвечана сустрэча Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі з дэлегацыяй Канфедэрацыі журналісцкіх саюзаў, якая прыбыла ў Беларусь для ўдзелу ў фестывалі беларускай журналістыкі «Залатое пяро-96».

Узначаліў дэлегацыю прэзідэнт канфедэрацыі, старшыня Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Эдуард Сагалаеў. Разам з ім у беларускую сталіцу прыехалі прадстаўнікі кіраўніцтва КЖС, Асацыяцыі «Расійская прэса», Лігі журналістаў Санкт-Пецярбурга і міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мір».

Адкрываючы сустрэчу, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў вялікі ўплыў сродкаў масавай інфармацыі на розумы і настроі грамадзян, адзначыў, што ў эпоху дэідэалагізацыі дзяржаўнага жыцця журналісцкае слова павінна быць як ніколі ўзважаным і адказным. Але, паводле слоў Прэзідэнта, падзеі 26 красавіка ў Мінску паказалі, што і многія грамадзяне, і журналісты блытаюць дэмакратыю з анархіяй. Аляксандр Лукашэнка заявіў таксама, што па факту нападу на журналістаў 1 мая, да якога спецслужбы беларускай дзяржавы не маюць ніякіх адносінаў, вядзецца следства.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛТА.**

*Мікалай ЯШЧАНКА, прэзідэнт футбольнага клуба МВКЦ*

# САМ РОДАМ З УКРАІНЫ. ВУЧЫЎСЯ Ў РАСІІ, А ФУТБОЛ РАЗВІВАЮ БЕЛАРУСКІ

***НЕСУМНЕННА, уся гісторыя беларускага клубнага футбола звязана са сталічнымі камандамі, у прыватнасці з мінскім «Дынама». Правінцыяльна-перыферыйны футбол займаў месца нейкага пасынка і нават не рабіў спроб прабіцца наверх, бо ў часы саюзнага першынства зрабіць гэта было практычна немагчыма.***

***Праўда, арганізацыя самастойнага ўнутранага чэмпіянату ў рэспубліцы дала магчымасць палажыць канец гэтай несправядлівасці. Кожная вобласць магла «вывесці ў людзі» адзін-два клубы і хутка «прасячы акно» ў Еўропу для ўдзелу ў розыгрышах прэстыжных клубаў. І сапраўды, на пачатку кожнага сезона пачалі з'яўляцца клубы з Бабруйска, Магілёва, Гродна, Віцебска, якія паспрабавалі нават скласці канкурэнцыю нязменным чэмпіёнам краіны. Некаторыя з іх паспелі нават паспрабаваць шчасця на футбольных палях кантынента, аднак на чужыне іх заўсёды чакала няўдача, ды і самі каманды па розных прычынах сыходзілі са стартавай дарожкі ў барацьбе за высокія месцы.***

***Гэтую сумную традыцыю «выскачкі на адзін сезон» цвёрда вырашыў парушыць мазырскі МВКЦ, які ў мінулым чэмпіянаце заваяваў «серабро», адстаўшы ад мінскага «Дынама» ўсяго на некалькі ачкоў, а сёлета мазыране ўжо апярэджваюць сталічных футбалістаў. Да таго ж сур'ёзна рыхтуюцца пазмагацца за адзін з еўрапейскіх трафеяў — Кубак УЕФА ці Кубак кубкаў.***

***Магчыма, сёння яшчэ рана гаварыць пра феномен клуба з глыбінкі, таму што наперадзе шмат гульняў самага螺 рознага рангу. І як іх вытрымае каманда — пакажа час. І тым не менш, у пэўнай ступені з'яўленне МВКЦ у стане лідэраў айчыннага футбола для многіх стала нечаканасцю. Спецыялісты звязваюць поспех мазыран з граматным падборам трэнерскага штаба, які ў сваю чаргу змог падабраць маладых і таленавітых ігракоў. А самае галоўнае — клуб адчувае добрую фінансавую падтрымку ў асобе акцыянернага таварыства «Мазырскі вытворча-камерцыйны цэнтр», які ўзначальвае Мікалай Яшчанка, з'яўляючыся адначасова і прэзідэнтам ФК МВКЦ.***

***Пра тое, што ўяўляе сабой МВКЦ у цэлым, якія планы ў клуба на будучыню і пра многае іншае,— наша размова з Мікалаем ЯШЧАНКАМ.***

**— Мікалай Рыгоравіч, мяркую, вам лепш за ўсіх вядома, як на Палессі з'явіўся своеасаблівы суперклуб беларускага маштабу?**

— Думаю, што прыстаўка «супер» для нас пакуль яшчэ не зусім падыходзіць, бо сёлета трэба пацвердзіць свой мінулагодні поспех у чэмпіянаце і пастарацца дастойна выступіць ў Кубку Беларусі і на еўрапейскай арэне.

Але ж мне прыемна, што на нашу каманду многія футбольныя балельшчыкі звярнулі ўвагу, з намі лічацца ўсе без выключэння супернікі.

Дарэчы, МВКЦ сённяшні адлічвае свой час з пачатку 90-х гадоў, калі ў нас на Палессі была адроджана намаганнямі мэра Мазыра Івана Замулкі футбольная каманда з аднайменнай назвай «Палессе». Як вядома, яна пачынала гуляць з трэцяй лігі. Потым быў пад'ём на адну прыступку ўверх.

Першым, хто сур'ёзна ўзняў узровень гульні мазырскай каманды, быў яе трэнер Анатоль Усенка.

Праўда, час ішоў, трэнерскія кадры змяніліся. І, урэшце рэшт, пост настаўніка «Палесся» заняў Анатоль Юрэвіч, які і сёння паспяхова працуе ў клубе.

З прыходам Юрэвіча каманда, можна сказаць, адрадзілася. Аднак, як ва ўсякай справе, ёй неабходна было стабільнае фінансаванне.

**— І тут з'явіўся добры дзядзька па прозвішчу Яшчанка?**

— Гэта адбылося не адразу. Спачатку для падтрымкі гарадской каманды прыцягваліся спонсары, адзін з якіх і быў МВКЦ. Аднак дапамога іх была не настолькі важкай, каб футбалісты маглі спакойна выступаць, маючы перад сабой пэўныя стымулы, а ў дзяржаўным бюджэце на спорт таксама грошай не хапала.

Вырашана было стварыць акцыянернае таварыства — футбольны клуб «Палессе» з мноствам заснавальнікаў. Пры гэтым у абавязкі клуба ўваходзілі заняткі камерцыйнай дзейнасцю, каб адшукаць сродкі для нармальнага існавання. Але ж камерсанты з «Палесся» аказаліся не надта здольнымі, у выніку чаго каманда ў 1994 годзе аказалася на мяжы банкруцтва. А Анатоль Іванавіч гэта добра адчуў і забіў трывогу...

**— Стаяла пытанне «быць ці не быць»?**

— Так. І тут старшыня гарвыканкома Замулка звярнуўся да мяне з просьбай узяць футбалістаў пад сваё крыло на поўнае забеспячэнне. Вось мы і сталі правапераемнікамі ФК «Палессе». А з восені таго ж года клуб перайменаваўся ў МВКЦ.

**— Мяркуючы па далейшых выступленнях клуба Іван Данілавіч не памыліўся ў выбары галоўнай няньки футбалістаў — АТ МВКЦ, прэзідэнтам якога з'яўляецеся вы, Мікалай Рыгоравіч. Адкуль такая спагада**



**да гульні мільёнаў? Да таго ж, такая ноша адразу накладвала адказнасць, ды і не кожнаму яна пад сілу. Цікава было б ведаць, на чым грунтуецца ваша пазіцыя?**

— Пачнём з таго, што я з дзяцінства любіў футбол. Паколькі нарадзіўся на Украіне, то, безумоўна, «хварэў» за кіеўскае «Дынама». Потым вучыўся ў Ленінградскім тэхналагічным інстытуце, дзе працягваў ганяць мячык і, урэшце, трапіў па размеркаванню ў беларускі горад над Прыпяццю, назва якога — Мазыр.

**— Лёс, відаць, не адразу занёс вас у футбольную каманду?**

— Зусім не. Я пачаў сваю рабочую кар'еру на заводзе кармавых дражджэй, адкуль выйшаў намеснікам галоўнага тэхнолага...

**— Ну, і куды вы накіраваліся?**

— Проста на свой хлеб, далёкі ад дыпломнай спецыяльнасці.

З 1989 года — я ў камерцыі. Паспрабаваў працаваць самастойна, арганізаваў сваю фірму, якая праз два гады атрымала назву МВКЦ.

**— Не ўдаючыся ў падрабязнасці, што яна сабой уяўляе сёння?**

— Зараз можна смела сказаць, што гэта холдынгавая кампанія. У цэнтральную фірму уваходзіць больш як 20 фірмаў — абсалютна самастойных. Праўда, палітыку ўсіх гэтых арганізацый вызначае галаўное прадпрыемства — АТ МВКЦ. Накірункі дзейнасці самыя розныя. Мы займаемся міжнародна-транспартнымі перавозкамі, аказваем насельніцтву медыцынскія і лячэбныя паслугі, займаемся страхавой дзейнасцю, выконваем розныя мантажныя работы, гандлюем электраабсталяваннем, камп'ютэрамі, медыкаментамі, харчаваннем. Яшчэ мы з'яўляемся дылерамі вядомай нямецкай фірмы па пашыву мужчынскага адзення «Ahlers».

Юрыдычнай адзінкай акцыянернага таварыства МВКЦ з'яўляецца клуб з аднайменнай назвай. Дарэчы, у нас выдаецца і свая клубная газета «Футбол».

Вось, калі коратка, візітная картка нашай холдынгавай кампаніі.

**— Мікалай Рыгоравіч, у адной вашай асобе прадстаўлены прадпрымальнік, юрыст, бухгалтар, трэнер — на футбол наогул можа не хапіць часу. А вы ж як-ніяк — прэзідэнт футбольнага клуба?**

— Улічваючы той фактар, што структура холдынгу АТ МВКЦ ужо пабудавана, у кожнай фірме ёсць свой дырэктар, мне працуецца параўнальна лёгка. Таму прыкладна палову свайго часу я аддаю футболу. Праўда, у работу трэнерскага саставу я не ўмешваюся. Не спрабую кіраваць трэніровачным працэсам, не ўказваю Юрэвічу, каго трэба выстаўляць на гульню, а каго не.

**— Іншымі словамі, ваша справа — забяспечваць жыццядзейнасць клуба, а задача ігракоў — добра гуляць.**

— Вядома, інакш пытанне і не можа стаяць.

Ведаеце, укладваць вялікія грошы ў футбол няма сэнсу, калі каманда не будзе паказваць добрыя вынікі.

На мой погляд, затраты на ўтрыманне клуба павінны яшчэ кампенсавацца папулярнасцю каманды, а значыць, і рэкламай нашай кампаніі.

**— Гэта, можна сказаць, даходныя артыкулы клуба?**

— У прынцыпе, так. Папулярнасць каманды напрамую звязана з продажам атрыбутыкі, сувеніраў і г. д. Наогул, у клубе існуюць камерцыйныя аддзелы, якія займаюцца камерцыйнай дзейнасцю і зарабляюць грошы.

Дарэчы, ФК «МВКЦ» — вельмі сур'ёзны пастаўшчык у рэспубліку зерня, а таксама зерневытворных: камбікорму, мукі...

**— Шчыра кажучы, я спадзяваўся пачуць нешта і пра нафту. Думаю, што не здзіўлю вас кулуарнымі сцвярджэннямі некаторых каляфутбольных спецыялістаў, што ў Мазыры футбол жыве і квітнее ў асноўным дзякуючы таму, што тут знаходзіцца гігант айчыннай нафтаіндустрыі — Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод.**

— Сёння гаварыць аб тым, што АТ МВКЦ займаецца нафтай — гэта абсурд. Адпаведна ніякіх нафтадолараў ні ў камандзе, ні ў кампаніі ў цэлым няма. Што датычыцца розных чутак... Ведаеце, у Мазыры «чорнае золата» і раней было, аднак нармальнага футбола тут не было. Вось і ўвесь адказ.

Вядома, Мазырскі НПЗ — адно з буйнейшых прадпрыемстваў у горадзе і ён вызначае тут пагоду, паколькі ад яго работы залежыць не толькі футбол, але і жыццё гараджан увогуле. Безумоўна, калі б не дапамога МНПЗ, то ў нас цяпер не было б выдатнага стадыёна, а значыць, і футбола. Ну, а футбол у Мазыры — гэта сацыяльная з'ява, паколькі, мабыць, не знойдзеш той сям'і, дзе хаця б адзін чалавек не з'яўляўся прыхільнікам гульні ў мяч. Натуральна, што калі АТ МВКЦ знаходзіцца ў горадзе, то ў нас ёсць і пэўныя сувязі з нафтавікамі.

Як вынік, сёлета міждзяржаўная нафтавая кампанія «Слаўнафта», у састаў якой уваходзіць і Мазырскі НПЗ, стала афіцыйным спонсарам ФК МВКЦ. Праўда, такое дзелавое супрацоўніцтва не вырашыла ўсіх фінансавых праблем. І тым не менш, за экіпіроўку каманды, за закупку некаторага абсталявання і пэўнага рэкламнага матэрыялу — вялікі дзякуй нафтавікам.

Спадзяёмся, што ў хуткім часе ў ліку спонсараў клуба выступіць і фірма «Ahlers».

**— Мікалай Рыгоравіч, думаю, што спонсары падаспеюць своечасова. ФК МПКЦ на пад'ёме. На парозе гульні ў еўракубках. Справа толькі за футбалістамі і трэнерамі.**

— Я ўпэўнены, што добры вынік робіцца не толькі фінансавымі ўліваннямі і нейкай мэтавай дапамогай. Многае залежыць ад згуртаванасці калектыву, падбору як трэнерскага саставу, так і ігракоў. За апошні час мы правялі вялікую «селекцыйную» работу. Прасачыце: за 1994 год каманда на 99 працэнтаў змянілася поўнасцю. Нешта падобнае адбылося і ў мінулым годзе. Мы вымушаны былі адмовіцца ад паслуг некаторых футбалістаў і ўзялі здольную моладзь, якая задавальняе галоўнага трэнера. Таму я лічу, што на сённяшні дзень мы ўкамплектаваны патрэбнымі кадрамі. Гэта датычыцца як ігракоў, так і кіраўніцтва клуба. І мы можам смела ставіць перад сабой самыя розныя задачы.

**— Лагічна было б запытаць: вы сказалі сабе што «ўсе ў зборы», калі ў ФК МВКЦ прыйшоў прэзідэнт мінскага «Дынама» Леанід Гарай?**

— Скажу проста: для нас з'яўленне ў радах каманды такога вядомага ў футбольных колах Еўропы чалавека, як Гарай, было вялікай удачай. Ён, лічыце, усё сваё свядомае жыццё правёў у футболе. І нам вельмі патрэбен быў такі вопытны, аўтарытэтны, прыстойны і добрасумленны спецыяліст, як Леанід Паўлавіч.

Да таго ж, мы выйшлі на еўрапейскія кубкі. І тут узнікла шмат праблем, якія нам дагэтуль былі абсалютна невядомы. Напрыклад, прыём замежных дэлегацый, адпаведнасць міжнародным нормам спартыўных збудаванняў.

Дзякуючы Гараю мы ўжо давялі да еўрастандарта адміністрацыйнае памяшканне клуба.

**— Усё гэта добра, але ж мазырскі стадыён «Юнацтва» камісія УЕФА, якая нядаўна з інспекцыйнай місіяй знаходзілася ў Магілёве, Маладзечне і Мазыры, не прыняла. Вас гэта не хвалюе напярэдадні адказных матчаў?**

— Зразумела, хвалюе, але я ўпэўнены, што да пачатку ліпеня стадыён будзе поўнасцю гатовы да прыёму каманд любога ўзроўню, у чым і павінны будуць упэўніцца новыя інспектары УЕФА. Дарэчы, цяперашняя дэлегацыя адзначыла, што ў нас травяны газон на полі адзін з лепшых у рэспубліцы. Па ўмовах для футбалістаў, арбітраў пытанняў не было. Раздзявальні, масажныя, душавыя — усё ў поўным парадку.

Наша задача зараз: давесці да гатоўнасці другую гарадскую гасцініцу, абсталяваць месцы для работы прэсы ў час правядзення сустрэч, хоць прэс-цэнтр каля стадыёна ў нас у выдатным стане.

**— Скажыце, Федэрацыя футбола Беларусі не застаецца ў баку ад вашых праблем?**

— Не, за што мне хочацца ёй падзякаваць. У час інспекцыі УЕФА нам вялікую дапамогу аказалі супрацоўнікі ФФ РБ Вадзім Жук — вядомы беларускі арбітр, Аляксандр Чарнуха і перакладчык Юрый Грынкевіч.

**— Мікалай Рыгоравіч, усведамляючы папулярнасць нашага футбола ў Еўропе, вы садзейнічаеце яго прапагандзе на Палессі?**

— Ведаеце, укладваючы грошы ў футбол, я разумею гэта як прапагандысцкі крок у развіцці футбола, і перш за ўсё сярод простых балельшчыкаў. Думаю, што такое пачынанне павінны падхапіць і сродкі масавай інфармацыі, у прыватнасці і айчыннае тэлебачанне, дзе можна паказваць прыхільнікам гульні ў мяч фрагменты і эпізоды пасля кожнага тура чэмпіянату Беларусі. Наколькі я ведаю, відэафільмы сустрэч ёсць у многіх каманд. Калі вы памятаеце, то не так даўно ў нас была такая тэлеперадача, дзе падводзіліся вынікі тураў з выкарыстаннем відэазапісу.

Сёння ж на «блакітным экране» на беларускім канале таксама можна ўбачыць футбольную праграму. Напрыклад «Супергол». Але там, як ні дзіўна, асвятляюцца пераважна чэмпіянаты многіх еўрапейскіх краін, толькі не Беларусі. А шкада. Людзі нашы чакаюць менавіта поўнага асвятлення беларускага чэмпіянату. Многія з іх літаральна жывуць футболам. Дык чаму ім не пайсці насустрач?

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ*

## ЧЭМПІЁН УСТУПАЕ ЛІДЭРСТВА

**Нарэшце прыйшоў вялікі футбол у сталіцу. Гэта выдатна было бачна ў нядзелю, калі на мінскім стадыёне «Дынама» сустракаліся аднаклубнікі з Мінска і Брэста. Дарэчы, напярэдадні да гэтага паядынка была прымеркавана прэс-канферэнцыя, якую арганізаваў супрацоўнік ФК «Дынама» Людас Румбуціс. Акрамя пытанняў прыватнага плана да галоўных трэнераў сталічных каманд Івана Шчокіна і Віктара Сокала ў адрас Румбуціса было выпушчана некалькі крытычных стрэл наконт арганізацыі нармальнага перадматчавага сервісу ў выглядзе ларкоў з кока-колай, квасам, хот-догамі. Пасля чаго Людас Іонавіч запэўніў, што калі толькі не будзе розных няўвязак у дазваляльных органах на сервіс для балельшчыкаў, то за «Дынама» справа не стане.**

І сапраўды, слова сваё колішні футбаліст і трэнер стрымаў. Яшчэ задоўга да пачатку матча народ мог патаптацца ў невялікай чарзе за сасіскамі і ліманадам у чаканні першага афіцыйнага матча на галоўнай спартыўнай арэне рэспублікі. І як ніколі на гульню сабралася шмат гледачоў, якія, на шчасце, не аказаліся расчараванымі пасля фінальнага свістка. Хоць, напэўна, чакалі ад чэмпіёна і большага, чым нічыёй 2:2.

На пачатку сустрэчы склалася ўражанне, што мінчане, якія дагэтуль дзялілі лідэрства з МВКЦ, хочуць перайграць футбалістаў з-пад Буга, як кажуць, адной левай. І гол на 4-й хвіліне, які забіў Макоўскі, даваў падставу для такой надзеі. Аднак госці аказаліся зубастымі і з інтэрвалам у18 хвілін змаглі двойчы пакараць гаспадароў за залішнюю ўпэўненасць. Маглі яны гэты матч давесці і да перамогі, калі б больш умела выкарысталі выгаду контратак. Праўда, і чэмпіёны мелі магчымасць не адзін раз не толькі зраўнаваць лік, але і выйсці наперад. У рэшце рэшт, выраўнаваць становішча ім удалося толькі пад канец сустрэчы пасля ўдару Аляксандра Хацкевіча. Большага дабіцца не ўдалося.

Між тым, сапернікі мінскага «Дынама» па лідэрству (МВКЦ і «Атака-Аўра») змаглі дабіцца перамог з аднолькавым лікам 1:0 над сталічным тарпедаўцам і «Лакаматывам-96», адпаведна і выйшлі наперад.

**ВОСЬ ВЫНІКІ АСТАТНІХ СУСТРЭЧ:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Дынама-93 | — | Нёман | — 3:0 |
| Нафтан | — | Шахцёр | — 1:0 |
| Ведрыч | — | Абутнік | — 0:0 |
| Белшына | — | Тарпеда (Мг) | — 6:0 |
| Маладзечна | — | Днепр | — 3:0 |

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА ПАСЛЯ 4-ГА ТУРА**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. МВКЦ | 4 | 4 | 0 | 0 | 9-1 | 12 |
| 2. Атака-Аўра | 4 | 4 | 0 | 0 | 6-2 | 12 |
| 3. Дынама (Мн) | 4 | 3 | 1 | 0 | 10-3 | 10 |
| 4. Дынама-93 | 4 | 3 | 1 | 0 | 5-0 | 10 |
| 5. Нафтан | 4 | 3 | 0 | 1 | 6-3 | 9 |
| 6. Тарпеда (Мн) | 4 | 2 | 1 | 1 | 3-2 | 7 |
| 7. Белшына | 4 | 2 | 0 | 2 | 9-5 | 6 |
| 8. Маладзечна | 4 | 1 | 2 | 1 | 5-3 | 5 |
| 9. Лакаматыў-96 | 4 | 1 | 2 | 1 | 4-3 | 5 |
| 10. Днепр | 3 | 1 | 0 | 2 | 1-4 | 3 |
| 11. Дынама (Бр) | 4 | 0 | 2 | 2 | 4-6 | 2 |
| 12. Тарпеда (Мг) | 4 | 0 | 2 | 2 | 1-8 | 2 |
| 13. Ведрыч | 4 | 0 | 1 | 3 | 1-5 | 1 |
| 14. Абутнік | 4 | 0 | 1 | 3 | 1-5 | 1 |
| 15. Нёман | 3 | 0 | 1 | 2 | 2-8 | 1 |
| 16. Шахцёр | 4 | 0 | 0 | 4 | 1-10 | 0 |

Наступны, 5-ы тур, пройдзе 12-13 мая.

*ХАКЕЙ. ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ*

## ЧЭМПІЁНЫ ПРАЗ 11 ГАДОЎ

У Вене завяршыўся 60-ы чэмпіянат свету па хакею. Перамогу святкавалі хакеісты Чэхіі, абыграўшы ў фінале каманду Канады — 4:2. Апошні раз зборная Чэхаславакіі заваёўвала золата аж у 1985 годзе.

Каманда Расіі засталася без узнагарод, уступіўшы ў матчы за 3-е месца амерыканскім хакеістам — 3:4.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*УСМЕШКА МАСТАКА*



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

# ЧАЛАВЕК ЗА КРАТАМІ

**ПРАКУРАТУРАЙ РЭСПУБЛІКІ прааналізавана работа па ўмацаванню законнасці, рэжыму адбывання пакарання асуджаных у папраўча-працоўных установах і месцах папярэдняга зняволення. У больш чым дваццаці папраўча-працоўных калоніях і турмах, сямі следчых ізалятарах, якія размешчаны на тэрыторыі рэспублікі, утрымліваецца 53.314 чалавек (пры ліміце каля 40 тысяч). Дарэчы, гэта самая вялікая колькасць за апошнія 30 гадоў.**

Разам са складаным становішчам са злачыннасцю ў дзяржаве вельмі напружанымі застаюцца і ўмовы ўтрымання ў калоніях і следчых ізалятарах.

Узмацняецца ўздзеянне на асуджаных і адміністрацыю установ з боку арганізаваных злачынных структур. Не перапыняецца паступленне па розных каналах у калоніі грошай, наркотыкаў, спіртных напояў. У 1995 годзе ў асуджаных і абвінавачваемых канфіскавана больш як 4 тысячы колюча-рэжучых прадметаў, 1394 літры спіртнога, каля 40 мільёнаў рублёў грошай і каштоўнасцей, 15 кілаграмаў наркатычных рэчываў.

Значна пагоршыўся і крымінагенны састаў асуджаных. Добра бачная тэндэнцыя да амаладжэння злачыннасці. Цяпер у ППУ знаходзіцца ва ўзросце да 20 гадоў — 11 працэнтаў, ад 21 да 30 гадоў — 39 працэнтаў асоб, якія адбываюць пакаранне. Больш за 3 тысячы чалавек адбываюць пакаранне за наўмыснае забойства. Нават знаходзячыся ў калоніях, некаторыя з іх зноў учыняюць злачынствы (у 1995 годзе ў месцах зняволення ўчынена 113 злачынстваў, з іх 7 наўмысных забойстваў).

Выклікае занепакоенасць узмоцнены ўплыў на спецкантынгент аўтарытэтаў злачыннага асяроддзя, адраджэнне зладзейскіх традыцый. Гэтаму садзейнічае і перапоўненасць калоній і следчых ізалятараў. Напрыклад, у следчых ізалятарах на 1 спальнае месца прыпадаюць па 2 чалавекі, нягледзячы на тое, што там стаяць 3-ярусныя нары.

Харчаванне ў сталовых праводзіцца ў 4-5 змен, з самага ранку (4.30) да позняга вечара (23.00). Трэба адзначыць, што не спрыяе парадку ў калоніях і незанятасць асуджаных вытворчай працай з-за яе адсутнасці. Штодзённа на працу не выводзіцца 70—75 працэнтаў асуджаных. Ды і на бюджэт незанятасць кладзецца цяжарам. За 1995 год на ўтрыманне спецкантынгенту затрачана больш як 300 мільярдаў рублёў. Уплывае на перапоўненасць следчых ізалятараў і працягласць тэрмінаў разгляду крымінальных спраў судамі. Затрымліваецца накіраванне ў следчыя ізалятары копій прыгавораў і даведак аб уступленні прыгавораў у законную сілу. З павелічэннем колькасці спецкантынгенту наспела неабходнасць у павелічэнні штатаў работнікаў пракуратуры і ППУ.

Генеральным пракурорам Васілём Капітанам і МУС РБ унесены прапановы па ўдасканаленню крымінальна-працэсуальнага і выканаўчага заканадаўства, якія прадугледжваюць прымяненне мераў пакарання, не звязаных з пазбаўленнем волі за злачынствы, якія не адносяцца да катэгорыі цяжкіх.

З удзелам работнікаў пракуратуры падрыхтаваны праект Канвенцыі аб перадачы асуджаных — грамадзян іншых краін СНД у гэтыя дзяржавы для далейшага адбывання пакарання. Такіх, дарэчы, у калоніях налічваецца некалькі тысяч. Прапрацоўваецца пытанне і аб прымяненні амністыі да асобных катэгорый асуджаных.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.**

# ДЗВЕРЫ Ў «СВЕТ КАХАННЯ»

**МІНЧАНКА ВОЛЬГА С., 1976 года нараджэння, хацела жыць шыкоўна. А вось каб працаваць, такога жадання не было. Дарэчы, прафесію, якую ў народзе называюць адной з самых старажытных, яна асвоіла з поспехам і вырашыла перадаць набыты вопыт дзяўчатам, а прасцей кажучы, заняцца зводніцтвам.**

З гэтай мэтай яна ў рэкламна-інфармацыйнай газеце «Экспрэс-рэклама» змясціла дзве аб'явы з указаннем нумара свайго хатняга тэлефона. У адной аб'яве было запрашэнне дзяўчат на конкурснай аснове на высокааплатную працу, у другой — тлумачэнне, што забяспечаным мужчынам чароўныя незнаёмкі адкрыюць дзверы ў свет кахання. Тэлефонныя званкі па аб'явах як з таго, так і з другога боку не прымусілі сябе доўга чакаць. Прэтэндэнткам на ўдзел у так званым конкурсе яна адкрытым тэкстам тлумачыла, у чым канкрэтна будзе заключацца іх высокааплатная работа, а ў жадаючых зазірнуць у гэты самы свет кахання цікавілася іх фінансавымі магчымасцямі.

Калі брыгада «пасцельных працаўніц» была ў зборы, Вольга пачала выконваць паступаючыя заяўкі. Дзвярамі ў «свет кахання» аказаліся дзверы ў звычайную кватэру ў адным з дамоў па Партызанскім праспекце ў горадзе Мінску, ключы ад якой даў Вользе яе знаёмы, які часова адсутнічаў у горадзе. Наносіліся візіты і па адрасах, указаных у заяўках.

Усяго ў «брыгадзе» было пяць жрыц кахання, плюс сама «брыгадзірка», якая таксама не грэбавала займацца «каханнем» за грошы. З 30 долараў ЗША, што плаціліся прастытуткам за сеанс кахання, 15 долараў атрымлівала работадаўца, г. зн. сама Вольга. Паводле даных следства, за няпоўны месяц «работы» яна мела некалькі мільёнаў рублёў.

Захопленая планамі пашырэння сваёй сексдзейнасці, Вольга зусім упусціла з-пад увагі, што аб'явы чытаюць не толькі аматары жаночай прыгажосці, але і работнікі міліцыі, якія разглядаюць такія аб'явы зусім у іншым кантэксце. Так Вольга С. трапіла ў поле зроку так званай «міліцыі нораваў». Астатняе было справай міліцэйскага майстэрства і прафесіянальнай тэхнікі.

Аднойчы Вольга прыняла чарговы заказ, паступіўшы ад двух мужчын, якія пажадалі за 200 долараў ЗША даведацца, што хаваецца за таямнічымі дзвярамі «свету кахання». Са свабодных ад «работы» жрыц кахання ў наяўнасці была толькі Алена. Каб не страціць багатых кліентаў, Вольга сама вырашыла «ўспомніць маладосць».

Сустрэча адбылася ў раёне дома № 93 па Партызанскім праспекце каля абменнага пункта валюты. Дзейнічаючы па прынцыпу: тавар у любы час сутак, але грошы наперад, Вольга атрымала пакуль яшчэ не адпрацаваны ганарар, і «раскалола» кліентаў на спіртное. Сексуальныя дабрадзейкі і іх кліенты былі затрыманы. Народны суд Заводскага раёна горада Мінска ўлічыў чыстасардэчнае раскайванне Вольгі, а таксама тое, што ў яе на ўтрыманні дзіця, прыгаварыў маладую жанчыну да 2 гадоў пазбаўлення свабоды з адтэрміноўкай выканання прыгавору на 2 гады.

**Мікалай КРАСНЕЎСКІ,**
**грамадскі карэспандэнт аддзела права і маралі.**

*З СУДОВАЙ ПРАКТЫКІ*

# НІ РЫБКІ, НІ МЁДУ,

## або Аб тым, як адзін прадпрымальнік абяцаў «заваліць» жыхароў Гомельшчыны прадуктамі харчавання ўласнай вытворчасці

**ГАРАЧЫМ ЛЕТНІМ ДНЁМ 1992 года ў адміністрацыйны будынак арэнднага дзяржаўнага прадпрыемства «Саўгас «Цяплічны» Гомельскага раёна рашуча ўвайшоў паважны мужчына сярэдніх гадоў. Кіраўнікі гаспадаркі сустрэлі яго гасцінна і ветліва. Дырэктара прыватнага малога прадпрыемства «Флора» Пятра Фешчанку тут добра ведалі: свой жа, мясцовы браток-прадпрымальнік! Да таго ж чалавек таварыскі, за словам у кішэню не лезе, актыўна разгортвае ўласную камерцыю.**

**Пагаварылі аб жыцці-быцці. Непрыметна пераключыліся на вытворчую тэму. На пытанне, якія справы ў прыватным бізнесе, госць цяжка ўздыхнуў:**

— Кепскія.

— Многім сёння нялёгка, — па-філасофску заўважыла саўгаснае начальства. — Час цяпер складаны. Праблем — мора!

— Сапраўды, праблем хоць адбаўляй, — падхапіў П. Фешчанка. — Яны літаральна задушылі маю «Флору». А ёй прастора патрэбна. Разумееце — прастора!

— Прастора ўсім патрэбна. У бізнесе — асабліва, — глыбакадумна сказаў дырэктар «Цяплічнага» Альберт Белавусаў. — Толькі нельга забываць, што пад ляжачы камень вада не цячэ. Хочаш жыць — умей круціцца!

— Мне б зямелькі гектараў сто займець, — сказаў прадпрымальнік. — Ды каб з вадаёмам, садам, пчальнікам, вытворчымі памяшканнямі, сродкамі механізацыі...

Не раздумваючы, склалі дагавор аб здачы «Флоры» ў арэнду 75 гектараў зямлі з вадаёмам плошчай два гектары, домам пчаляра. У прыдачу адміністратар «падарыў» бізнесмену 120 пчаліных сем'яў, халадзільнік, мотаблок, прычэп і іншую маёмасць. Здзелка адбылася 2 чэрвеня 1992 года.

З таго дня нямала вады сплыло. Аднак пакуль ні рыбкай, ні мядком і не пахла. Стомленыя доўгім і бясплённым чаканнем харчовага багацця самыя нецярплівыя мясцовыя жыхары ўзялі курс на ўладанні П. Фешчанкі.

— Дзе ж вашы далікатэсы? — з сялянскай прамалінейнасцю пацікавіліся яны.

Прадпрымальнік пачаў скардзіцца на цяжкасці цяперашняга быцця. Паскардзіўся на пражэрлівасць вырошчваемых у сажалцы карпаў і карасёў, якія, па яго словах, быццам кракадзілы ежу глытаюць, а росту — ніякага!

Многа выказаў ён крытыкі і ў адрас пчол. Маўляў, дармаеды. Летам уся акруга ў кветках, а яны спакойна ў вуллі сядзяць: дымавой шашкай іх адтуль не выкурыш! Ад іх, маўляў, суцэльныя страты!

— Але вы не хвалюйцеся, — супакоіў ён цікаўных. — Хутка, зусім хутка ад маіх прадуктаў вашы сталы ламацца будуць!..

Аднак цуда не адбылося. Малочныя рэкі ў кісельных берагах не пацяклі ні ў магазіны, ні на рынкі Гомеля. Сваю кіпучую энергію наваяўлены арандатар накіраваў у іншае рэчышча: на паляпшэнне асабістага дабрабыту. Карыстаючыся поўнай бескантрольнасцю, ён хутка знаходзіў выгадныя каналы збыту прадукцыі, распараджаўся чужой уласнасцю, як сваёй кроўнай. Дзейнічаў па прынцыпу: што хачу, тое і раблю. І нарабіў. Са 120 перададзеных яму пчаліных сем'яў у наяўнасці засталося толькі... семдзесят. Астатнія пяцьдзесят зніклі ў невядомым напрамку, быццам скрозь зямлю праваліліся.

Цяжка нават уявіць, чым бы скончылася гэта арэндная эпапея, калі б не ўмяшаўся гаспадарчы суд Гомельскай вобласці. Здзелку паміж саўгасам «Цяплічным» і МП «Флора» ён прызнаў несапраўднай з моманту яе заключэння і абавязаў Пятра Фешчанку неадкладна вярнуць гаспадарцы зямлю, вадаём, пчальнік, вытворчыя і дапаможныя памяшканні, тэхнічныя сродкі.

Пракаменціраваць гэта рашэнне я папрасіў суддзю гаспадарчага суда Гомельскай вобласці Марыю Гаўрон, якая непасрэдна займалася разглядам гэтага пытання.

— Дагавор паміж саўгасам «Цяплічны» і прыватным малым прадпрыемствам «Флора» складзены юрыдычна непісьменна, — падкрэсліла яна. — У ім цэлы «букет» прававых парушэнняў!

Возьмем, напрыклад, Кодэкс Рэспублікі Беларусь «Аб зямлі». У артыкуле 29 дакладна вызначана, што арэндадаўцамі зямлі з'яўляюцца сельскія, пасялковыя, гарадскія і раённыя Саветы дэпутатаў у межах сваёй кампетэнцыі. А калгасы, саўгасы, іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, згодна з артыкулам 64 гэтага кодэкса, атрымліваюць яе ў пастаяннае валоданне для вядзення грамадскай сельскагаспадарчай вытворчасці. Такім чынам, уласнікам зямлі саўгас «Цяплічны» не з'яўляўся. І, натуральна, не меў законных падстаў здаваць яе ў арэнду.

Цяпер уважліва прачытаем артыкул 21 вышэйпамянёнага кодэкса. У ім гаворыцца, што права валодання і права карыстання зямлёй пацвярджаецца дзяржаўным актам, які выдаецца і рэгіструецца раённымі, гарадскімі і пасялковымі Саветамі дэпутатаў. А што зрабілі ў дадзеным выпадку бакі? Можа, яны звярталіся з адпаведнай просьбай у свой родны Гомельскі райвыканком, або хоць бы кансультаваліся з юрыстамі? Не! Самі, маўляў, з вусамі! Склалі пагадненне, паставілі пад ім свае подпісы, замацавалі іх пячаткамі і на тым паставілі кропку. Цяпер з сумам уздыхаюць: чорт падбіў! Толькі пры чым тут нячыстая сіла? Самі ва ўсім вінаватыя!

— Арэнднае дзяржаўнае прадпрыемства «Саўгас «Цяплічны», — тлумачыць далей Марыя Антонаўна, — зарэгістравана ў Гомельскім раённым Савеце дэпутатаў 27 верасня 1990 года (рашэнне № 337). Яго Статут гаворыць, што прадпрыемства ажыццяўляе аператыўнае кіраванне зямлёй і асноўнымі сродкамі, атрыманымі ў арэнду ад аграфірмы «Вясна». Таму цікава ведаць, ці з'яўляўся саўгас «Цяплічны» на момант заключэння здзелкі з МП «Флора» ўласнікам маёмасці? Адразу скажу — не! І вось чаму. Згодна з артыкулам 46 і 47 Закона «Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь» і пастановай пленума Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь ад 3 верасня 1992 года «Аб практыцы разгляду спрэчак, якія вынікаюць з адносінаў уласнасці», дзяржаўныя прадпрыемствы ажыццяўляюць у адносінах замацаванай за імі маёмасці паўнамоцтвы валодання, карыстання і распараджэння ў межах, устаноўленых уласнікам або дзеючымі заканадаўчымі актамі. А згодна з артыкулам 4 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб арэндзе» права здачы маёмасці ў арэнду належыць уласніку. А ён, як вядома, не надзяліў дырэктара саўгаса Альберта Пятровіча Белавусава правам распараджэння сваёй маёмасцю.

Можа, у саўгасе не ведалі аб існаванні гэтых нарматыўных дакументаў? Цудоўна ведалі! Тым не менш, праігнаравалі іх! І што яшчэ дзіўна: арэндная эпапея разгортвалася не на бязлюдным востраве, а пад бокам у абласнога і раённага начальства і аграфірмы «Вясна». І ўсе закрывалі вочы на такую беззаконнасць. Ніхто з адказных службовых асоб і пальцам не паварушыў, каб своечасова яе спыніць. А калі ўбачылі, што аперацыя «Багацце» пацярпела поўны крах, дружна закрычалі «Каравул!» І паспяшаліся за дапамогай у гаспадарчы суд. Давялося прыватнаму прадпрымальніку датэрмінова змотваць вуды. А заадно вярнуць уладальніку тое, што незаконна атрымаў у арэнду. А саўгасу заплаціць дзяржаўную пошліну за судовы разбор. Адным словам — нагаспадарылі!

**Уладзімір ГОЛАД.**

*ЗДАРЭННІ*

## Знойдзены труп дырэктара Мінскага абласнога прадпрыемства «Оптгандальснаб»

**У двары шматпавярховага дома ў мікраёне «Паўночны Захад» быў знойдзены з агнястрэльным раненнем у грудзі труп дырэктара Мінскага абласнога прадпрыемства «Оптгандльснаб». Побач з забітым знайшлі незарэгістраваны пісталет «браўнінг».**

Спецыялісты МУС не выключаюць версію заказнога забойства. Як паведамілі «Інтэрфаксу» ў Галоўным упраўленні крымінальнай міліцыі МУС, у бягучым годзе супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю раскрылі 4 забойствы, адно з якіх было заказным. У 1995 г. было раскрыта 9 забойстваў, кваліфікаваных як заказныя.

## На заходняй мяжы рэспублікі выяўлена буйная партыя безакцызнага спірту замежнай вытворчасці

**У абласным цэнтры на складзе Прыбужскага аблагаснаба, арандаванага ўкраінскім МП «Вітас», супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі (АБЭЗ) мясцовага ўпраўлення ўнутраных спраў выявілі партыю неўлічанага спірту ў ёмістасцях без акцызных марак. Былі канфіскаваны 33.595 літровых бутэлек прадукту польскай вытворчасці і 105 бочак ёмістасцю па 215 літраў кожная са змесцівам з Галандыі.**

Складское памяшканне апячатана. Выстаўлена ўзброеная ахова. Аб маштабах распаўсюджвання «спіртных» спраў у рэспубліцы гаворыць тое, што ў мінулым годзе супрацоўнікі УБАЗ па Брэсцкай вобласці сумесна з брэсцкім УКДБ спынілі дзейнасць міжнароднай групоўкі, якая збіралася незаконна рэалізаваць на тэрыторыі Беларусі спірту на суму каля 40 млн. долараў ЗША.

## Затрыманы грабежнік магазіна АТ «Белінтурыст»

**Генеральны дырэктар адной са сталічных камерцыйных структур, знаходзячыся на падпітку, зайшоў у магазін АТ «Белінтурыст» па праспекце Машэрава і, пагражаючы прадаўшчыцы рэвальверам, спрабаваў адабраць у яе грашовую выручку.**

Адзін са сведак здарэння своечасова паспеў звярнуцца па дапамогу да старшага сяржанта патрульна-паставой службы міліцыі Цэнтральнага РАУС, які дзяжурыў у размешчанай побач гасцініцы «Юбілейная». Пры затрыманні злачынцы міліцыянер вымушаны быў прымяніць табельную зброю.

Паранены ў правае сцягно грабежнік зараз знаходзіцца ў бальніцы. Яго рэвальвер аказаўся газавым.

Паводле даных аператыўных службаў МУС, у студзені—сакавіку бягучага года з выкарыстаннем халоднай і газавай зброі, прылад узлому і іншых прадметаў было ўчынена 3266 злачынстваў.

**Інтэрфакс**

## Абрэзы «растуць» у лясах...

**26 красавіка па вуліцы Трусава ў горадзе Барысаве пры даглядзе аўтамашыны «Волга» вартаўніка МП «Курс» быў знойдзены і канфіскаваны абрэз двухствольнага паляўнічага ружжа. Як растлумачыў гаспадар, ён знайшоў яго ў лесе.**

30 красавіка, разбіўшы вітрыну, злачынцы праніклі ў прадуктовы магазін у вёсцы Лошніца Барысаўскага раёна, адкуль скралі спіртныя напоі і харчовыя тавары. Аператыўная група, якая выехала на месца, паспрабавала затрымаць зладзеяў. Супрацоўнікам міліцыі прыйшлося прымяняць зброю: толькі такім чынам удалося затрымаць злачынную групу з трох чалавек. Прымяненне зброі прызнана правамерным.

У перыяд з верасня мінулага года па студзень 1996 года жыхар вёскі Літвінкі Вілейскага раёна, 1951 года нараджэння, ён жа дырэктар МП «Спадарожнік», шляхам растраты і прысваення ўчыніў крадзеж матэрыяльных каштоўнасцей свайго прадпрыемства на суму каля 59 мільёнаў рублёў. Супраць яго ўзбуджана па гэтаму факту крымінальная справа.

**Сяргей ШОСТАК,**
**супрацоўнік УУС Мінаблвыканкома.**

## Трагедыя ў школе

**Няпростыя хвіліны перажылі вучні і выкладчыкі Брэсцкай СШ № 11, калі ў школу ўварваўся агрэсіўны малады мужчына, пагражаючы «ўсіх парэзаць». На трэцім паверсе ён забег у клас, на вачах перапалоханых пяцікласнікаў разрэзаў сабе вены і, разбіўшы акно, кінуўся ўніз. Нейкі час ён быў без прытомнасці, потым памёр.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе УУС аблвыканкома, гэта загінуў 31-гадовы брэстаўчанін, нехта Нікіцін, які быў раней судзімы і знаходзіўся на ўліку ў наркадыспансеры.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**
**Брэст.**




## НЕ ГУБЛЯЙЦЕ КОЛЫ НА ДАРОГАХ

Пры яздзе па дрэнных дарогах (дрэнныя яны амаль усюды) на «Жыгулях» часам не вытрымліваюць бакавых udараў ніжнія рычагі падвескі пярэдніх колаў — галоўкі балтоў, якія мацуюць шаравыя апоры, выходзяць з дзірак (такія машыны з адваленым колам часта можна ўбачыць на дарозе).



Звычайна месца пашкоджання рычага рамантуюць, прымяняючы зварку. Але гэта часовая мера, паколькі моцнасць пляцоўкі пад галоўкамі балтоў памяншаецца. Наадварот, павысіць яе можна пры дапамозе накладак-шайбаў, калі падкласці іх пад балты, як паказана на малюнку 1. Контур накладак і дзіркі апрацоўваюць на фланцу шаравай апоры.

Малюнак 1. Узмацненне месца мацавання апоры: 1 — накладка; 2 — рычаг; 3 — апора.

## СПАЛЬНЯ Ў СПАДАРОЖНІКА-2108

У аўтамабіля «ВАЗ-2108» для абсталявання спальнага месца добра будзе, калі вы возьмеце ліст фанеры 3 і закрыеце ім нішу для запаснога кола. Такім чынам у аўтамабілі выраўноўваецца амаль двухметровая пляцоўка, вельмі зручная для адпачынку некалькіх чалавек.

1 — падушка задняга сядзення (тыльны бок унізе);

2 — спінка задняга сядзення (знята пасля адкручвання двух вінтоў);

3 — ліст фанеры.




## МЕХАНІЗМ БУДЗЕ ПРАЦАВАЦЬ БЕЗДАКОРНА

У «Жыгулях» у выніку зносу грэбеня кранштэйна перастаў працаваць механізм, якім рэгулююць спінкі пярэдняга сядзення.

Яго вельмі проста аднавіць. Трэба ўзяць зношаны і ўжо непатрэбны для работы прамы ражковы ключ 8х10 мм і стачыць на наждаку 10-міліметровы зеў да таўшчыні, якая будзе роўна шырыні праточкі па рэгуліровачнай цязе, а па вышыні так, каб пры падняцці рэгуліровачнага рычага цяга выходзіла з-за счаплення (мал. 1). Затым загнуць ключ (мал. 2), каб накіроўваючыя яго ўвайшлі ў праточкі рэгуліровачнай цягі, прыварыць да кранштэйна і абрэзаць, як паказана на малюнку 3.



Малюнак 1. Апрацоўка ключа.

Малюнак 2. Выгін ключа.

Малюнак 3. Механізм рэгуліроўкі: 1 — рукаятка, 2 — кранштэйн, 3 — ключ.

## ЗВАРКА НЕ СПАТРЭБІЦЦА

Калі ў «Жыгулях» вырывае пляцоўку, у якой замацаваны шток пярэдняга амартызатара, без зварачных работ не абысціся. Але прыварыць яе складана, бо дабрацца да яе вельмі цяжка.

Але калі прыкласці рукі, можна абысціся і без зваркі. Як?

Стакан стойкі передка, куды ўваходзіць верхняя частка амартызатара, мае конусную паверхню.

Трэба зрабіць тры дэталі, якія паказаны на малюнках. Дзірку ў стакане распілуйце напільнікам і падганіце конус (мал. 1) так, каб ён як мага больш увайшоў у стакан. Пасля зборкі вузла і зацяжкі гайкі, якая мацуе амартызатар, стакан аказваецца шчыльна заціснутым паміж конусам і ўтулкай (мал. 2) і шайбай (мал. 3). Калі даўжыні шчытка будзе недастаткова для накручвання на яго гайкі, прыйдзецца крыху паменшыць таўшчыню верхняга гумавага буфернага кольца.

## ПАРАДЫ МАЙСТРОЎ

Вядома, што пасля зваркі застаюцца сляды акаліны, якія з'яўляюцца ачагамі карозіі.

Калі ж адразу пасля зваркі, як толькі шво перастане свяціцца, пакрыць яго антыкаразійным сродкам і рабіць гэта раз за разам да поўнага астывання, тады і само шво, і зона вакол яго будуць чыстымі, пакрытымі ахоўнай плёнкай.

Такая апраўцоўка карысная і ў месцах з цвёрдым прыпоем — метал вакол робіцца белым і не ржавее.

У «Жыгулях» пры ўстаноўцы цеплаахоўнага шчытка стартэра вам не ўдаецца з-за цяжкасці падыходу ўкруціць штатны болт.

Вазьміце другі, на 5 мм даўжэй, і ўкруціце яго з другога боку ў гайку на апоры. Цяпер на яго, як на шпільку, лёгка надзець вушка шчытка і накруціць яшчэ адну гайку.

Медныя ўшчыльняльныя пракладкі з часам робяцца цвёрдымі і не забяспечваюць герметычнасці злучэння.

Калі пракладка не пашкоджана, дастаткова проста аднавіць яе, нагрэўшы да чырвонага колеру ў полымі літавальнай лямпы ці звычайнай газавай пліты, а затым астудзіць на паветры. Медная дэталь зноў стане мяккай.

## РАЗМЕРКАВАЛЬНІК БУДЗЕ СЛУЖЫЦЬ ДОЎГА

Шарыкавыя падшыпнікі ў размеркавальніках запальвання «Жыгулёў» з часам нярэдка выклікаюць парушэнні ў іх працы — у выніку зносу сепаратар апускаецца і выслабаненыя шарыкі збіраюцца ў адзін бок.

Каб выключыць такую з'яву, разбярыце размеркавальнік і ўкладзіце ў праточку пад падшыпнікам кольцы з вонкавым дыяметрам 38 мм, сагнутыя са стальнога ці латуннага дроту дыяметрам 3 мм, як паказана на малюнку. Сепаратар, атрымаўшы апору, ніколі не апусціцца, а ўнутраная абойма падшыпніка з рухомай пласцінай размеркавальніка не адчуваюць павелічэння супраціўлення кручэнню

1 — корпус размеркавальніка;
2 — рухомая пласціна;
3 — сепаратар падшыпніка;
4 — драцянае кольца.




## КАБ ВАДКАСЦЬ НЕ ВЫЦЯКАЛА

Часта пры рамонце тармазоў трэба аддзяліць шланг, па якім падаецца вадкасць да тармазных цыліндраў.

Каб страты вадкасці была мінімальнымі, лепш пераціснуць шланг паблізу ад наканечніка, чым закрыць дзірку затычкай, балтом і да т. п.

Для гэтага зручна карыстацца ручнымі ціскамі. Калі іх няма, трэба ўзяць кароткі болт з разьбой М8 ці М10, гайку і дзве тоўстыя стальныя шайбы (мал. а).

Яшчэ лепш, калі з дзвюх стальных пласцін і балтоў зрабіць зручнае прыстасаванне (мал. б).



а б

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**7 мая 1563** года вялікім князем Жыгімонтам II Аўгустам прынята грамата аб ураўнаванні ў Вялікім княстве Літоўскім правоў феадалаў праваслаўных і католікаў.

У гэты дзень **у 1583 годзе** пачалося будаўніцтва Нясвіжскага замка.

**7 мая 1633 года** адбылося буйное выступленне гараджан Магілёва супраць мясцовых уладаў. Вялікі пажар у горадзе знішчыў замак.

**У гэты ж дзень таго ж 1633 года** горад Крычаў атрымаў Магдэбургскае права.

**7 мая 1833 год**а ў Гамбургу ў сям'і музыканта нарадзіўся Іаган Брамс, славуты нямецкі кампазітар, піяніст, дырыжор, аўтар папулярных «Венгерскіх танцаў».

**7 мая 1840 года** нарадзіўся вядомы рускі кампазітар, буйнейшы сімфаніст Пётр Чайкоўскі.

**У гэты дзень у 1861 годзе** нарадзіўся індыйскі пісьменнік-гуманіст і грамадскі дзеяч Рабіндранат Тагор (памёр у 1941 годзе), лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1913 года.

**7 мая 1895 года** рускі фізік А. С. Папоў ажыццявіў першую ў свеце радыёперадачу.

### Народны каляндар

Імёны святых **Аляксея** і **Аўсея,** якіх сёння ўшаноўвае праваслаўная царква, самім сваім гучаннем быццам заклікаюць што-небудзь пасеяць у гэты дзень: *«Аўсей — авёс сей»* казалі таксама: *«Сей авёс хоць у ваду, але ў пару».*

### З назвы месяца

Месяц май атрымаў сваю назву ад антычных багінь **Маі і Маесты**.

У гонар іх — апякунак працвітання і шчасця, урадлівасці зямлі і прыгажосці веснавой прыроды — святкаваўся дзень 7 мая. У гэты ж дзень прыносіліся ахвяры і мужу Маі—богу, стваральніку плуга, кавалю Вулкану. Імя Маеста азначае «маці, карміцелька», а старажытны корань, ад якога пайшла назва мая, азначае «быць у сіле», што добра адлюстроўвае характар гэтай пары года.

### А яшчэ быў выпадак...

***Хрысціянскі місіянер у Дэлі Шварц апрытомнеў у час уласнага... пахавання пры гуках вельмі любімага ім псалма і далучыўся да царкоўнага хору прама з труны, чым адразу ж шакіраваў і давёў да страты прытомнасці многіх з тых, хто прыйшоў праводзіць яго ў апошні шлях.***

А вось епіскап Лесбоскі праляжаў у труне два дні, пакуль родныя і грамадскасць рыхтаваліся да пахавання. Епіскап, раптоўна падняўшыся з труны, хацеў прыступіць да выканання сваіх абавязкаў. Ён не разумеў, чаму прысутныя спачатку адхіснуліся ад яго, затым пачалі разбягацца. Цела служыцеля Ватыкана Віторэ пры пахаванні «ажыло» ад дотыку да твару запаленай свечкі. А вялікі італьянскі паэт Петрарка ажыў за чатыры гадзіны да ўласнага пахавання. Пасля гэтага «нябожчык» пражыў яшчэ цэлых 30 гадоў.

### Здарэнні

***Трыццаць два чалавекі атрымалі траўмы і пяцёра былі шпіталізаваны пасля таго, як бацькі дзяцей, што ўдзельнічалі ў конкурсе прыгажосці, учынілі скандал з-за прысуджэння першага прыза.***

Сведкі сцвярджаюць, што буянства на конкурсе немаўлят у Каракасе (Венесуэла) пачалося пасля аб'яўлення імя пераможцы. Раз'юшаныя бацькі ўварваліся на сцэну, напалі на журы і счапіліся паміж сабой. «Вакол стаяў віск і крыкі, з'явілася нават кроў, — апісваў месца дзеяння адзін сведка. — Я не бачыў нічога больш жахлівага. Дзеці былі страшна напалоханыя...»

### Што ў імені маім...

***Мяккія і пагружаючыя ў глыбіні пачуццяў імёны Рыб часам занадта аморфныя, а часам захоўваюць у сабе мяцеж і вабяць у свет бяздоннай вечнасці.***

Для **Рыб-мужчын**, як мяркуецца, найлепш падыходзяць такія імёны: Антон, Афанасій, Багдан, Веньямін, Вадзім, Валянцін, Валерый, Валяр'ян, Васіль, Даніла, Ерамей, Зіновій, Іван, Ілья, Леў, Марат, Мар'ян, Максім, Міхаіл, Натан, Ніл, Раман, Цімафей, Філіп, Фёдар, Уладзіслаў, Эмануіл, Яфім. **Жанчынам**, якія нарадзіліся пад гэтым знакам, рэкамендуецца даваць наступныя імёны: Амелія, Аляўціна, Валянціна, Варвара, Ванда, Вера, Віялета, Ганна, Глафіра, Ева, Ефрасіння, Ірына, Іна, Іда, Лія, Марыя, Мар'яна, Мальвіна, Марфа, Марына, Марта, Муза, Ніна, Нона, Наталля, Ольвія, Паліна, Рыма, Серафіма, Сімона, Тамара, Таццяна, Ульяна, Улада, Фаіна, Эльвіра, Эма.

### Мудрасць

Лепш выявіць свой розум у маўчанні, чым у размовах. (*А. Шапенгаўэр.*)

Жадаючага ісці лёс вядзе, нежадаючага — цягне. (*Клеанф.*)

Мала быць дасціпным. Трэба яшчэ быць дастаткова дасціпным для таго, каб не быць залішне дасціпным. (*Андрэ Маруа.*)

### Анекдот

*— Майму дзеду неўзабаве споўніцца 80 гадоў і ён, ведаеце, вельмі дзіўны чалавек: займаецца падводным паляваннем, конным спортам, тэнісам... Больш таго, ён збіраецца жаніцца на дваццацігадовай дзяўчыне.*

*— У такім узросце ён яшчэ хоча жаніцца?*

*— Па праўдзе кажучы, не так хоча, як вымушаны...*

## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Абанент 170.** Пазнаёмлюся з мужчынам 40—50 гадоў, прыстойным, дастойным павагі, жаночага клопату і кахання. Тэлефон у Слуцку 93-4-55. Вышэйшая адукацыя, разведзеная. Пісаць: 223610, Мінская вобласць, Слуцк, д/з, пашпарт 4610519.

**Абанент 171.** Прывабная жанчына, 43 гады, з вышэйшай адукацыяй пазнаёміцца з прыстойным мужчынам. Адрас: Гомель - 45, а/с 99.

**Абанент 172.** 38/178/80. Казярог, сівеючы брунет, разведзены, маю сына 14 гадоў — жывём з бацькамі, маю свой дом у вёсцы. Пазнаёмлюся з прыстойнай жанчынай для стварэння сям'і. Падрабязнасці пра сябе пры перапісцы.

**Абанент 173.** 32/170/67. Маю прывабную знешнасць, вышэйшую медыцынскую адукацыю, жыл. плошчу ў Мінску. Шукаю дзяўчыну 16—18 гадоў. 220103, Мінск, а/с 45. Андрэю.

**Абанент 174.** Юрыст-міжнароднік, 36/180/90, пазнаёміцца з мэтай стварэння сям'і з жанчынай да 30 гадоў без дзяцей. Тэл. 31-82-86.

**Абанент 175.** Пазнаёмлюся для стварэння сям'і з мінчанінам 25—40 гадоў. Аб сабе: 25/170, сімпатычная, замужам не была, вучуся ва універсітэце. Пісаць: 247500, г. Рэчыца, а/с 16.

**Абанент 176.** Блізня, звычайнай знешнасці, адукацыя вышэйшая, пражываю ў сельскай мясцовасці. 47 гадоў.

Шукаю спадарожніка жыцця без шкодных звычак, які марыць пра сапраўднае шчасце, любіць хатнюю ўтульнасць. Можна веруючага, люблю чытаць святыя кнігі.

Тых, хто п'е і з месцаў зняволення, інвалідаў прашу не пісаць.

**Абанент 177.** Пазнаёмлюся з самастойным мужчынам для сумеснага жыцця. Аб сабе: 45/160/55, Скарпіён, дачка дарослая, жыве асобна. Пісаць: 212030, г. Магілёў. Галоўпаштамт, да запатрабавання п/п III-40 № 649035.

**Абанент 178.** Жанчына немаладога ўжо ўзросту (37 гадоў) жадае знайсці сабе сяброўку-равесніцу Евангельскую хрысціянку — баптыстку і сябраваць з ёй.

Адрас: 211450 Віцебская вобласць, Верхнядзвінскі раён, г/п Асвея, зав. Горкага, д. 18. Шаблоўская Ірына Ігнатаўна.

**Абанент 179.** 27/180. Вадалей, валасы цёмныя, хвалістыя, вочы шэра-блакітныя, халасты.

**Абанент 180**. 23/190. Валасы цёмныя, хвалістыя, вочы карыя. Леў, халасты.

**Абанент 181.** Шукаю спадарожніцу жыцця. Аб сабе: 39 гадоў, Шалі, удавец. Падрабязнасці пра сябе паведамлю пры перапісцы. Коля.

**Абанент 182.** Пазнаёмлюся з жанчынай да 34 гадоў, (можна з дзецьмі) для стварэння сям'і. 221030, Орша, Уж 15/12, атр. 5. Галавенка Вячаслаў Уладзіміравіч.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2218.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12